# Змест

**ПЕРАКЛАДЫ**



**КРЫТЫКА ПУБЛІЦЫСТЫКА ЭСЭ**

# ВЕРАСЕНЬ
# ПАЭЗІЯ

стася кацюргіна аляксей карпенка
кася ляўдацкая арцём сітнікаў
кацярына сянкевіч алесь емяльянаў-шыловіч
ірына грумандзь цімох авілін
валерыя кустава ігар канановіч
уладзімір някляеў



# Стася Кацюргіна

паэтка. Аўтар кніг паэзіі: «Пад ветразем ранку» (2011 г.) і «Парасон» (2011 г.). Нарадзілася ў 1992 годзе ў Гомелі. Жыве ў Гомелі.

# Калядны снег

***

Госпадзі, беражы яго
Ад сонца ілжывага
Светлай Сваёй Любоўю!

І гэту атруту,
болем названую,
(нязваную?)
падзялі
для нас на паловы роўныя,
крывавыя — значыць кроўныя!

Госпадзі, роднага
да Светлай Мяжы
з яго апантанасцю зберажы!

Калі
і надзеі скончацца,
у небыццё захочацца,
Да прорвы той падыдзі,
Дай руку Сваю, Госпадзі,
Рабу Твайму!

Вымаліць
Дазволь, яго лёс выбеліць
Не словамі, так душою.
Ну, а мяне чужою
пакінь!
Я болей
не буду
сонцам над ім.
А ён рабом будзе толькі Тваім
І гэтай Любові...
Амінь.

*2014*

***

Акрыленасць!
Малітвамі зямлі
Так бессаромна вырастаюць крылы.
Мне да душы распранутай, астылай
Не вераць больш ні мачты-караблі,
Ні вецер.
Толькі вейкі твае блізка
І мора некранутай цішыні
На свеце.
Бы з маўклівай адаліскі
Разбэшчаным шаўком спадаюць дні.
І ўсё смяецца подыху жывому.
Што целу нежаданаму цяжар —
Акрыленасць!
Як плечы без крыжа:
Бліжэй да жарсці
ці
Далей ад Бога?
Не ўсё адно!..
Малітвамі зямлі
з пункціру мора вырастае ранак,
Як незагойная святая рана.
Пакорлівая Богу і Любві
Акрыленасць!
...Далёка ад Цябе
Здаецца ўсё мне важным ці бязважкім.
Твой карабель убачыць мне не цяжка,
Калі так проста сэрца там жыве!
Калі б пачуў,
у Госпада прасіла б
твой дзень адзін ды й смелы «по-це-луй»!
Мне з літасцю за гэты лёс даруй
Акрыленасць,
бо ўсё жыццё без крылаў!

*2014*

***

Падары мяне радасці —
Вераснёвай спакусніцы!

Павуцінкі завіліся
у тваіх валасах
Пацалункамі сталасці...

Мне на плечы апусцяцца
(крылы?) рукі, якія без прысудаў-пасад
Цалаваць.
              У шаленстве
Забытай-адрынутай
Мне б паверыць, не болей,
у суцішаны ўздых.

Колькі складачак лёсу
ў далоні пакінута,
Толькі вуснамі
              болю
Не вымаліць іх.

Толькі час пацалуе,
І зёлкамі-вуснамі
Супакоіць жывую,
Любімую плоць.

Дзе змаршчынкі зімуюць,
Здабыты, спакусны Мой,
Мне пяшчоту даруе
Адзіны Гасподзь.

*2014*

***

*Т. Булгакавай*

Лёгкасці ветру
              не стае,
што ж да мяне!..
Снежань... Ён цеплыню разрэжа
І горад — яблык саспелы.
Ўвап'юцца ў духмянае цела
              вусені ўсіх метро.

За снегам прыйдзе святло,
І ў доме зялёным-зялёным
сТАНЕ ўсё
улюбёным!..
І ляжа зіма-зіма...
Бярэцік будзеш здымаць,
Люстэрку не ўсміхнешся.
У ціхай штодзённай песні
Тралейбусам паплыве сіняе-сіняе...

І да бясконцасці:
Табе цішыні не стае,
мне — не хапае лёгкасці...
*2013*

***

Застаюся цнатлівай!..
Калыша лясы
Да начной нематы
Твой расчулены голас.
Тут разлітая боязь
Мілых рук.
Толькі ты
Не спыняй і яшчэ
папрасі: «Пацалуй!»
Пад сукенкай насіць
Кожны дотык (да
ўскрыку шчаслівы).
Застаюся цнатлівай!..
І крыж мой даруй!
Бо яшчэ і абдымкі хаваюць належна
твой спакой,
незалежнасць маю...
Светлы Мой, я і сэрца спыню,
Каб ты спаў легкакрыла!
Застаюся цнатлівай!
Ўстаю на лязо
У адзінай прасцінцы з аблокаў і зор,
І сябе за цябе абдымаю.
Паглядзі, я
ужо не трымаю

За краёчкі.
Трываю ледзь-ледзь —
Ўсюды неба, і страшна ўзляцець...
Толькі шчасце і сэрца прымусіць:
— Застаюся з табой...
Застаюся!...
*2014*

***

Я сэрца слухаю,
сэрца проста
стукае, бы дзіця.
Нашто сягоння ўваскрос ты
усмешкаю
у грудзях.

Цяжарная словам, здрадзіць
Баюся сваёй віне —
Усмешкаю немаўляці
Ён свеціць і праз мяне.

Я слова яго не варта.
Я сонцам яго нясу.
Ён крыж мой,
святло і вартасць жыцця
і яго прысуд.

Дзіця (унутры) — не болей —
зняверана не маўчы!
Тваёй цішынёй, як болем,
Разбуджаная ўначы!
«Сту-чит!»

І смяяцца хоча
Абуджаны ў сэрцы Хлопчык.
Яму і ўнутры так цесна,
Цнатлівы Мой, Уваскрэслы.

Мне ўсё праз Цябе даруюць...
Я гэтак Цябе цалую,
што станаўлюся песняй!

Ды й стуку ўжо не чутна!...
О, Госпадзі, мой магутны!..
*2014*

***

Такое тонкае — не адмаліць,
І светлаю не выкупіць дарогай.
Як пра дзіця распавядаю Богу,
Што ён ўва мне і плача, і баліць,
Што тут яго і не павінна быць,
Што стражнікам стаіць каля парога
Мой грэх.
І столькі шчасця
у грудзях,
Што лёгка перакуліцца ладдзя.
Так, Госпадзі, даруй мне, не пакінь!..
Я праз яго знайду Цябе! Амінь.
*2014*

***

Выпадковы снег і прарочы
Снег. Падсыплюць на двор штоночы,
Бы дзяўчынцы табе — нясмелы,
Снег Калядны (ён самы белы)!
Расцярушаць нябёсы крылы.
Снег раз'юшаны, снег астылы.
Ён і сам спакушае вечнасць —
Снег — здабытая недарэчнасць.
Ўсё пад ім у душы растане
Ці то белае невяртанне
Забаліць унутры пустэчай?
Ды й гарэзліва снег скамечыць
У пухнаты сняжок твой хлопчык
і па белым жыцці пакрочыць...
Што ж — упадзьмем на снег нямілы
Ён табе дамалюе крылы.
З імі супраць ўсяго жывецца.
Не шкада іх, апошніх, будзе,
хай і студзень і той асудзіць.

Супраць месяца аднаверца
Застанецца мне сэрца. Сэрца...
Ды й дакор твой — ужо нясмелы,
Снег Калядны, што самы белы.

*2013*



# Аляксей Карпенка

паэт. Студэнт Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Аркадзя Куляшова. Нарадзіўся ў 1991 годзе ў Магілёве. Жыве ў Магілёве.

# Між парывам і страхам...

***

Спальваем сэрцы свае маладосцю —
П'яныя шчасцем ці цёмнаю злосцю,
П'яныя радасцю, сном альбо болем —
Як усе і заўжды, як ніхто і ніколі.

Носім з сабой свае вёсны і зімы,
Белае снежнае поле радзімы,
Кветкі кахання, нянавісці крыгі —
Россыпы літар жыццёвае кнігі.

Кожны жыве між парывам і страхам,
Кожны са сцэны сысці мае прахам,
Волю знайсці, адлятаючы дымам, —
Кожны — банальны, кожны — адзіны.

Скончуся гэтак, згарэўшы дазвання.
Забраць бы з сабою ў пакоі маўчання,
Заснуўшы і стаўшы халоднай зямлёю,
Кожны свой момант, сустрэты з табою.

## Дняпроўскі боль

Як мантры адно: «Жыве вечна! Жыве!»
Шаптацьмем — з тым шэптам і згінем...

Па хвалях дняпроўскіх боль братні плыве,
Боль братні плыве супраць плыні.

Асleплены люд ад сваёй барацьбы —
За троны, за землі — на мяса!

Склікаюць князі, каб у шале рабы
Кроў братнюю лілі і рады былі...

На купалаўскай, костак поўнай зямлі
Заплакаў помнік Тарасу.

***

Гук іржавае кроплі,
што падае ў брудную мыльніцу,
Мо такі ж, як і гук кулака,
які б'е па няголенай сківіцы,
Ці падобны да гуку бязлітаснай кулі,
што падступна трапляе ў патыліцу —
І ні ў чым болей сэнсу няма,
Бо чыясь недасяжная сутнасць —
Вы яе маскіруеце ў сэрцах пад богаадсутнасць —
Нас — цароў над сабой і прыродай,
Нас — ахоўнікаў сем'яў, дзяржаў і народаў —

Нас — прыроўнівае да дзярма.

***

На двары я спалю свае кнігі —
Сваіх вечных маўклівых сяброў.
Хай згараюць арнаменты слоў...
Мне ўжо не дачакацца адлігі.

Хай сагрэюць хоць так, хоць кагось...
Бо ні слова даўно ўжо не грэе,
Ні паданне, і мова гібее.
Хто ж пачуе — ці шчэ яна ёсць?

Дый свой люд ёю грэцца ці стане?
Непатрэбны старызнікаў груз —
Міф, гаворка... Мяно «Беларус» —
Толькі соллю ў вачах і на ране.

## Тагасветнае

Іржавеюць са сталі мячы,
Храм становіцца грудаю гліны...
Ты адчуеш руку на плячы,
Шыпяне чыйсьці голас з-за спіны,

Не паспееш і крыкнуць — бядзе
Перашкодзіць не здолееш. Лёдам

Стане кроў, і цябе павядзе
Хтось праз безліч сырых пераходаў...

Задрыжыш перад тварам Суддзі,
Ды не знойдзеш сабе апраўдання
І на роспачы чорнай ладдзі
Ты ў пякельнае сыдзеш выгнанне.

***

Водгук конскага бегу
Зноў варушыць траву...
Едзе біцца Сапега
За святую Літву.

І падчас расставання
Кажа любай жаўнер:
«Ты не плач па мне, Ганя,
Буду жыці, павер».

«Хай жа Боская Маці
З табой будзе!» «— Не бойся!»
І свой край вызваляці
Хутка рушыла войска.

І крывёю, як снегам,
Пакрывае траву.
Б'ецца Павел Сапега
За святую Літву.

Ды жаўнер той раптоўна
Быў паранены ў спіну
І ляжыць непрытомны,
Блізка смерці хвіліна.

Толькі чуе, як просяць:
«— Гэй, хлапец, уставай,
Не здавайся» — нябёсы.
«— Бо за спінай — Літва!»

Цераз боль, зубы сцяўшы,
Ціха молячы Бога

Аб палёгцы, узняўся
Ён нарэшце на ногі,

Сцяг у плямах крыві
Над сабою узняў,
Гучна крыкнуў: «Жыві,
Мая маці-зямля!»

І з паглядам вясёлым
Зноў аддаўся ён бою,
І луналі анёлы
Над яго галавою.

...І Ганулечцы любай
Здзейсніў ён абяцанне —
Пад разлапістым дубам
Зноў абняўся з каханай.

Можа, гэта й было,
Можа, байка дый годзе,
А было — заплыло
Шэрым глеем стагоддзяў...

Толькі чуеце: хтосьці
Зноў варушыць траву?...
Ідзе ў бой Каліноўскі
За святую Літву.

***

Ён рыжы гарэза, ён восеньскі кот.
Ён яркі, як водбліск памерлага лета.
Ён лёгкі і дзёрзкі. Вось скочыць праз плот —
І знікне, як чорцік. Маленькага свету

Свайго закуткі ён абшнырыў даўно
І ведае сховы, сцяжынкі і выйсці.
... І гэткім катом я хацеў бы адно
Згубіцца сярод залацістага лісця.

***

А можа, не грэбаваць лёсам
Шчаслівага аўтыста?
У свеце ружовых росаў
Жыві хоць стагоддзяў трыста,

А цела тваё ў кватэры,
На бруку, або ў палаце —
Ці ж розніца ёсць? На халеру
Табе рэчаіснасць, браце?

***

Я, краю, твой. Нашто мяне зракацца?
Я ў дзень народзін падпісаў крывёй
З табой дамову. Путам не парвацца,
Што лучаць нас, бо я навечна твой.
Ты — лёс мой… Стаў сляпым, глухім фанатам,
Цалую пыл тваіх дарог і слёз
Стрымаць не ў змозе... Не забіць і кратам
Бясконцай прагі да цябе, бо ты мой лёс.
Ты — мой прысуд. Да смеху недарэчна —
І ратаваў цябе, і ганіў гэты люд,
Плаціў крывёй і здраджваў… Гэтак — вечна.
Ды ад цябе не збегчы. Ты — прысуд.



# Кася Ляўдацкая

паэтка, журналістка. Аўтар паэтычнага зборніка «У свабодзе поўнай адзінота»(2008 г.).
Нарадзілася ў 1992 годзе ў Гародні.
Жыве ў Варшаве і Гародні.

# У пошуках нерушы

## Асенні баль

Апошні баль асенні... Навокал танчыць лісце,
Зняважыўшы прыстойнасць, ўсё круціцца шалёна.
Стары тужлівы вальс нам вецер зноў насвістае
І кружыць ў пары восень, забыўшыся на стому...

Сціх баль... Знямоглы вецер ціхенька пазяхае,
Рыхтуецца да сну і восень не сваволіць,
Сваю пасцельку коўдрай мядзянай засцілае.
Сабака калыханку ласкава ёй скуголіць.

Бясследна гаснуць кветкі — азяблыя паненкі,
Іх хлопцы-матылькі ніяк не сграваюць,
Нясмела паздымаўшы балёвыя сукенкі,
Аголеныя дрэвы бязгучна засынаюць.

Прывабна ззяюць зоры на млосным чорным небе
І шчодра дораць нам свае нямыя сны,
Сны аб шчаслівай долі, духмяным чорным хлебе.
І аб чароўных цудах майстроўніцы-зімы.

*9.09.2009*

***

Толькі ноччу можна плакаць удосталь
толькі ёй у каўнер
шчыра па-таварыску

цемра не пусціць чужыя вочы
у тваю калыску
абдыме
і журбу захавае ў сакрэце
пашкадуе, як маці калісьці
супакоіць
сваёй цішынёй непахіснай.

цябе зразумее толькі
зніч

што палае побач
плача, глытае слёзы
разам з табой
знікае

а далёкія зоры
застануцца далёка

іх хвалююць толькі
танцы на небасхіле

***

Мне не трэба палкіх прызнанняў,
Гучных слоў і пафасных вершаў,
Мне не трэба, каб ты быў першым,
Мне не трэба тваіх змаганняў,
Мне не трэба тваіх вяршыняў,
Мне не трэба твайго геройства,
Самалюбства да самазабойства.
І забітых не трэба мішэняў.
Толькі трэба, каб ты быў побач,
Калі снег сыпле срэбра нясмела.
І каб цела імкнула да цела,
Каб шчасліва смяяліся вочы.
Каб ты проста кахаў прысутнасцю,
А не слоганамі й цытатамі
І не байкамі тымі смаркатымі,
А сваёй чалавечай сутнасцю.

***

Мне сніцца мама, ціхая, як восень.
Мо, узгадала, часам, незнарок?
У шэрай памяці, што толькі і прыносіць
Дзяцей — зярнят, даспелых так даўно.

Мне сніцца — пераступваю парог
У хату, што спрахнела ад самоты.
Так жаласліва клямка на дзвярох
Вызваньвае забытыя ўжо ноты.

Мне сніцца тата у зарослым садзе,
Захмураныя з ім гамоняць дрэвы
Хіба што пра знічы, што ў лістападзе
Згасіла назаўжды старое неба.

Мне сніцца час. Так, так. Мне сніцца час...
Яго турбота па начах крадзе, як злыдзень,
Каб дзень наступны згас... Хутчэй, каб згас...
Каб кожны месяц зноў знікаў, як тыдзень.

А з ім і клямка, і парог спрахнелы,
І гаманлівы сад-пляткар, і хата,
І рой знічоў у дабіблейскім сінім небе,
І мама-восень, з ёй — маўклівы тата.

***

Не кажы, што кахаеш, маўчы.
У маўчанні цеплыні болей.
І болей праўды.

Лепш усміхніся часам,
незнарок нібыта,
прытулі да сябе і паслухай
мелодыю майго сэрца.
Яно скажа тое,
чаго вочы і вусны пужаюцца.

Яно скажа за мяне,
што з табой у душы маёй
вясна прачынаецца.

*21.05.2013*

## Вынік

Я народжаны дзеля таго,
каб навучыцца рабіць адпаведныя вынікі...
з усяго, што навокал....
з усяго, што дзейнічае
на цела і на душу...
на ўспрыманне рэчаіснасці

і стварэнне светапогляду....
з усяго, што нешта нараджае
хоць бы шчырую усмешку...
хоць бы безпадстаўны недавер...
хоць бы якую-небудзь надзею....

Я народжаны дзеля таго,
каб навучыцца кахаць...
тое, што прыемна кахаць...
і тое, што кахаць непрыемна,
каб навучыцца сапраўды кахаць тое,
што здаецца прыемным...

Я народжаны дзеля таго,
каб навучыцца нараджаць....
нараджаць добрае...
з усяго, што навокал....
з усяго, што дзейнічае
на цела і на душу...
на ўспрыманне рэчаіснасці
і стварэнне светапогляду....

*2009*

## Мы марылі

Мы марылі аб тым, каб свой жыццёвы шлях
прайсці без слёз і вусцішы пустэчы.
Мы марылі аб тым, каб за начной цямрэчай
ліхтар сляпой надзеі не пабляк.

Мы марылі аб тым, каб вольным стаў наш лёс,
да зор цягнуліся усёй сваёй душой.
Мы марылі аб тым, каб поспех нас знайшоў,
і кожны дзень нам радасці прынёс.

Мы марылі аб тым, каб першае каханне,
кіпела ў моры палкіх пацалункаў.
Мы марылі аб тым, каб боль нямых стасункаў
згарэў у вогнішчы пяшчотнага спаткання...

І сэрцы ранілі, і вецер дзьмуў у твар.
Мы спатыкаліся аб злыя перашкоды...

Нас прыгняталі зайздрасць і нягоды...
І ўсё ж трымаў нас сон салодкіх мар.

Не шкодна марыць, лёс — усё ж не цукар,
І з часам нас рэальнасць паглынае.
І нават чарка не дапамагае...
А мара падсалоджвае пакуту...

*06.07.08*

## Пазлы

кавалкі маёй душы
параскіданыя,
несабраныя
адзін да аднаго не падыходзяць

валяюцца сабе
па цёмных кутах памяці маіх сяброў
па светлых кутах бацькоўскіх сэрцаў

непаслухмянае жыццё гуляе ў пазлы
і не спяшаецца збіраць кавалкі ў адзінае цэлае

не магу ні ў чым дапамагчы
аніякага ўяўлення не маю
як павінна выглядаць мая будучыня

і толькі адзін лёс усё ведае
маўчыць нягоднік
кажа — «спрабуй»

*2009*

***

Восень любіць
ранкам запаліць цыгарэту
заплюшчыць вочы і падумаць пра сваю адзіноту
пра тое, што яна — восень кахання
восень надзеяў
саркастычна ўсміхнуцца
успомніўшы
як салодка ўсё пачыналася

восень любіць
назіраць як вецер
(адзін з тых жорсткіх салдафонаў)
бязлітасна зрывае апошнюю вопратку
з аголеных сарамлівых дрэваў
усё што ім засталося
маўкліва памерці
каб ізноў уваскрэснуць
(калі камусьці гэта стане патрэбным)

восень любіць
назіраць як магілы моляцца
як палаюць над імі знічы
і разам з шэрай варонай
якая прыляцела адведаць сваіх памерлых
пакрумкаць пра вечнае пра таямнічае
пакрумкаць пра надзеі і каханне

паплакаць разам са знічамі
пра тое што памірае
што болей не вернецца

*01.11.2010*

## Маленькі цуд

Ізноў неба варожыць
вычароўвае новы дзень
маленькі цуд

магія жыцця прачынаецца ў золках

нарадзілася дзіця ў нястомнай вечнасці
падарунак сусвету
пакладзены нам у рукі

рахманае сонца смяецца над намі

толькі б не разбэсціць
маленькі цуд

*2011*

***

Мы змарнавалі яшчэ адзін шанец — любіць
Табе ўсё роўна
Ты высах як дрэва старое
Ты перастаў адчуваць унутры свае сокі
Кроў
Рух якой ажыўляе каханне
Табе ўсё роўна
Твой голас знямеў
Ты не чуеш нічога
Ты глуханямы
Ты цвёрды знячулены ранены
Марыла я што змагу пасяліць у душы тваёй радасць
Але ты — камень
Ты развучыўся радавацца
Мне страшна цяпер
Што гэта апошні мой шанец
Быў
Каб любіць
А я змарнавала яго
З каменем

*26.10.2012*

## У пошуках нерушы

Твайго шэпту было б дастаткова
каб спыніць мяне
аднаго толькі дотыку
да засмягленых вуснаў

насмакаваўшыся ўдосталь
тваёй абыякавасцю
цяпер туляюся
у пошуках нерушы

каб схавацца
ад свету што з глузду з'ехаў

адгаворка такая ёсць
ад сябе хаваюся насамрэч

## Самохаць

Я проста хацела бачыць
усмешку
на тваім спахмурнелым твары

а зрабілася блазанам
самохаць

можа ўжо хопіць
з мяне смяяцца

## Піжама

У мяне засталася толькі
твая піжама

у ёй прачынаюся
як некалі прачыналася
у тваіх абдымках

## Прымхі

Нашае *разам* — як прымхі
што прадракаюць
ідыятызм будучыні

будучыні без кахання
будчыні без сэнсу

***

Раней я саграvалася
думкамі пра цябе.

Сёння я скалела
ад тваёй абыякавасці.

## Выварацень

Цябе вырвала з каранямі
маё галінастае дрэва

што цяпер станецца з тваімі марамі?
з кім па начах будзе шаптацца вецер?
хто ў спякоту схавае мяне ў ценю?
хто выслухае мяне больш пакорліва?

я плачу, каб стацца да расы падобнай,
каб спатоліць тваю смагу апошнюю,
каб абмыць тваё цела зашэрхлае

прабач, што не была ніколі тваёй надзеяй
і не стану ніколі тваім паратункам

## Ружа

Я прышчапіла чырвоную ружу
да сукенкі з левага боку
каб ты бачыў
што ў маім сэрцы
квітнее каханне

ружа была штучнай

## У торбе тулягі

— Што цягаеш у торбе, туляга,
скібу хлеба на чорны дзень
ці каптан для вяселля новы?

— Крыж Хрыстовы.



# Арцём Сітнікаў

паэт, бард. Друкаваўся ў часопісах «Верасень» і «Дзеяслоў», альманаху «Малое Палессе». Нарадзіўся ў 1987 годзе ў вёсцы Верхні Ломаў Пензенскай вобласці ў Расіі. Жыве ў Мінску.

# Пакахай мяне наноў...

## Малюнак

Я знайшоў у шафе малюнак,
Намаляваны калісьці ў дзяцінстве
Нязграбнай шчырай рукою...
Я знайшоў там сабе прытулак.
Мне тады цікава было так,
Я не ведаў перашкод для фантазій.
Ніхто не казаў: «Няправільна» —
Ўсе казалі ў адзін голас: «Мастак!»
Папера колеру кавы,
Размаляваная рознымі думкамі,
Фарбамі і алоўкамі,
Пальцамі дзеля забавы.
Я стаяў і глядзеў скрозь крыўду,
Бо не ведаў, пра што тады думаў,
Бо забыўся на даўні малюнак,
Што згубіўся ў шафе пыльнай...
Я пайшоў па вуліцы мокрай,
Я з сабою ўзяў той малюнак —
Я хацеў паказаць яго сябру:
Можа, ён дапамог бы...
Разгарнуў, кажу: «Глянь, калі ласка,
Ты, напэўна, ведаеш, што тут;
Ты ж сапраўдны мастак, прыгледзься...»
«Дык няма ж тут нічога, братка!..»
На малюнак гляджу са здзіўленнем,
Што знайшоў у куце цёмнай шафы:
Ад дажджу ён прамок па дарозе,
Засталіся ўсе фарбы ў кішэні;
Засталіся ў кішэні ўсе думкі,
Засталіся разам з грашыма
Ўсе фантазіі і летуценні,
Меркаванні і перакананні...

*сакавік 2007.*

## Словы Твае

Нас ратуюць ад знямення словы Твае,
Цішыню працінаючы мовай.
Нас ратуюць ад засухі рэкі Твае,
Ад смагі вадой ледавіковай.
У часы бязгучных умоў,
У хвіліны сухіх і бязродных слоў...

Нас ахоўваюць ад бяздзейнасці рукі Твае,
З цэглы ствараючы гмахі.
Нас ахоўваюць ад спынення думкі Твае,
Ад павольных пакут чарапахі.
У часы ментальных хвароб,
У гадзіны манументальных спроб...

Нас бароняць ад цямрэчы вочы Твае,
Змрок прабіваючы зрокам.
Нас бароняць ад хлуслівых хваляў вушы Твае,
Лёгкі лёс змяняючы цяжкім рокам..
У часы нябачных муроў,
Ў дні глухіх, неадукаваных сыноў...

Нас засцяроджваюць ад нянавісці сэрцы Твае,
Халадэчу змяняючы цёплым каханнем.
Нас засцярожваюць ад маланкі крыжы Твае,
Адганяючы страх перад чорнаю ноччу — світаннем.
У часы пустых гарадоў,
У гады без весткі зніклых крыжоў...

Нас вядуць па дарозе рукі й рэкі Твае,
Нас бачаць і чуюць вочы й вушы Твае,
Нам спяваюць у прозе думкі й словы Твае,
Нам дзеці малююць сэрцы й крыжы Твае..

*2010*

## Золата

Ад глыбокага бясконцага блакіту
Свеціць праз аблокі,
Праз туман і гарадскі дым
Залатое вечнае сонца,

Якое калісьці насычала сваім золатам
Шэрыя голыя дрэвы,
Якія ад шчасця такого зелянелі,
Наліваліся жыццём...
Цяпер дрэвы залоціць верасень...
*жнівень 2011*

## Твае рукі, твае вочы...

Маё сэрца
Поўнае табой —
Поўня ў небе,
Ціхай мілатой,
Сонцам
Асвятлёная ўночы.

Твае рукі,
Твае вочы —
Мае мукі...

Ды навошта гукі,
Каб маўчаць?
Пасадзіўшы дрэва,
Хіба трэба
Пра яго крычаць
З самых першых дзён,
Калі нават птушкі
Не пяюць на ім?

А мы што? —
Мы спім.

Мілая мая,
Не пытай пра сон,
Што як парасон
Ад дажджу ратуе,
Нас хавае
Ад рэальных дзён
Яснага аблічча.

Мабыць,
Дрэнны звычай —

Спаць уночы,
Бо зусім не бачыць
Твае рукі,
Твае вочы —
Лепш зусім не спаць
І не пытаць:

Хто той хлопчык,
Што глядзіць уверх,
У самае неба
Блакітна-лёгкае?
Ці на апошні паверх,
Бо да неба
Надта далёка?
Пад ім цёплая глеба,
Цяжкая, але родная...

І мы са сваімі страхамі,
Часткова з імі не згодныя,
Спрабуем паветра:
Нібы два аблокі,
Плывем па-над дахамі
Разам з ветрам.
Нібы два сонцы —
Разам з вясёлкай.

Нібы бяздумныя салаўі,
Нікому не бачныя,
Спяваем бясконца
Цёплай ноччу,
Самааддана,
Богу ўдзячныя,
Бачым світанне...

Твае рукі,
Твае вочы —
Так неспадзявана...
Нашае каханне.

*травень 2012*

## Кніга

Калі не дачытаецца кніга
Ды ўпадзе табе на грудзі,
А твае вочы сцяжэюць
Пад восеньскім покрывам ночы —

Я тады адарвуся ад дрэва
І жоўтым лістком праз вакенца
Завітаю, счырванелы ад сораму, —
У кнізе стану закладкай...

Каб раніцай ты адшукала
Месца, на якім спынілася,
І далей пачала чытаць кнігу,
Жывячы кожную старонку...

І абудзіцца мёртвае дрэва
Ад такога бязмежнага шчасця;
А папера ўжо дасць карэнне,
Зноў зялёнаю стане лістота...

*верасень 2012*

***

Пакахай мяне наноў...
Як вясна ўсё абнаўляе,
Хоць віхура шчэ кружляе —
Пакахай мяне наноў.
Хай агмень нас спапяляе,
Вызваляе ад снягоў —

Пакахай мяне наноў...
Як прамень світанкам грае,
Сон зімовы абрывае —
Пакахай мяне наноў.
Хай дажджом нас абмывае
З грукатаннем перуноў —

Пакахай мяне наноў...
Як заранка абуджае,

На цямрэчу не зважае —
Пакахай мяне наноў...
Хай нас вецер узнімае,
Мы свайго шукаем раю —

Пакахай мяне наноў...
Як вада грахі змывае,
Не пытае, не чакае —
Пакахай мяне наноў.
Хай нам поўня маладая
Грае голасам званоў —

Пакахай мяне наноў...
Як калісьці пакахала,
Бы вясну зноў пагукала —
Пакахай мяне наноў.
Ледзьве чутна прамаўляю,
Ўвесь знямелы ад снягоў —

Пакахай мяне наноў,
Як вясна ўсё абнаўляе...
*красавік 2013*

## Мова мая

Кажуць, мова мая
недасканалая,
маразлівай зімой замарожаная,
запаволеная,
замаруджаная —
ды жыве яшчэ,
не сканала яна!

Кажуць, мова мая
недасканалая,
незавершаная,
недарэфармаваная —
яна ў песнях жыве,
не сканала яна,
яна вершамі
зрыфмаваная.

Кажуць, мова мая
забітая,
скрываўленая,
згвалтаваная
наркаматамі
ці
наркаманамі —
ды гучыць,
яшчэ не забытая!

Кажуць, Слова Тваё
незразумелае,
нетрывалае,
недарэчнае —
Яно ў Кнігах жыве,
непамерлае;
ўсё стрывала Яно,
спаконвечнае.
Яно ў свеце жыве —
свята-светлае;
Яно ў сэрцах жыве —
ўчалавечанае.

*сакавік 2014*

***

згрубелыя,
ды белыя,
ўсярозумам
цвярозым мы
няздатныя,
няздольныя —
бы здані —
стацца вольнымі.
бо доляю —
адоленыя,
воляю —
зняволеныя,
вечнасцю —
знявечаныя
здані
здавёнвечныя...

самлелыя,
ды смелыя,
з прагнозамі
пагрозлівымі,
з немаччу
й нямогласцю,
праз ленасць,
млоснасць,
стомленасць —
стаяцьмем —
ці змярцвелыя?
спявацьмем —
ці знямелыя?
скакацьмем —
ці скалечаныя?
ужо ачалавечаныя

душы —
незадушаныя,
целы —
шчэ нястлелыя
з глебы
нашча
створаныя —
хлебам
ўдзень
адораныя...
Слову
ўчалавечанаму
слава ў векі вечныя!
*красавік 2014*

## Дабравешчанне Волі

Ўсяісным ад сну абудзіўшыся ўвесну,
нябесны вястун нясе добрую вестку;
то радасным словам, то поснаю песняй
цвярозаму свету Святло дабравесціць.

Пагрукай, Вястуне, ў грувасткія дзверы,
мячом пасячы камяні недаверу,

скіруй чалавечыя вочы ў Вечнасць,
звярыным абліччам вярні Чалавечасць!

Ды свет не прачнуўся — а, ўрэшце, й не хоча...
Сп'янелыя твары трывала прарочаць —
то проста, то збочыўшы на раздарожжы:
наперад — у багну, налева — ў бязбожжа.

Не дай нам, Вястуне, схіліць да ліхога
ані старога, ані малога!
Скіруй нашы крокі направа — да Бога,
да Вечнабыцця, да Права Самога!

Аскепкі ад скептыкаў параскіданыя,
зямля неўзараная неўратаваная...
А новыя гады ўжо ўзгадаваныя,
дагэтуль у кнігах нідзе не ўзгаданыя...

Нябесны Пасланнік доўгачаканы,
што ў небе пяеш несупынна «Асанна!»,
не дай нам застацца ў самападмане,
не дай заблукаць у самотным тумане!

Ад соннага стану — да сонца паўстання,
ад немачы ночы — да свята світання,
ад душнай няволі — да Духа Свабоды —
вядзі нас, Вястуне, праз рэкі і воды!

*жнівень 2014*



# Кацярына Сянкевіч

паэтка, мастачка. Друкавалася ў тыднёвіку беларусаў у Польшчы «Ніва», гадавіку «Тэрмапілы». Сяброўка Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа». Выдала зборнік паэзіі «Дачка ружы» (2011 г.). Студэнтка мастацкага факультэта Люблінскага ўніверсітэта. Нарадзілася ў 1991 годзе ў Гайнаўцы. Жыве на хутары Граматнае на Беласточчыне.

# Сцежка да цябе...

***

ці я гераіня сумнай песні?

літаратурны малюнак укладваўся на галаве
распавядаў гісторыі
старой душы пустой фарбаванай
як санта клаус з шакаладу

смуткі цякуць з сэрца перыферычным кровазваротам

***

ужо чаканы
вечар
        далікатнае цяпло свечак вачэй награвае твае ўсмешкі
раніца
        заварваю высушанае лісце ўспамінаў
далікатнае і драматычнае
гараць ад жару называння
закахання

актывізуюць мяне як кава
заліваю іх варам штодзённа некалькі разоў

***

мае малое цела
вялікі мікракосмас
не магу з яго пайсці на момант,
каб паглядзець здалёк

ты бачыш мяне з вышыні
абдымаеш адным позіркам
кантралюеш запальванне і тушэнне агеньчыкаў

мігаценне сігнальных лямпаў
вызначае ўзровень зарада
акумулятара

дапаўняеш яго адным поглядам

***

смеласць каб здзейсніць мары
паказваюць пальцам як
памылкі

***

Не знікае час, напоўнены надзеяй.
Памнажаецца.
Я патрабую страчанага часу, напоўненага надзеяй.

Блукаю па калідорах непрыгодных для роздумаў.
Смяюся з тэмпу горада. Чакае мяне вулічны рух..

***

не ведаю, што са мной.
заблакаваныя некаторая спалучэнні
мабільныя
паміж намі.
з'ядае мяне з чэрава
чорны кот угрызаецца
у чырвань і зелень вачэй

супакойваю пакуту малітвай
зайздрасць і тугу
малітвай

***

эмоцыі можна ўключаць і выключаць
я слухаю пакет песняў названы тваім імем
аўтобус спыняецца
квадратныя вокны трымаюць яго
далонь прамавугольнага будынка цягне маё сэрца
людзі глядзяць у мой бок як на вясёлку што з даджом

***

дзясяткі пластоў прыглушанага англійскага ружу
пакідаю на кожным палатне

я не ў стане вызначыць яго матэматычнай формулай

пішу табе лісты, не перапісваючы іх электронным почыркам;
не пасылаю іх у нязмененай форме,
хвалююся што руж праб'ецца на другі бок ліста

***

незвычайная сціпласць
калі б я хадзіла тваімі сцежкамі
не спазнала б суму

знайду сцежку да цябе ў абодвух напрамках
каб пазней дабрацца да цябе
няспынным шляхам або аўтастрадай

пакуль аднак цяжка
думаць так высока
мары спрычыняюць боль

***

гарбата араматызаваная радасцю
з падвойнай дозай кафеіну
пабуджальная
пасалоджаная ўласным імем
паўтораным яе вуснамі

***

пачуццё адчуваецца адчуваннямі
яны выплываюць з сэрца
што гучна працуе побач
прапушчаныя выклікі, ненапісаныя пажаданні
баляць як правіла пазней і
раней



# Алесь Емяльянаў-Шыловіч

паэт, перакладчык, бард. Аўтар зборніка вершаў «Парасонечнасць». Лаўрэат шматлікіх паэтычных конкурсаў. Нарадзіўся ў 1987 годзе ў Крычаве. Жыве ў Мінску.

# Народзіны

***

дзе ў прысадах з каштанаў падаюць,
нібы перапаленыя агромністай плойкай,
скурчаныя цынамонавыя кудзеры;
двухпавярховыя дамы з пячным ацяпленнем
і паедзенымі моллю ўспамінамі на гарышчы;
выспы прыватнага сектара,
дзе здані свабодна блукаюць
між ценяў гаспадароў,
ажывае мой дзіцячы сусвецік.
невялічкі раённы цэнтр
ужо выцер з памяці рысы твару,
а дарожны пыл не памятае маіх ступакоў.
я даўно ўзяў за правіла:
не шкадаваць учора.
а ўласна і не шкадую;
толькі счэсваю голкі з каштана аб крайку,
і, зрабіўшы мячык, б'ю аб асфальт.
ён цмыгае па дарожцы і знікае з вачэй.
без найноўшых тэхнічных прыладаў,
тэлепортаў, машыны часу
кожны вяртаецца да сваіх падворкаў,
садоў, узбярэжжаў, прыстанкаў.
мае каштанавыя прысады
таксама застануцца са мной.

## 1 жніўня

аблокі, маляваныя мяккім алоўкам...
хіба гэтак пачынаўся дзень?
не толькі.
ён пачынаўся музычным эцюдам крокаў,
сімфоніяй цішыні
жнівеньскай ночы,
першай ночы,
калі мне цёпла і ўтульна,
бо ты са мною.

## Алустон

раніцай
жыццё пачынаецца
раніцай,
і дзіця, якое ўнутры цябе,
таксама народзіцца раніцай,
а пакуль Алустон намагаецца
скінуць соннае марыва,
што так марудна цягнецца
з вяршынь Бабугана...

тут
мора гораў
і горы мора,
тут
котак на метры квадратным
больш чым курортнікаў,
тут
нас адшукала сталасць,
тут
пачалася восень...
заўтра раніцай
гэты горад пра нас забудзецца,
і ўспаміны паразлятаюцца,
нібы чаіцы.
мы калісьці прыедзем сюды.
таксама ўвосень.
і натуральна
раніцай!

## мой дождж

мой дождж пачынаецца з...
водару волкага дрэва,
крыкаў палёгкі шэрай травы,
якую вада вызваляе ад пыльнай лускі.
мой дождж працягваецца
і робіцца ўсё мацнейшым,
калі ты далёка —
нават будучы поруч,

бываеш далёка —
і тады мяне не ратуе
чарупіна парасона;
нібы сухую сцяблiну,
кроплі-цапы абмалочваюць цела
мой дождж перапыняецца
вясёлкай тваёй усмешкі.

## prah[1]

яшчэ нядаўна мы былі дзецьмі
а неўзабаве ты будзеш маці
час частуе нас хлебнымі крышкамі
за бяседным сталом
седзімо бліжэй да дзвярэй
праз якія бачна дарогу
і ўсім вядома
што чакае наперадзе
але мы яшчэ
на парозе

***

чакаеш вершаў,
а я не чакаю — ведаю —
неўзабаве падорыш мне
найлепшую ў свеце паэму,
пакуль безыменную —
ведаеце ж як парою складана
прыдумаць назоў.

такую непаўторную
паэтычную форму
здатны адолець кожны.
яна пішацца на працягу 280 дзён,
а потым да пэўнай пары рэдагуецца.
галоўнае —
не выправіць яе да неспазнавальнасці.

---

1 Prah (чэск.) — парог

## яблыкі

падаць яблыку
з яблыні
з кошыка
з рук дзіцячых на брук
падаць яблыку
сабранаму
збітаму
стралою працятаму
падаць яблыку
у гной
у траву
Еве ў руку
падаць яблыку

ты хочаш яблык
каб пах зямлёю
травой і дажджом
і я знайшоў такі
румянашчокі
і доўганогі
толькі з яблыні
падаць яблыку

## дачушка

кожная хвіля цяпер
удвая карацейшая
і месца ў кватэры
быццам паменела
але ж на прастору і час
сталі мы багацейшыя
бо ты з намі
дачушка

## Фікус Бенджаміна

малятка Бэнджы
гжэчны фікус Бенджаміна
жыве на нашым падваконні
прачынаецца а палове на пятую раніцы

калі сонца цалуе ягоныя рукі
і поіць смачным цёплым малаком
малятка Бэнджы
расце па гадзінах
чым шторазу ўражвае гаспадыню
калі сонца заходзіць
малятка Бэнджы
нягучна плача ў калысцы-вазоне
чуеш дачушка
шшшшшшш
цішэй і цішэй
шшшшш
зусім перастаў
малятка Бэнджы
болей не плача
ён заснуў
і ты малюська
бяры прыклад з Бэнджы

## Калыханка для Васілінкі

Ручку пад вушка,
Вочкі заплюшчы
І пакрысе засынай,
Любая дачушка,
Лапатушка, шчабятушка,
Баю-бай.

На калысцы-чоўне
Міма зор і поўні
Мы плывем за небакрай.
Хмаркі, як падушкі,
Цёплых сноў, дачушка,
Баю-бай.

## свабода

дзіцятка
ты любіш свабоду
з пялюшак
хаця пачакай

менавіта іх ты й не любіш
а яшчэ ты не любіш
нагавічкі
пінеткі
шкарпэткі
драпкі
і каптуркі
ты ведаеш што такое свабода
гэта вада
якая адкрыла табе
дарогу ў сусвет
вада
у якой ты штодня любіш пялёскацца
і прывабны водар матулінага малака
ад якога соладка ў роце
бацькавы рукі
што баюкаюць і саграваюць
бразготка ў вазку
што так прыемна дзумкае
тваё віскат і плач і пасопванне ўва сне —
гэта ўсё ты
наша Свабода

## калядны

снег
пухнаты-пухнаты
на хвільку забег дадому
і ведаеш зразумеў
няведанне заўтра
кватэра ў арэнду
недахоп матэрыяльных сродкаў
кран што цячэ на кухні
толькі кварц у пясочным гадзінніку

ён ні разу не варты
пяшчотнага мяккага снегу
які расстае у куточках воч
і слязінкаю шчасця
па твары сцякае

пухнаты-пухнаты снег

## Рукі твае

**I**

твае рукі пахнуць антонавым яблыкам
ледзь не ўкусіў цябе за палец

**II**

калі пісаў гэтыя радкі
яшчэ не ведаў пра цябе
а ўсвядоміў толькі цяпер
што гэта твае мілосныя рукі
як промні ганарлівага сонца
цёплаю вераснёвай раніцай

## Завея ў кастрычніку

Завея ў кастрычніку — крышачку дзіўна,
хоць з кліматам гэтым мажліва ўсё —
кволы снег на кляновай далоні
растае, нібы пацалунак на целе тваім,

Паглядзі, як праз вейкі прывабных соснаў
свеціць скупое сонца
і хоча цалаваць табе шыю і шчокі,
а я і не ведаю, як яму не зайздросціць.

Чуеш вецер спявае тужлівы працяглы блюз? —
гэта я без цябе сумую…
Гэта я без цябе сумую,
мой Анёл,

а завея тымчасам просіцца ў госці…

*26.10.12*



# Ірына Грумандзь

паэтка, літаратуразнаўца. Аўтар кнігі вершаў «Мая душа» (2011 г.). Нарадзілася ў 1985 годзе ў Наваполацку. Жыве ў Браславе.

# Святло прычасця

## Літургія

У сонме грэшнікаў —
Ахвярных ценяў —
Перад дзвярыма
Да Божай ласкі
Стаіш няўмольна
На каленях
І прабачэннем
Зрываеш маскі.
Кавалак хлеба,
Бы тое цела, —
Бялюткі, чысты,
Без заганаў.
Крывёй амыты,
Людскою верай
Праз боль, пакуты,
Любові раны.
Святым, пакорным
Хрыста прыняццем
Праз Божы Дух
Перамянення
Уцелаўляешся
Прычасцем
У сонме грэшнікаў
Збаўленнем.

## Навяртанне

Навярнуцца радасцю
Ды адчуць любоўю.
Схамянуцца зайздрасці,
Адштурнуцца болю.
Ажывіцца вераю
Ды ўдыхнуць пакоры...
Так жыццё і мераю
Божым Вечным Словам.

## Адзінкі

Нелюбімыя не вяртаюцца,
На каханне не азіраюцца,
Апускаючы голаў ніц,
Ім не хочацца больш любіць.

Міласэрныя боль абдымуць,
Пацалункам душу суцешаць,
Іх абдымкі не астынуць
Ў час апошні і найлепшы.

***

Анёл і чорт,
святы і грэшнік,
нябёсы й дно,
то рай, то пекла.

Палёт
у воблачным бязмежжы —
Святло...
І наша вечналета!

***

Шанэль. Сукенка.
Шалік. Усмешка.
Дрыжанне сэрца.
Узняты келіх.

Дзяўчына
з выглядам паненкі
смяецца гучна
на арэлях.

## На могілках

Могілкі. Ціша.
І зноў пахаванне.
Грукат цвікоў
І слёзы расстання.

Могілкі. Ціша...
Да Ўваскрасення.
Літасць Хрыстова
І Крыж —
Як збавенне.

***

Ты вольным будзь —
І станеш братам ветру.
Цярплівым будзь —
Адкрыеш тайну слоў.

Ты смелым будзь —
Адступіць непазбежнасць.
Ты верным будзь —
І станецца Любоў.

Так кожную тваю
памкненне-дзею
Асвецяць
Міласэрнасць і Надзея.




# Цімох Авілін

паэт, філосаф, этнаастраном, музыка. Скончыў фізічны факультэт БДУ і магістратуру ЕГУ. Працуе ў НАН РБ. Нарадзіўся ў 1985 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# У словах, у нотах, у дзеях...

## Дні-апалонікі...

Дні-апалоннікі ў тваім ручаі
Б'юцца ў смяротнай агоніі:
Сёння яны даведаліся —
Няма вечнасці.
І ляцяць, і імчаць,
Просяць у сцяблінь
Адмяніць, скасаваць
Гэты страшны прысуд,
Гэты гучны прысуд
Недарэчнасці.

## Колькі скамечаных думак...

Колькі скамечаных думак
Ужо не распавядзе
Твая сагнутая ўтрая цыгарэта...
У сваёй круглай,
Бы месяца дыск, труне
Ёй падае попел на вока
Заместа меднай манеты.
І травенскім градам
Ляцяць аскепкі крыштальных надзеяў —
Усё крохкае,
І нельга ілгаць
Ні ў словах, ні ў нотах, ні ў дзеях.

## Вялічка

На Вялічка,
З'еўшы чырвонае яечка, —
Праглынуў чыйсьці сусвет.
Можа гэта ён цяпер ува мне
Дажывае чарговы свой век.
У кажуху
На голае цела
Грэе думак маіх першаквет,

Даспяваюць пад ім,
Саспелыя
З шкарлупіны выходзяць на свет....

## Дом

Сон...
Кладзецца травою ў мае рукі...
І рэжа...і рэжа...
Смешна і сумна...

Восені мяккацелай
Іржавыя гукі...
Мярэжай...мярэжай...
Неўзабаве зіма...

Крумчастыя плямы на восеньскім небе....
Арабіны пуанталістычны канон...
Голага дрэва азіяцкія рытмы...
Усё гэта...Усё гэта...
Наскі бацькоўскі дом...

## Лічылка на сон

Баранчык першы — пачынаем вершык,
Баранчык другі — ён не будзе даўгі,
Баранчык трэці — засынаюць дзеці,
Баранчык чацверты — усе думкі сцерты.
Баранчык пяты — анёл ляціць у хаты.
Баранчык шосты — ён кладзе бы пад кросны.
Баранчык сёмы — на ложак пуховы.
Баранчык восьмы — і нам, і дарослым.
Баранчык дзявяты — падарунак багаты.
Баранчык дзясяты — настрой нам узняты.

***

Ён ідзе на вайну,
Мы сядзім лудзім піва...
Зрэшты занадта ўрачыста маўкліва —
Словы трапілі ў палон.
Ён ідзе на вайну.

Усміхаецца лёгка, наіўна,
Дзіцячыя мары спраўдзіліся
Радуйся, мая міла...
Ён ідзе на вайну.
Вось ужо разгавеўся, гуллівы,
Сёння тут свята, тут мір,
Ён даведаецца кошт гэтай хвілі.

## Не грэбуйце сабой дзеля дарогі...

Не грэбуйце сабой дзеля дарогі,
Адданы шляху не прачнецца збоч.
І сэнсу марна не шукай, а кроч —
Зыход вядомы, але Бог даў ногі...



# Валерыя (Валярына) Кустава

паэт, літаратарка. Аўтарка кніг паэзіі: «Кроў Сусвету», «Каб неба сагрэць...», «Тамсама». Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» часопіса «Дзеяслоў» (2009 г.). Нарадзілася ў 1984 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Пацалунак двух мораў...

***

«Пасля цябе на вуснах цішыня...
Было мне вельмі соладка з табой...» —
прамовіў ён і ў думках прыабняў,
спусціўшыся па таліі рукой.

І розніца была мо толькі ў тым,
што ён усё падобнае — сказаў.
Яна ж — ўсё беспадобнае ўпяршынь
валізкамі прывезла на вакзал.

І шчэ паўдня пасля дарогі той,
з усмешкаю збянтэжанай да «ўаў»,
замазвала на шыі незагой,
што вуснамі ўначы расцалаваў.

Ружовыя з сінечай пісягі
пад шчэццю праступалі у яго.
І рэшткі недапаленай тугі
паціху
          пераходзілі
                              ў любоў.
*14 красавіка 2013*

***

Ён так кранальна
кранаў яе —
што як глянеш, сэрца пяе!
Але яна —
як самотная moon,
як поўня,
што множыць сум, —
як навучыла маман,
звыкла рабіць усё сама.

І паслала яго...
да Месяца,
бо папросту
было ёй так — весела.

А ён два тыдні
перажываў перагарам.
І адпала.

*8 ліпеня 2014, Кракаў*

***

Ён глядзеў увесь вечар
на вусны яе
і паўтараў,
якія ж вочы ў яе глыбокія...
Кампліменты былі аднабокія,
бо не лёсіла думаць,
бо вусны яе...

захіналі іх —
тры на дваіх —
вышэйшыя адукацыі,
курсы ангельскай мовы,
і семінары мастацкія,
і тое,
што любілі яны Шапэна,
Ван Гога і Тома Ўэйца.
Усё гэта блізка эстэцкае
апынулася — не да мейсца.

І яна...
туравала ўвесь вечар —
што дадому ўжо час,
і што пойдзе сама,
што стамілася і не выспалася,
што спазняцца не выпадае,
што яе сяброўка паклікала,
што сяброўка чакае...
з ключамі.

ды... сядзела ажно да ўпору.
І сышла —
толькі нараніцу,
практычна —
на самым фінішы.

Сышла
з сэрцам параненым,
прыхапіўшы дробку душы.
*13 ліпеня 2013, Кракаў*

## Інфант

Пакуль не ўзяў за руку,
яна думала, што ён маленькі.
Смуглявы інфант, метр восемдзясят,
вочы — як вішні.

Пакуль не сагрэў шчаку
пацалункам пры белай амеле
у габрэйскім квартале Кракава,
на Старым Месце.

У цёплай гудкой сябрыне
ліліся размова й вішнёўка...
А ў іх так зашкальвалі позіркі —
што збянтэжана свечкі млелі!..

Няхай іх запомняць такімі,
маладымі й крыху няёмкімі,
неспакойна шчасліва-лёгкімі
пацалункамі пры амеле.
*16 ліпеня 2013, Кракаў*

***

У спінжачку прыталеным,
на тры чвэрці адпушчаным,
падкаціў з Італіі
за лета распушчаны:
— Прыгожая, чаго няшчасная?
— Ды не, шчасліва.
Куды ішоў — валі далей.

І пайшла...
Рукі раскінуўшы,
сцёгнамі паводзячы
па-каралёўску,

дзяўчыначка,
мінулае кінуўшы,
спінку нацяўшы,
як лёску.

Радасці радасцяў
й радасці пакутаў
свяціліся знутры яе,
па-
ця-аааг-ва
-ючы-
ся,
у сонечным сплаценні
зблытаныя,
як клубкі
з кацянятамі.

*28 верасня 2013*

***

Ён, барадаты чужы мужчына,
хапае цябе, абдымае, цалуе ў нос,
праз твае ўпіранні і енкі
садзіць сабе на каленкі,
прытуляе да шырокіх спакойных грудзей,
страхуе рукамі плячыстымі,
дазваляе дакрануцца да барады,
калі глядзіш на яго стаўкамі вачыстымі.
Кажа: «Хочаш сабе ляльку? Лады!».
І на ўсё гэта ёсць прычына...

Ён — Дзед Мароз,
а табе — усяго тры гады.
От, дзе ўжо
гэты барадаты чужы мужчына!..

*27 снежня 2014*

***

Такі Новы год, такі.
Сама сябе не пазнаеш.
Бухаеш, смяешся, пяеш.

Панчохі на галаве —
ну ладна, яны не твае.
Такі Новы год, такі...

*6 студзеня 2014*

***

Кожны раз,
калі ён бачыў яе,
то ўсміхаўся.
І на гэтым збудаваць
жыццё яны
маглі.
Прыгожыя маладыя
Паўстанцы
сваёй зямлі.
Так патасна пісалі пра іх
у газетах.
А мэта была іншай.
Стаць шчаслівымі
была мэта.
Ды не выйшла.
Ды
не выпала.
Бо ён пайшоў на вайну.
А яна
з вакна выпала,
з вакна — выйшла.

Прыгожа паміраецца —
толькі ў вершах.
Прыгожая смерць —
толькі на фотках
і ў кінах.
А ты будзеш
апошнім дэбілам
і героем першым,
калі не
спынішся.
Калі не
спыніш.

*30 траўня 2014*

***

Сёння ўсе тэрміны скончыліся,
турэмныя ды любоўныя.
Ты паглядзі ў вочы мае,
багоўна.

Навокал жанчыны
Займаюцца
справамі:
дзяцей нараджаюць,
кіруюць управамі.
Годна
п'юць пад футбол прынагодна,
з Радай Еўропы раюцца,
йдуць нават
у прэзідэнты...
А ты ўсё яшчэ ламаешся
з вясёлым адным
дысідэнтам.

Ты кажаш:
няважна якога
колеру будуць вочы,
важна — глядзелі б з любоўю.
Дзетка,
пабойся Бога,
скуль гэты пафас збочыў,
скідвай сукенку —
дальбог,
у тым перамога.

Пры гэткім росце ды ўзросце,
трэ ўжо ўмець мацярыцца,
сучаснаю
імператрыцай
з капрызкаю
і падпалкоўнікам
кідаць коней
ды коннікаў.

Часта бывае:
па смерці
вельмі хочацца жыць.
Але як за яе памерці,
калі яна проста ляжыць?..

*22 чэрвеня 2014*

***

Бываюць людзі —
якіх, калі прыкласці да ранаў, —
раны загойваюцца.
Бываюць людзі,
якіх немагчыма не любіць, —
а некаторыя спраўляюцца.
Бываюць людзі —
якія па начах мрояцца,
а бываюць,
што ў жыцці — ажыццяўляюцца.

*20 чэрвеня 2014*

***

Мой першы бонжур Вам
з могілак Пэр-Лашэз.
Мой першы Вам бонсуар
няспешны.
У добрай кампаніі
ды
з Эдзітаю Піяф
Ваш верабейчык
Гуляе
па могілках
пешшу.

*13 ліпеня 2014, Парыж*

***

Адкрыццё пераростка:
грэчка да Грэцыі
дачынення не мае,
хоць і пахне маленствам,
у якім табе далі імя

блізкай антычнай дзяржавы —
Рымскай —
у гонар каханай Спартака —
каб цябе кахалі героі,
вартыя Гісторыі.
Прынамсі, тваёй.

*8 жніўня 2013, Родас, Грэцыя*

## Рыба Эклезіяста

Упершыню бачыла,
як рыба пазяхае.
У вялікім самотным
акварыюме,
Сом, як Саламон,
Спазнаў
марнасць жыцця...

*12 жніўня 2013, Родас, Грэцыя*

***

Калі б дазволілі шлюбы
мужчын і прадметаў,
ён бы ажаніўся
з бутэлькай Гінэса
ці Рыцыны.
І маладыя кабеты —
з невялікім досдам
і вялікімі перспектывамі —
лавілі б на ляту
кожную яго тугу,
што мелася разліцца
ды акрапіць
акропалі іх ліндасаў.

*15 жніўня 2014, Грэцыя*

***

На сутыку —
на пацалунку,
як кажуць мясцовыя, —
двух мораў —

на крайняй кропцы
выспы Родас,
піць грэцкае чырвонае
на пару з Зеўсам
не старым яшчэ,
хоць і з барodкай.

Прагноз надвор'я:
падаюць зоры.
(Можаце спраўдзіць
па сваіх айфонах.)
Шчасце: вось яно.
Рэжым «парадыс»
не пераключаецца
цягам усіх
паравінаў года.
І, як зп'яну,
усё мора качаецца:
ёсць нагода...

Ціха сабе нарадваешся,
што ты ёсць.
Але па ўсмешцы
й так усё ясна:
напрыехала, шчаслівіца,
у першы дзень
апошняга летняга
месяца,
нагуляцца
па белых лесвіцах...

*2 жніўня 2013*



# Ігар Канановіч

паэт. Вершы друкаваліся ў часопісах «Дзеяслоў» і «Верасень». Працуе настаўнікам рускай мовы і літаратуры ў Карацкай СШ Клецкага раёна. Нарадзіўся ў 1983 годзе ў Клецку. Жыве ў Клецку.

# Не хапае сябе...

## БМП

Рухавік то раве, то натужна храпе.
Эх! Даўно мы з табой не гарэзілі!
Праз нягоды прастуе мая БМП —
Баявая Машына Паэзіі!

## У выпускны вечар

Выпускны мне нагадаў былое зноў,
Ды няма дарогі пафаснаму слову.
Школа з'ела чвэрць душы за пяць гадоў.
А прыйшоў вучыць згарэлым напалову...

Сёння школа — як марудны Страшны Суд:
Ні спакою, ні павагі, ні заробку.
Кожны тыдзень ты шукаеш «пяты кут».
У «гарачую», настаўнік, трапіў «кропку»!

Вось і звольніўся. Адхлынула бяда.
Але сэрцам не магу сказаць: «Бывайце!»
Мабыць, школьнікаў пакінутых шкада,
Справядлівасцю абдзеленых на старце...

Не ацэняць, малады спецыяліст,
Ні вучонасці тваёй, ні гуманізму.
Нагадаў часоў раскроеных плэй-ліст:
«Пачынаеш ты свой шлях ніжэй, чым знізу!..»

## Глыток

Нішто не цепліцца ўнутры
Пасля нянавісці і болю.
І сэрца абагрэць муры
Я дазваляю алкаголю.

Нясцерпнай горычы глыток
Перашыбае горыч лёсу.

Хавае зноў цяпла прыток
Тужлівай прэснасці пагрозу...

## Сяброўскі жарт

Калі на вышыні застогнуць крылы,
Калі ў вачах — крывавыя нулі,
Дае мне адпачыць, вяртае сілы
Паток — гаючы, цёплы — ад зямлі...

Калі былыя завываюць раны
Ад роздумам пакліканай нуды,
Сяброўскі жарт — майстэрскі, нечаканы —
Разгоніць загусцелы цень бяды!

## Прабачэнне

Ты за няўвагу прабач, Гітара!
З'ела Жыццё рамантызм навічка.
Робіць рабом чалавека Мара —
Грэшнага Часу святая дачка...

## Эпізод

Ноч пачалася з горкіх кропель.
Іду адтуль, дзе смех і грэх...
Згарэлай праўды цёплы попел
Віхурыць, замяніўшы снег...

## Мой сябар

Мой сябар
з былога жыцця
ў гэтым
стаў белым,
залатаверхім саборам.

І, як раней,
пры сустрэчы
мы ўсміхаемся
адзін аднаму.

## Пошукі залатой музы

Па Заманіторыі вандрую —
Не як хуліган і рызыкант!
Я шукаю Музу — залатую.
Русая?.. Таксама варыянт!

І прашу у бога Інтэрнэта:
«Пакажы кароткія шляхі!»
Прадчуваннем радасным сагрэты,
Да сумневу змрочнага глухі...

Спішамся — раптоўна і дарэчна.
Скроім элегантны дыялог.
Блізка найкаштоўная сустрэча.
Не бяда, што поўначы парог!..

## Паэта надрукавалі

Паэта надрукавалі,
і сёння
ён нават гатовы
дараваць мегаполісу
за тое, што ён
зусім не багаты на неба!

## Мажная хмара

Паміж дзвюх
шматпавярховак
захрасла
мажная хмара.

Варочаецца, наракае —
няйначай,
неўзабаве расплачацца!

## Мала

«Мала —
высока ўзляцець.

Мала —
глыбока нырнуць», —

думаю сам сабе
і ў вышыню —
ныраю...

## Пірацкае крэда

Зразумеў, паблукаўшы па свеце:
Добры шанец дае і навала.
Хай мацнее, змяняецца вецер —
Толькі б ветразі не абарвала!

## Эстэтычны намер

Я заб'ю цябе
паміж двума глыткамі
матэ.

Бесперапыннасць гармоніі —
важная справа!

## Памяці загінулых украінскіх патрыётаў

Вядома, жадаю прасторы, камфорту і згоды.
Вядома, пужае зусім не далёкая люць.
Але зразумеў: не купляюць, не просяць Свабоду —
Адкінуўшы боязь, Свабоду навечна бяруць...

## Тралейбус рухаецца ў парк

«Тралейбус рухаецца ў парк!»
І ні направа, ні налева.
Дажыць бы заўтра да прыпеву
Й чужым сядлом не змыліць карак...

«Тралейбус рухаецца ў парк!»
Спакойна, важка, беззаганна.
Яго сустрэнуць паркізаны
І мокрага асфальту пах.

Тралейбус рухаецца ў парк...

## Прашэнне за беднага вучня

Папрашу: як стану волатам пяра,
Прапішуся на старонках хрэстаматый —
Не катуйце маім вершам шкаляра!
Ён ні ў чым перада мной не вінаваты!

У дарослых, пэўна ж, права і рэзон,
Ды не трэба пакаленняў варажнечы!
Дыскатэка і працяглы, моцны сон —
Найважнейшыя ў юнацкім свеце рэчы!

Гэта ж дзеці БЕЛАРУСКІЯ — СВАЕ!
І таму прашу калегу-педагога:
Ну задай, калі праграма, каб яе!..
Але толькі не на памяць — дзеля Бога!

## У такое надвор'е

У такое надвор'е, звычайна, абудзіцца нешта.
Стане словам, радком, нечакана набыўшы вагу.
На тугім скразняку разгарыцца мінулага рэшта.
А тады й пры жаданні маўчаць аніяк не змагу...

Беспрытульныя хмары няўмольна абклалі нябёсы,
Адарвалі блакіт ад зняважаных болем вачэй.
Дрэвы зладзілі сход і, нязгодныя з праўдамі лёсу,
Ваяўніча шумяць, хоць, вядома, не стане лягчэй...

Не хапае слязы, што паклікала б думкі ад краю.
Не хапае майстэрства паставіць заслоны журбе.
У такое надвор'е, хачу не хачу, паміраю...
У такое надвор'е заўжды не хапае сябе.



# Уладзімір Някляеў

паэт, празаік, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (2000 г.). Аўтар кніг паэзіі: «Адкрыццё», «Вынаходцы вятроў», «Наскрозь», «Прошча», «Так», «Кон»; прозы: «Лабух», «Цэнтр Еўропы» і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Смаргоні. Жыве ў Мінску.

# Падманы празрыстай вады...

***(З новай кнігі)***

## Падманы празрыстай вады...

*Р.Б.*

Ты ўспомні: прыйшлі мы сюды,
Глядзелі ў глыбіні і высі
Дасяжныя. Так пачаліся
Падманы празрыстай вады.

На ёй мы шукалі сляды
Анёлаў, абутых і босых.
Так доўжыліся ў нашых лёсах
Падманы празрыстай вады.

Сляды прывялі ў нікуды.
Самкнуліся, ціха сышліся,
Як вейкі, глыбіні і высі,
Падманы празрыстай вады.

*4.03.2014, Вушачы*

## Патэфон

Дастань, Альгуня, патэфон
З-пад трантаў у каморы...
Жыццё на скон, жыццё на скон,
Як пад адхон, як пад адхон
Са свістам поезд скоры.

Усё ў свой час, усё ў свой час:
І п'янка, і пахмелка...
І гэты, што ўсё кружыць нас,
Асенні сон, зайграны вальс —
Заетая кружэлка...

*20.03.2014*

## Смаргонь

*Івану Някляеву*

Сярод ночы ў плацкартным вагоне
Я прачнуўся, да вокнаў прынік.

«Колькі станцый яшчэ да Смаргоні?»
«Маладзечна», — сказаў праваднік.

Значыць, дзве засталіся... Залессе
І паўстанак без назвы... А там...
«Што трасешся?.. На выпі. Сагрэйся...
Памагчы табе?..»
«Дзякуй. Я сам».

Сам я, сам... Вось скажу: «Дарагая!
Я вярнуўся!..» І што яна?.. Як?..
На паўстанку касцёр дагарае.
«Колькі вам за гарбату?..»
«Пятак».

«Варта большага».
«Дай, калі варта».
У паўмзроку плацкартны вагон.
А з агульнага, што за плацкартным,
Надрываецца акардыён:

«Граждане, купите папиросы!
Подходи, пехота и матросы!
Подходите, пожалейте,
Сироту меня согрейте,
Посмотрите, ноги мои босы...»

Вось і станцыя. Скрыгат жалезны.
Цеплавоза пранізлівы ўскрык.
«Свой у кожнага шлях непазбежны», —
Дзверы ляснулі. Знік праваднік.

Што ён ведае?..
Вуліца тая...
«Дарагі!..» А над домам — агонь!
Поезд ломіцца ў ноч, падмінае
Маладзечна. Залессе. Смаргонь.

Колькі ў гоне шаленства, азарту,
Пад адхон — за вагонам вагон,

А з агульнага, што за плацкартным,
Надрываецца акардыён!..
*12.07.2014, Смаргонь*

## Лябёдачкі

У маім двары дом стаіць стары
У старым даму сумна аднаму
А па вуліцы быццам лодачкі
Плывуць вуціцы ды лябёдачкі

Пойдзе па ваду малада ўдава
Я за ёй пайду — кругам галава
А як гром з дажджом упадзе ў траву
Завяду я ў дом маладу ўдаву

Папрашу сядаць у чырвоны кут
Стану ёй казаць як жыву я тут
Павядзе яна на мяне брывом
Ды пап'е віна за маім сталом

А калі я ёй ложак пасцялю
Пакладу з сабой моцна палюблю
Будзе да відна шкадаваць яна
Што раней майго не піла віна

А калі ў акне паплыве зара
Прыйдуць да мяне да майго двара
Не лябёдачкі і не вуціцы
А ўсе ўдовачкі з усёй вуліцы
*4.04.2014, Крэва*

## Яна

*Таццяне П.*

Яна прыснілася, і ў сне
За ёй пылілася дарога,
І глянула яна ў мяне
Вачамі Бога.

Я ўкленчыў, пыл з падолу строс,
І па дзявятае калена

Глыбей, чым апарат Рэнтгена,
Яна высвечвала мой лёс.

І ў лёсе, скручаным змяёй
Перада мной і за плячыма,
Такое бачылася ёй,
З чым жыць на свеце немагчыма.

І калі пыл, які я строс,
Зямлёю стаў, калі я ўрос,
Як камень, у зямлю сырую,
Калі прракляў свой шлях, свой лёс,
Яна ўсміхнулася: «Дарую...»

*13.01.2013, Смалявічы (в.Забалоцце)*

## Ты

«Стань змяёй!»
І ты змяёю стала.
«Рыбай стань!»
І рыба паплыла.
«Птушкаю!..»
І птушка закрыляла —
І змяю, і рыбіну дзяўбла!..

Некалі такою ты была.
Так мяне ты некалі кахала.
Гэтак вырывалася з сіла.

*26.10.2014*

## Каляды

Над Крэвам сцямнела.
І першая зорка ўзышла.
Зусім маладая. І свеціць няўмела.
Пакуль ты шукала, пакуль ты мяне не знайшла —
Над Крэвам сцямнела.

Крэўлянка знямела,
Пад лёдам суцішыўшы бег.
Завея саспела. Прыйшлі снегапады.

Пакуль ты на ганку змятала з валёначак снег —
Насталі Каляды.

Званы зазвінелі.
Хрыстос усміхнуўся з нябёс.
Калядная зорка то гасла, то ззяла.
«Ты рады — пытала, — што гэтакі выпаў нам лёс?..»
Які — не казала.

*6.01.2014, Крэва*

## Ліст у лістапад

*Наталлі*

Нашто табе паэзія, скажы,
У свеце, дзе званы — з маны літыя,
Дзе крамы — поўныя, а храмы — скрозь пустыя,
Дзе грэшнікі жывуць, нібы святыя,
А праведнік
канае на крыжы?

Нашто табе спляценні ўзнёслых слоў,
Саснёныя паэтавы хімеры,
Калі служанкай у вертэпе
Вера,
Наложніцай — сястра яе
Любоў?

Нашто табе метафар гарадзея,
Калі, як дым, цярэбіцца, радзее
Душа — і чалавек
глухі,
нямы,
Калі ўжо безнадзейная надзея
На ўсё, на што надзею мелі мы?..

Калі ў нас сэрцы сталі, як са сталі,
Калі мы ўсе, як нежывыя, сталі
Без веры, без надзеі, без любві,
Калі адна нянавісць у крыві,
Нашто табе паэзія, Наталля?..

Не плач, не плач... не рві душу, не рві...

*6.11.2013*

## На магіле Сакрата

*Лявону Тарасевічу*

Цёплы верасень. Ціхія Крынкі.
Над капліцай звіняць павуцінкі,
І дрыжаць пад крыжамі знічы.

Матылёк на плячы,
На квяцістай кашулі Лявона.

Мурашоў незлічона
У ігліцы сухой, у лісці...

Скрозь
жыццё
у жыцці.

І па смерці жыццё, і па смерці...

Калі нетры расперці,
Выйдуць тыя, хто не паміраў,
Каго Бог пакараў
Несмяроццем: паэты, героі...

«Там, за тою гарою
Беларусь», — мне ківае Лявон.

Ля магілы
укленчвае ён
і глядзіць, як мураш цягне семя,
што больш за самога яго.
«Вось жа род... вось жа племя...» —
кажа ён...
Я пытаю:
«Беларусь за гарой
Для каго?..
Для чаго?..»

І Лявон уздыхае: «Для знаку...
Хто іх ведае, гэтых палякаў,

Хто іх ведае, рускіх:
Ну чаму мы ім так замінаем!..
Як усе, паміраем
І жывём, як усе... Што не так?..»

«Пэўна, гэта не ўцяміць, калі не паляк,
Ці не рускі...»

«Так... Пэўна, не ўцяміць...»

Праз замглёную памяць
Праляталі вякі-матылькі,
за гарою
знікалі замглёна, —

І за спінай Лявона
Над магілай Сакрата стаялі і плакалі
Беларусы, што сталі палякамі.

*7.09.2013, Падляшша, Крынкі*

## Падол

*Паўлу Вольвачу*

Дрыготкі Кіеў за акном.
Ну, што ж: давай віна нальём
І вып'ем, каб сагрэцца.
Ты чуеш: плача сэрца.

Не зразумець: пра што? Аб чым?
Мы пра мінулае маўчым.

Мы ў ім, як за музейным шклом.
Адтуль зялёным светляком
Міргае радыёла.
І ўсё. І пуста. Гола.

Ну, што ж...
Давай яшчэ нальём
За ноч, за Кіеў за вакном,
За месяц над Падолам.

*13.09.2010, Кіеў*

## Залатая лаўра

У верасні, трынаццатага дня,
У Кіеве, дзе залатая лаўра,
Засланая кляновым лісцем лава
Стаяла на Падоле — і адна
Жанчына каля лавы той стаяла...
«Яна чакае некага?.. ці не?..» —
Я загадаў... Яна ж не загадала
Ні на таго, каго яна чакала,
Ні на мяне...

*13.09.2010, Кіеў*

## Вежа Гедыміна

Апоўначы згубіцца ў Вільні,
Забыцца, што й каму ты вінны,
І скрозь стагоддзяў скразнякі
Спусціцца з вежы Гедыміна,
З вяршыні ўніз, і ўздоўж ракі
Брысці, шукаючы сляды
Ягайлы, Вітаўта, Міндоўга,
І не знайсці, і доўга-доўга
Глядзець на роўны рух вады...

*1.07.2011, Вільня*

## Зоркапад

*Івану М.*

Які, мой брат, над Крэвам зоркапад
У жніўні, калі ўжо бялеюць росы,
І ты бяжыш па іх, пякучых, босы
Праз дзедаў двор, праз агарод і сад,
Дзе туманы пад яблынямі ў косы
Спляліся — і плывуць
уніз,
назад,
За плот, дзе бацька паліць папіросы,
Скрозь дым быцця ўтаропіўшы пагляд
У зоркапад, у вечнасць, у нябёсы,
Дзе твой з ягоным сплецены лёсы...

*6.02.2013, Крэва*

## Паводка

Ракою, паводкай рудой
Плыве адзінокая лодка.
Дзе лепей вяслу? Над вадой,
Ці там, дзе глыбее паводка?

Не ведаю. Дзякаваць Богу,
Зноў лодка, паводка, вясна,
І доўгую доўжаць дарогу
Кароткія ўзмахі вясла.

*11.03.2012*

## На беразе іншага часу

*Уладзіміру А.*

Нараніцы прачнуцца ў Крэве
І, як упершыню ў жыцці,
Па садзе, што ў птушыным спеве,
Да родных могілкаў прайсці.

З дзядамі пасядзець, з бацькамі,
Спытаць, як спалі гэту ноч?..
Пасля глядзець, як над крыжамі
Плывуць аблокі часу ўзбоч.

Пайсці назад праз лес, праз жыта,
Праз поле, поўнае трысця,
І зразумець, што ўсё пражыта,
Спазнана ўсё, апроч жыцця.

*28.07.2013, Крэва*



# Віталь Сазановіч

празаік.Скончыў Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт. Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Мінску. З 2011 года жыве ў Нідэрландах.

# Адмаўленне

Урывак з сачынення па беларускай літаратуры на тэму «Беларуская мова ў сусветнай культуры» вучаніцы 11 «Б» класа гімназіі №2 г.Мінска Вікторыі Асмыковіч:

*«Беларуская мова ў тым афіцыйным варыянце, які нам прапануе Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, не існуе. Ніхто ніколі не размаўляў на гэтай штучнай мове, створанай энтузіястамі на падставе народнай мовы. Калі вы прыедзеце ў звычайную беларускую вёску і паспрабуеце паразмаўляць на гэтай мове з мясцовымі жыхарамі, то па меншай меры выклікаеце здзіўленне і зацікаўленасць, а калі вы выкажаце думку, што менавіта гэта мова з'яўляецца сапраўднай народнай мовай, то з вас могуць і пасмяяцца. Таму што народную мову, на якой размаўляюць у вёсках, адукаваная інтэлігенцыя называе «трасянкай». А што такое «трасянка»? Гэта тое, чаго так саромеюцца і не хочуць прызнаваць аматары літаратурнай беларускай мовы: «трасянка» — гэта вялікая руская мова, забруджаная запазычаннямі з моў краін-суседак (часцей за ўсё з польскай і ўкраінскай) і аздобленая каларытным дыялектным вымаўленнем своеасаблівым для розных частак Беларусі.»*

Авіярэйс «Масква-Анталія» спазняўся на паўгадзіны, што было звычайнай справай для чартарных рэйсаў. Урэшце самалёт прызямліўся на запланаванай узлётна-пасадачнай паласе, і ўзрадаваныя пасажыры заапладзіравалі пілотам, дзякуючы за мяккую пасадку.

Пакуль самалёт вырульваў на парковачнае месца, пасажыры, не чакаючы дазволу, расшпілілі рамяні бяспекі і пачалі збіраць рэчы. Некаторыя нават паспелі ўскочыць і хуценька зняць сумку з палічкі над галавой. Шмат для каго гэта было першае падарожжа за мяжу, а нехта і ўвогуле ўпершыню ляцеў на самалёце. Яны зацікаўлена выглядалі ў ілюмінатары, разглядаючы, як яны лічылі, Турцыю, а потым засцярожліва, каб ніхто не ўбачыў патаемных хованак, правяралі, ці ўсе дакументы і грошы на месцы. Нарэшце самалёт спыніўся, і ўсе, стомленыя доўгім пералётам, паўскоквалі са сваіх крэслаў.

Пад'ехаў трап, дзверы адчынілі, і тут з пераду самалёта пачуліся нейкія крыкі, і грубы мужчынскі голас гучна загадаў: «Усім назад!» Пасажыры знерухомелі і сталі занепакоена чакаць, што будзе далей. Раптам яны ўбачылі, каму належаў гэты голас. У праходзе з'явіўся чалавек у сонцаахоўных акулярах і ваеннай форме з аўтаматам, паднятым угару. «Усім сесці для праверкі дакументаў»,— гаркнуў ён па-руску з акцэнтам і пачаў прасоўвацца наперад, распіхваючы людзей па сваіх месцах. Яго грозны выгляд і аўтамат, які ён чамусьці апусціў цяпер уніз і накіроўваў на пасажыраў, прымусілі ўсіх падпарадкавацца. Хутка ў праёме наперадзе з'явіліся яшчэ два вайскоўцы. Яны нешта рабілі з дзвярамі, пакуль не здолелі зачыніць іх.

Пасажыры, здзіўленыя нечаканай праверкай у такой жорсткай форме, прыціхлі і сядзелі моўчкі, адчуваючы ўладу людзей з аўтаматамі. Другі вайсковец з

аўтаматам прайшоў у сярэдзіну салона і, спыніўшыся ля аварыйнага выхаду, стаў спінаю да яго.

Неўзабаве з'явіўся трэці вайсковец. З носа ў яго ішла кроў, твар быў перакошаны ад злосці. Адной рукой ён трымаў за локаць сцюарда, які зусім нядаўна падносіў напоі пасажырам, другой — пісталет, прыстаўлены да галавы сцюарда. На змакрэлым ад поту твары сцюарда людзі прачыталі жах і адразу зразумелі, што адбываецца нешта жудаснае.

— Хочаце жыць, сядзіце ціха і чакайце, пакуль мы вас не выпусцім, — сіпатым знерваваным голасам вызвярыўся чалавек з пісталетам. — Калі хто-небудзь хоча стаць героем, як, вось, ён, вас чакае такое ж пакаранне.

Ён зрабіў паўзу і змрочна, як мантру, дадаў ужо больш спакойным голасам:

— Пакуль вашы салдаты гвалтуюць жанчын і забіваюць дзяцей у Чачні, дзе зараз ідзе вайна, вы ездзіце на курорты і нічога не заўважаеце. Але Алах усё бачыць. Няма бога на зямлі акрамя Алаха, а Мухамед — яго пасланнік. Алах Акбар!

— Алах Акбар! — грымнулі астатнія захопнікі, адзін з галавы, другі з хваста самалёта.

І ён стрэліў. Усе бачылі, як уздрыгнула і завалілася на бок галава сцюарда, і яго безжыццёвае цела асела долу. У мёртвай цішы, якая ўсталявалася з самага пачатку пакарання, нехта ўскрыкнуў, нейчы дзявочы голас слаба праз слёзы вымавіў кароткае «мама», жанчына недзе пачала галасіць. Людзі заварушыліся, але страх перад смерцю бязмерна апанаваў імі. Тыя, хто ўсё яшчэ не верылі ўбачанаму, глядзелі на залітую крывёю перагародку наперадзе і паціху пачыналі ўсвядомліваць сваё новае становішча.

З таго ж сачынення:

*«Цікава, што сапраўдных носьбітаў той правільнай літаратурнай беларускай мовы таксама не існуе. Ці ведаеце вы хаця б адну сям'ю, дзе размаўляюць па-беларуску? Нават калі такая сям'я існуе, яна ўсё роўна ўвесь час знаходзіцца пад уплывам рускамоўнага асяроддзя. У школе, у магазіне, на вуліцы — усюды ў Беларусі людзі размаўляюць па-руску. Таму беларускамоўныя людзі заўсёды вымушаны адчуваць сябе ў грамадстве белымі варонамі. Пачутая ў звычайнай сітуацыі ад незнаёмага чалавека беларуская мова выклікае здзіўленне, злаванне, кпіны, разгубленасць, зацікаўленасць — усё, акрамя звычайнага ўспрымання сэнсу сказанага. У такіх выпадках людзей злуе тое, што яны вымушаны спачатку намагацца, каб зразумець, потым яны павінны зрабіць выбар на якой мове адказаць. Зручней адказаць на той жа самай беларускай мове, на якой было пастаўлена пытанне, таму што ўсе словы ўжо сказаны і іх не трэба перакладаць на рускую мову. Але тут прыходзіць усведамленне таго, што слоў усё ж не хапае і адказаць без памылак яны не могуць. Гэта абурвае шмат каго. У такіх выпадках людзі часта адчуваюць, што іх наўмысна спрабуюць падлавіць на памылцы, прымусіць гаварыць па-беларуску, а можа і проста паказаць ім, што яны не здольны размаўляць на роднай мове. Да таго ж, усе могуць размаўляць па-руску, але*

*не ўсе па-беларуску. Таму выбар беларускай мовы з самага пачатку гаворкі ставіць суразмоўніка ў далікатнае становішча. І гэты выбар заўсёды не на карысць таму, хто абірае беларускую мову.*

*Жывой беларускай мовы не існуе. Моўны сінтэз, які адбываецца ў жывой гаворцы, не існуе як працэс для мёртвай штучнай беларускай мовы. Усе, хто сцвярджаюць адваротнае — летуценнікі-нацыяналісты, якія жывуць у сваім асобным свеце, не заўважаючы наваколля.»*

Тэрарысты пачалі мініраваць самалёт. З вялікіх валіз, якія яны прынеслі з сабою, дасталі ўзрыўчатку і ёю пачалі абкладаць салон. Недзе ззаду заплакала немаўля. Бацькі дарэмна спрабавалі супакоіць яго. Першыя хвіліны пасля расстрэлу ўсе сядзелі моўчкі, шакіраваныя адбыўшымся і напужаныя смерцю. Урэшце адна з жанчын, якая трымалася лепш за астатніх, наважылася спытаць у аднаго з тэрарыстаў:

— Чаго вы дамагаецеся?

— Міру,— спакойна адказаў ёй тэрарыст. — Мы хочам, каб вашы ўлады вывелі расійскія войскі з Чачні,— працягнуў ён, адчуваючы ўпэўненасць ва ўласнай праваце.

— І колькі вы будзеце нас трымаць?

— Мы нікуды не спяшаемся. Будзем трымаць вас, пакуль не выведуць войскі.

Пасажырам дазволілі карыстацца тэлефонамі. Тыя пачалі тэлефанаваць сваякам, у амбасаду, службу выратавання. Віка тэлефанавала маме. Яна чамусьці гаварыла вельмі ціха, прыкрываючы тэлефон даланёй:

— Алё, мама? Ты толькі не хвалюйся. Я табе зараз нешта скажу, але я хачу, каб ты не хвалявалася. Са мною ўсё ў парадку, але ведаеш... — Віка памарудзіла, казаць, ці не, — наш самалёт захапілі ў Анталіі чачэнскія тэрарысты. Нас павінны хутка адпусціць ці вызваліць... Не, я не ведаю, адкуль яны ў Турцыі... Так, Вадзік са мною... Мы сядзім на месцах 35 А і Б... Тэрарыстаў трое... Не, у іх толькі пісталеты. Можа, цацкі, а можа, пнеўматычныя. Ты толькі не хвалюйся. Яны вельмі міралюбівыя. Усё гэта хутка скончыцца. Я табе пазней яшчэ патэлефаную. Зараз трэба тэлефон выключыць, каб не разрадзіўся. Мама, я цябе вельмі люблю. Ты толькі не плач, мамуля. Не плач, чуеш? Мне могуць не дазволіць больш тэлефанаваць, але гэта не значыць, што са мною што-небудзь здарылася. Я сама буду тэлефанаваць табе, зараз тэлефон трэба выключыць. Пакуль, мама. Я люблю цябе.

Віка выключыла тэлефон, нахілілася наперад, закрыла твар рукамі і зарыдала. Упершыню за апошнія пяць гадоў. Вадзім узяў яе за рукі, абняў за плечы, але гэта не дапамагала. Яна стрымлівала слёзы, закрывала рот рукамі, каб не быць пачутай, але цела яе сутаргава скаланалася ад роспачы, безвыходнасці і жалю да сябе. Загінуць у 25 гадоў, нічога не пабачыўшы, нічога не паспеўшы зрабіць, і так бязглузда і недарэчна. Ніхто не будзе выводзіць войскі з Чачні, ніхто не будзе іх ратаваць. Тэрарыстаў знішчаць, а загінуўшых пасажыраў пералічаць у спісе нявінных ахвяр. І ўсе гэтыя людзі,

якія так неспадзявана трапілі ў смяротную пастку, чым яны заслужылі сабе такую смерць? Матуля, як жа ты будзеш пакутаваць, калі мяне не стане. Як я цябе люблю, мама!..

*«Беларусь, як краіна, таксама размыта ў этнічным і нацыянальным плане. Нацыяналізм менш за ўсё ўласцівы для беларусаў. Ім усё роўна, як называецца краіна, у якой яны жывуць, на якой мове яны размаўляюць, якую гісторыю яны маюць. Адзінае, што іх хвалюе, гэта каб не было вайны, каб было што выпіць і чым набіць страўнік. Ды і якую гісторыю мае Беларусь? За нейкую тысячу гадоў тэрыторыя сучаснай Беларусі была часткай розных краін, акрамя краіны пад назваю Беларусь. Межы гэтых краін увесь час мяняліся, мянялася ўлада, людзі заставаліся, такія ж абыякавыя да сваёй незалежнасці як і сёння. Хіба можна ганарыцца такой гісторыяй?*

*Беларусь ніколі не была незалежнай і нават зараз, атрымаўшы незалежнасць дэ-юрэ, дэ-факта Беларусь застаецца часткай Расійскай імперыі.»*

Тэрарысты пачалі правяраць дакументы. Адразу адпусцілі жанчыну з немаўлём, якое няспынна плакала ўвесь гэты час. Яе муж павінен быў застацца. Адпусцілі некалькі туркаў, двух сірыйцаў, аднаго кіпрыёта.

— Мы не маем да вас прэтэнзій,— як завучанае гаварыў ім Рашыд — галоўны з тэрарыстаў, які здзейсніў пакаранне.

Пасажыры трымалі свае пашпарты над спінкамі сядзенняў. Ім загадалі трымаць пашпарты ўгару і сядзець з апушчанай галавою. Рашыд ішоў ад кабіны самалёта, прапускаючы рады чырвоных расійскіх пашпартоў. Ён спыніўся каля сям'і з галандскімі пашпартамі, узяў у рукі пашпарты, пачаў правяраць іх.

— Прозвішчы рускія і морды таксама. Якія вы галандцы,— Рашыд ухмыльнуўся і пайшоў далей.

Калі Рашыд спыніўся ля сям'і, у якой бацька быў немец, Вадзім пачаў шаптаць Віцы:

— Віка, гэта твой шанец выйсці зараз. У цябе ж беларускі пашпарт. Ты толькі не кажы, што мы разам. І прозвішча ты не мяняла. Кажы, што Беларусь — гэта не Расія. А я потым як-небудзь выберуся.

— Добра,— чамусьці адразу пагадзілася Віка і, крыху памаўчаўшы, дадала: — Вадзік, я цябе так кахаю. Ты толькі не рызыкуй дарэмна. Чакай, пакуль усіх не вызваляць. Нас не могуць не вызваліць.

Немец вырашыў застацца з сям'ёю. Рашыд крыху павагаўся, а потым, уражаны такім мужчынскім учынкам, вырашыў адпусціць усю сям'ю.

Урэшце ён дайшоў да Вікі з Вадзімам, узяў Вікін цёмна-блакітны пашпарт і пачаў гартаць яго, а потым неяк абыякава сказаў:

— Беларусь — тая ж самая Расія.

Віка чакала гэтага моманту як прысуду. У яе вачах пацямнела, кроў прыхлынула да твару, у галаве мільганула думка «вось і ўсё». Але заставаўся яшчэ адзін хоць і вельмі невялікі, але ўсё ж шанец, і яна пачала таропка, няўпэўнена, быццам пакрыўджана, казаць:

— Беларускія салдаты не ваююць у Чачні і ўвогуле нідзе не ваююць, толькі Беларусь абараняюць. У Беларусі свой гімн, свой герб, свой сцяг, свая мова,— Віка запнулася, разумеючы бессэнсоўнасць сказанага.

Але Рашыду спадабалася такая рашучасць і яго быццам забаўляла жаданне дзяўчыны выратавацца любымі сродкамі.

— Мова, кажаш, ёсць свая? У Чачне таксама свая мова — чачэнская. А ну, скажы, што-небудзь па-беларуску.

Віка ліхаманкава ўспамінала ўрокі беларускай мовы і літаратуры ў гімназіі, дзе яна вучылася да таго, як паехала паступаць у Маскву. Урэшце дрыготкім голасам, упершыню са школьных часоў вымаўляючы беларускія словы, якія гучалі так незвычайна ў жахлівай цішы самалёта, яна пачала:

— Мой родны кут, як ты мне мілы, забыць цябе не маю сілы... І цягам доўгія часіны, дзявочыя забыўшы сны, на лад персідскі ткуць яны... І тчэ, забыўшыся, рука, заміж персідскага узора цвяток радзімы васілька...

Радкі, вершы пераблыталіся. Гэта ўсё, што памятала Віка, але гэтага было дастаткова.

— Ну, пакуль мову памятаеш, будзеш жыць. Ідзі і не забывай, дзе нарадзілася,— Рашыд больш не ўсміхаўся. На нейкую хвіліну ён успомніў сваю радзіму, родны кішлак, дзяцінства. Але ўсё гэта было да пачатку вайны.

*«Мне сорамна казаць, што я з Беларусі, калі выязджаю за мяжу і мяне пытаюцца, адкуль я. Людзі не ведаюць, дзе знаходзіцца мая краіна і як яна дакладна называецца. А калі што і ведаюць, дык толькі дрэннае, звязанае з палітыкай. Мне сорамна за людзей, якія жывуць у Беларусі, таму што іх культура алкагалізму і менталітэт абыякавасці, які яны называюць «талерантнасцю», такія ж самыя, як і іх мова «трасянка» — забруджаныя і несапраўдныя. Таму я адмаўляюся прылічваць сябе да беларусаў і заўсёды кажу, што я з Расіі. Я адмаўляюся ад мовы, якая выклікае абурэнне ў саміх беларусаў. Беларуская мова не існуе ў сусветнай культуры, таму што яна не існуе ў Беларусі...»*

***

Ішла пятая гадзіна раніцы. Віка сядзела ў зале аэрапорта, побач з ёю — псіхолаг, якую даслалі разам з групай спецназаўцаў самалётам з Масквы. З таго моманту, як захапілі самалёт, прайшло 16 гадзін. Віка ўглядалася ў цемру праз акно туды, куды пасля захопу адагналі самалёт.

— Я разумею, вам цяпер вельмі цяжка. Ваш муж, вы яго кахаеце. Раскажыце, які ён. Я ведаю, гэта дапаможа вам... Магутны выбух перапыніў псіхолага.

Ад узрыўной хвалі здрыгануліся вокны. Заліты агнём самалёт азарыў палову турэцкага неба заўчаснай заранїцай.

Пачынаўся новы дзень.

*жнівень 2014*



# Алена Падкацік

празаік. Аўтар кнігі прозы «Точка» (2014 г.)
Нарадзілася ў 1972 годзе на Крупшчыне.
Жыве ў Барысаве.

# Макаўкі жыцця

***

...Заўтра прыходзіць сённяшнім днём і сыходзіць учорашнім.

Жыву заўтрашнім днём.

Мару. Веру. Радуюся. Сумую. Пакорліва схіляю галаву.

Заўтра. Усё будзе заўтра.

Пра гэта я падумаю заўтра. Дні змяняюць адзін аднаго, перамешваючы сёння і ўчора ў жорнах часу.А я ўсё чакаю заўтра.

І жыву ўчорашнім днём.

Успамінаю. Раблю высновы. Вучуся на памылках.

Памятаю галоўнае. Забываюся на дробязі.

Учора змяняецца ў залежнасці ад «учорашнасці». Варта ўзгадаць — і вось яно ўчора — становіцца побач і глядзіць хітра — «я было ўчора».

Як знайсці сябе ў «сёння»?

Сёння — марнасць, клопат, праца, думкі, справы, учынкі, трывогі.

Я ёсць. Я тут. Я жыву.

А значыць — я патрэбна.

Я змагу. Я звяжу ўчора і заўтра ніткай, дротам, канатам.

Я звяжу ўчора і заўтра верай, надзеяй, любоўю.

Кожны дзень будзе новым. Кожны дзень проста будзе.

Веру. Спадзяюся. І чакаю ...

***

...Спякота. Мама спіць побач са мной на падлозе. Коўдра жорсткая, мне няёмка. І чаго гэта дарослыя думаюць, што днём на падлозе спаць добра? Спі, мая матуля, а я пагуляю ... Ціха ўстаю і бягом на вуліцу. Праз некаторы час у двары мяне заўважае бабуля. Я ўцякаю ад яе, смяюся і не разумею, чаму бабуля крычыць на сонную маму, а мама плача ...

***

...Шпіталь. Я стаю ў доўгай чарзе дзяцей. Вялізная цётка ў белым халаце падносіць кожнаму да рота металічную лыжку з лекамі. Дзеці плачуць, але рот адкрываюць і лекі п'юць. Перада мной у хлопчыка рот не адкрываецца, і ён затрымлівае чаргу. Цётка лаецца і сілай адкрывае яму рот, залівае пахучую вадкасць сілком. Я баюся і загадзя адкрываю рот. Жалезная лыжка агідна б'е па зубах, але я цярплю і глытаю тое, што ўлілося ...

***

...Дзядуля працуе вадзіцелем. Ён возіць начальніка — тоўстага лысага дзядзьку Пятровіча. Я напрасілася пакатацца з дзядулем. Увесь дзень было

весела і цікава ездзіць разам з начальнікам па важных справах. Пад вечар у машыну селі іншыя дзядзькі, і мы паехалі на возера — там яны смажылі мяса лася і спявалі песні. Мне было сумна. Я сядзела на беразе і ўяўляла сябе русалкай. Потым я пайшла ў машыну спаць. Дзядуля накрыў мяне сваім пінжаком. Прачнулася я ад матчынага плачу. Яна трымала мяне на руках і лаяла дзядулю. Аказваецца, мы вельмі позна вярнуліся. Мама ўяўляла жудасныя карцінкі, мяне ў крыві, машыну ў аварыі і ... Так салодка спаць на матчыных руках ...

***

...Мама працуе тэхнічкай у школе. Гэта незвычайная прафесія — кожны дзень увечары трэба зрабіць так, каб назаўтра ў школе было чыста і ўтульна. Сёння і яна, і я дзяжурныя, мы разам рана ідзем у мой клас, і яна замест мяне сваёй вялікай анучай чыста мые дошку. Аднакласнік распавядае дзецям у класе, што я гультайка, і мама ўсё робіць за мяне. Мне крыўдна — бо я дома заўжды дапамагаю маме. Некалькі дзён не хачу хадзіць у школу — сорамна. Першы жыццёвы ўрок — навакольны свет можа быць жорсткім ...

***

...Я выдатніца і староста класа. Класны кіраўнік прапануе аддаць мне адзіную пуцёўку ў піянерскі лагер. Усе дружна згаджаюцца. На перамене выпадкова заходжу ў клас і нахіляюся пад парту за сшыткам. Дзве мае аднакласніцы вяртаюцца і пачынаюць казаць пра мяне гадасці. Атрымліваю другі жыццёвы ўрок — не ўсе людзі жадаюць табе дабра. Гідка сядзець пад партай і слухаць невыносна! Я плачу...

***

...Упершыню сустракаюся са смерцю. Бабуля раней казала, што не хоча памерці зімой і баіцца лекараў. Яна сыходзіць пасля аперацыі, у бальніцы і ў дваццаціпяціградусны мароз... Я не ўяўляю, як гэта — паміраць, але разумею, што гэта будзе з усімі намі. Прыціскаюся да мамы і думаю, што для мяне ўсё гэта так далёка ...

***

...Дыскатэка. Шмат замежных студэнтаў. Знаёмлюся з ураджэнцам Нігерыі. Завуць Арэра. Я адчуваю сябе цалкам камфортна і цікаўлюся жыццём сям'і — хто ў яго маці? Ці ёсць браты, сёстры? Якія звычаі ў краіне? Мае сяброўкі ў яго за спіной робяць мне страшныя вочы і круцяць пальцамі ля скроняў. А мне юнак спадабаўся. А я яму яшчэ больш. Жыла б зараз у Нігерыі, ды вось бяда, не магла я ў той час выходзіць з ім у горад — саромелася свайго старэнькага гардэроба. Вось так...

***

... Студэнцкі інтэрнат. Канікулы. Усе раз'ехаліся па дамах. Сустракаю з цягніка маладога чалавека. Мне 18, яму 26. Ведаю, што любіць мяне вельмі моцна, але саромеецца сказаць гэта, сама не ведаю чаму. Мы цэлы дзень гуляем па горадзе, вяртаемся ў інтэрнат, п'ем гарбату. Сяброўка з суседняга пакоя выпадкова зазірае ў пакой і просіць прабачэння. Праз дзень яна мне скажа: «Ён жа стары!». З хлопцам мы больш не сустракаліся. Праз 20 гадоў дайшоў жыццёвы ўрок — ніколі не слухай сяброўак, слухай сваё сэрца ....

***

...Кожны крок — гэта наша скрыжаванне. Абраўшы аднойчы, будзь гатовы ісці па дарозе столькі, колькі зможаш. Вось і я іду, спатыкаючыся і падаючы, лячу і апякаю крылы, не гледзячы ні на што. Стары бабулін кубак з адбітаю эмаллю на ручцы згадваецца менавіта цяпер — хаатычныя тварыкі малюнкаў нагадваюць чалавечкаў — бегаюць, скачуць, шукаюць сваё шчасце. Помню, зусім малая, я глядзела на гэты кубак і загадвала — «заўсёды буду памятаць аб гэтых чалавечках, і ніколі не стану такой жа як яны». Чаму ж менавіта сёння ўспамінаецца бабулін кубак? Таму што я адна з іх — чалавечак, які шукае сваё шчасце...

***

...Красавік. Усё незвычайна, болю амаль няма, цікаўнасць мацней — якая ты — мая дачушка? Вакол лекары, парадзіхі крычаць, я з радасцю бяру цябе на рукі і разумею — гэта на ўсё жыццё. Свет падзелены на «да» і «пасля» твайго нараджэння...

***

...— Мама, калі табе прысніцца страшны сон, то ты яго вазьмі ў жменю і выкінь, — амаль засынаючы, прашаптала дачка.

— Гэта ты сама прыдумала?

— Не. Гэта мне было паказана.

Божа, хай ёй будзе паказана ў жыцці толькі добрае. Спі, маё блакітнавокае пяцігадовае шчасце.

***

... Суседка Маша заўсёды ўсмешлівая і добразычлівая. Сустракаемся, размаўляем. Работа, надвор'е, дзеці ... І раптам фраза. Вылецела белай птушкай і закружылася — над намі, над домам, над горадам, над светам.

«Як люблю я свой дом! І ўсіх люблю, хто жыве ў ім!»

Падумалася — якая ж шчаслівая гэтая сям'я.

Мы ішлі, а за намі плылі гэтыя словы.
А я люблю свой дом? А вы?

***

...Спячая прыгажуня. Яна ляжала і маўчала. Яе маўчанне зачароўвала ўсіх. Цішыня. Плач — нягучны і няўпэўнены. Не веру. З табой гэтага не магло здарыцца. І вось яна — Смерць. А я — побач. Я зноў датычная да гэтага дзейства. Зноў, як у маленстве, востра адчуваю пах смерці і прытуляюся да пляча матулі. Даруй, Ганна! Я прыйшла да цябе сёння, каб успомніць тваё жыццё. Мне цяжка думаць. Але калі б ты ведала, што ў дзень твайго пахавання я стану крыху шчаслівейшай.

...Недарэчнасць сустрэчы менавіта ў гэты дзень. Ён таксама прыйшоў да цябе. Гэты погляд. Усюды, дзе б я ні была — яго погляд. Як хочацца, каб абняў за плечы, прытуліў да сябе і спакойна сказаў: «Ты маё жыццё». Не абняў, не прытуліў, не сказаў. Не той час. Але ж гэты погляд. Дзякуй, табе, Ганна, ты падарыла ў апошні раз для мяне такое маркотнае шчасце...

***

Стаім з дачкой на прыпынку і глядзім на галубоў.

Птушкі хутка-хутка перабіраюць чырвонымі лапкамі па снезе. Надзьмуліся на холадзе як снежныя шарыкі, — шукаюць таго, хто кіне семак. Тонкая палоска слядоў бяжыць за лапкамі.

— Мама! Я здагадалася, навошта галубы тупаюць па снезе!

— Мусіць, таму, што ім холадна?

— І зусім не таму! Галубы нам пішуць лісты! Яны не могуць сказаць, што ім хочацца есці! Вось і пішуць — спяшаюцца сказаць! Дачка ўся засвяцілася ад сваёй здагадкі.

Аўтобус адчыніў дзверы, мы зайшлі ў цяпло. Ірынка памахала птушкам ружовай рукавічкай.

... Кожны раз, калі бачу галубоў — дастаю з кішэні жменю семак.

Мы атрымалі ваш ліст, галубы! Смачна есці!

***

...Ідзем па жыцці.

Кожны крок — скрыжаванне.

Наперадзе далягляд.

Лінія жыцця цягнецца, бяжыць за далягляд.

Ідзем, бяжым, паўзём, цягнемся, імкнемся — кожны да свайго даляглядy.

Што бачым? Адзін бачыць бруд на дарозе, ямы, злосць; другі — сонца, неба, прабачэнне.

А што ўсярэдзіне?

Вертыкаль.
Вышэй — толькі Бог і Любоў. Ніжэй — толькі жарсці.
Вертыкаль і Гарызанталь скрыжоўваюцца ў кожным з нас.
Гэта Крыж.
Ідзем па жыцці.
Кожны — за сваім Крыжам.
Кожны — са сваім Крыжам ...



# Леанід Дранько-Майсюк

паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Аўтар кніг: «Вандроўнік», «Тут», «Над пляцам», «Акропаль», «Стомленасць Парыжам», «Гаспода», «Цацачная крама», «Анёлак і я», «Кніга для спадарыні Эл» і інш. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

# Пляцяр Піліп

## 1.

У 2006 годзе плецяру Піліпу было ўжо восемдзясят, але, занёсшы ў даліну[1] жонку, сам у даліну не збіраўся.

«А чого збірацца туды? Карова малако дае! Ад немцаў грошы маю і маю ўсялякага запасу! Купляць нічого не трэба! Толькі й жыві на гатовым! І зубы ў мяне свае, і памяць жалезная! І як згублю ключа, то яшчэ магу прабоя з дзвярэй двума пальцамі вурваць! І сына-п'яніцу магу пасілаваць[2]... От, хіба вочы прыслаблі, аднак жа ёсцека ў шчо глядзець!» — так сам сябе разважаў і краем карэлага абруса праціраў сваё шчо — тоўстае шкло акуляраў.

Гэта праўда — пляцяр і дужы, і запаслівы.

Старасвецкае гадоўлі чалавек.

Поўна align рознага колішняга адзення, абутку і жалеззя нахаваў — хоць бы нажы ўзяць; яны яшчэ з-за Польшчы вяліся ў яго і так счахрыліся-зрэзаліся, што кожны быў, як шыла.

І жонка ягоная запаслівая ўдалася, але от жа — чорныя рукі зложыла.

Дык мо ўдавец Піліп жаніцца надумаў, раз у даліну не збіраўся?!

І надумаў, і не...

Як і раней, ціснуў з яблыкаў віно, сілу пад сэрцам чуў на трох і казаў уголас у пустой хаце: «Усе шукаюць здароўя, а я не шукаю! Ісус Хрыстос таксамо не шукаў здароўя! Бо навошчо яно? Ці з ім, ці без яго — і так усё прыйдзе да праху!»

Евангеллю трошкі павучыўся ў маці, спрыту ў бацькі (таксама плецяра) і, як помніць сябе, змалку быў пры рабоце — плёў кашы, кошыкі, палукашкі і лёгкую мэблю; плёў скрозь — і ў польскім «кулку рольнічым»[3], і ў бальшавіцкай арцелі, і ў нямецкай пляцярні пад Берлінам, і ў паваенным калгасе, а рэшту гадоў — на сваім падворку.

Жонка, як і работа з дубцамі, таксама заўсёды пры ім была, таму не дзіва, калі пахаваў яе, неўзабаве заблюзнілася яму, як у тумане, з'яўляцца стала, часта пачала прыходзіць то старой, то маладой...

З жонкаю стрэўся пасля вайны ў танцавальні — у Яўменавай хаце...

Яшчэ за царом у Яўмена збіраліся гулянкі; таўклі ж Яўменаву падлогу і за палякамі, і пры тых бальшавіках, і пры бальшавіках гэтых; брышкавалі[4] й пры немцах.

Аднаго вечара ў 1943 годзе, калі маладзенькі пляцяр, чырванеючы, першы раз ткнуўся туды, адно на ганак узышоў, як паліцыя накрыла танцавальню, споўніла загад па наборы моладзі ў Германію — і пляцяр апынуўся пад Берлінам...

---

1 Занясці ў даліну – пахаваць.

2 Пасілаваць – адолець.

3 “Кулко рольнічэ” – сельскагаспадарчы гурток.

4 Брышкавалі – забаўляліся, дурэлі.

І вось, як толькі ад немцаў вярнуўся, адразу ж уваліўся да Яўмена — станцаваць нестанцаванае.

Завядзёнка была такая: гарманіст, сам Яўмен, як толькі чалавек гуляшчы пераступаў парог ягонай хаты, браў з гуляшчага грошы і тут жа прыгаворваў:

— Дай яшчэ і на гурбачку цыбулі!

Так называў чаявыя.

І яму давалі і за пераступанне парога, і на гурбачку цыбулі, толькі пляцяр тады нічога не даў — пайшоў у скокі за так.

Прайграўшы да першага поту, Яўмен спыніў ігру, маргнуў здаравейшым хлопцам, і тыя пабойваючыся, падсунуліся да плецяра:

— Піліп, ты ўжо адтупаў чатыры разы[5], плаці...

— Сухі дуб заплоціць! — адбрыкнуўся пляцяр.

— Тады больш не танцуй! — рыпнулі хромавымі ботамі здаравейшыя хлопцы.

А плецяру больш і не трэ было, ён ужо нагледзеў негаваркую дзеўку, у чатыры заходы накруціўся з ёю пад Яўменава гранне, — вывеў напалоханую з танцавальні, за адрынай пры стозе палез пад спадніцу, але Марушка (так дзеўку клікалі), дрыжучы, адразу не далася, толькі шапнула:

— Дай пашкадую!

Яна прысела на стажар'е, а ён ад яе шэпту на хвіліну размяк, дубавата лёг на спіну, патыліцай паклаўся ёй на калені, і Марушка стала шкадаваць — чухаць ягоную нечасаную галаву.

На чуханне пляцяр не шкрабнуў ні клямкай, ні зашчапкай, і бедная Марушка даўмецца не магла — патрапіла яму ці не, аднак жа яны пабраліся.

Стаўшы плецярыхай, негаваркая Марушка, здавалася, мову зусім згубіла, змоўкла на гады, толькі вуснамі варушыла і, збоку гледзячы, можна было падумаць, што ўвесь час нешта сама сабе гаварыла.

Іхняе супольнае жыццё без вялікай і малой бяды з самога парога звялося на нішто. Не звілася доля ў адну вяроўку, markупрознымі матузамі пайшла; з першага дня зажылі, як чобат з калюгай, а зляпіўшы няўдалага сына — у адным ложку ўжо і не спалі.

Усё сваё хавала яна ў сваім куфры, а ён усё сваё трымаў у сваёй камодзе!

І любіць не любіліся, і сварыцца не сварыліся, і, адбыўшы танцаванне ў Яўменавай хаце, разам болей на круг не выходзілі.

Калі змоладу ім выпадала вяселле, ад якога ніяк адчапіцца не маглі, бо сваякі зазывалі, то на вяселлі гэтым Марушка магла кракавячыць толькі з маладзіцамі!

Так пляцяр пастанавіў.

Калі да Марушкі падступаў які зух, то ўсе, кіснучы ад смеху, бачылі, як пляцяр чарнеў, таму іншы раз Марушка наперад прасіла танцораў не браць яе, каб не выйшла чаго.

5 Чатыры разы – чатыры танцы.

Ад тых яшчэ гадоў пляцяр любіў казаць:»... у маёй жонкі рэдкая галава!», што на яго мове значыла — галава неразумная, і жыў з Марушкай толькі таму, што яна ўмела ў патрэбную хвіліну шапнуць:

— Дай пашкадую...

У тыя гады што б не шаўрыкаў[6] і не вырабляў, нават калі зрэдку й тоўк яе — не зважала, цярпела: «Піліп — мой чалавек...»

А пляцяр не мякчэў — калі за сталом нешта ў ягоных думках упоперак станавілася, асабліва калі пра сына думаў, тады зачэрпваў вялікай лыжкай кашыцу і кідаў у столю; кідаў датуль, пакуль у гаршку не пусцела.

Аднаго разу па дарозе на сенакос у яго манталі прадзерлася кішэня, і ён і не змеціў, як згубіў пляшку малака (недзе шуснулася ў глыбокую траву), і тады зароў на пацеху ўсім касцам:

— Марушка, ты не залапіла кішэню, каб я галодны остаўса! Галава твая рэдкая!

Так год за годам і дакрычаўся — у Марушчынай галаве і апошнія снапы рассыпаліся, а ў старасці *гаваркой* Марушка стала, на плецяра кіршні наставіла[7].

Куды й дзелася маўчунства яе і ласкавае — «дай пашкадую»?

Загаворвацца пачала.

Як маленькая, дурэла Марушка, выбрыквала, усялякія конікі выкідвала.

Пляцяр галавы не дабіраў — што са старою?

Хоць з двара не выпускай...

А неяк і такое ўчэпушыла — на доўгі месяц прыціхла, пляцяр спусціў яе з вока, а яна прыгрэблася ў ашчадню, забрала з кніжкі ўсе грошы і занесла на ахвяру ў царкву.

Дзякаваць богу, царкоўны стараста не паленаваўся, скокнуў на ровара і да плецяра:

— Піліп! Паглядзі, шчо Марушка ос*ы*рыла[8] на іконе!

І падаў укручаную ў газеціну гатоўку...

Пляцяр умлеў: от зараза! — і стаў жонку пад замком трымаць.

Ды і пад замком цвялілася:

— Не ты мяне, а цябе перажыву! Я цябе ў даліну занясу! Пабачыш, Піліп...

Ды аднаго дня раптам адчула: не пераажыве свайго Піліпа, хутка века яе накрые; сіла, як проса з дзіравай торбы, пасыпалася і з рук, і з ног.

Праўда, у галаве пасвятлела!

Пляцяр якраз пароўся ў адрыне, і Марушка доўга каліну не разводзіла[9], а, сабраўшы рэшту духу, тут жа прыставіла ў печы кропу[10], абмылася і нацягла

---

6 Шаўрыкаў – плявузгаў.

7 Кіршні (доўгія кіпці) наставіла – перастала слухацца.

8 Осырыла – пакінула.

9 Каліну не разводзіла – не марудзіла.

10 Прыставіла кропу – нагрэла вады.

на сябе самае лепшае, тое, што ў яе куфры яшчэ з польскага часу ляжала — налісніка[11], гальку[12], панчохі, сукню і румынкі.

Паспела яшчэ хустку пад бараду завязаць — і ўсё, моц высахла ў целе...

Паверыўшы, што яна ўжо злягла і больш не падымецца, пляцяр аб тым нікому не сказаў — ні дактарам, ні сыну-п'яніцу, ні ўнучцы, ні суседу Есіпу, ні Есіпавай Юлі: «Навошчо? Седно[13] толку ж ніякага не будзэ!»

Марушка доўга не ляжала і калі адыходзіла, то ў апошнюю хвіліну зусім ядавітай стала:

— А я за цябе, дурню, не дзеўкай замуж пайшла — маладзіцай, а ты й не ўшалопаў...

І не перажыўшы падманутага плецяра, зайшлася...

А плецяру — дзеўкай яна за яго пайшла, ці маладзіцай — хіле поле[14]...

## 2.

Склепа[15] сам зрабіў, каб не купляць, і не пафарбаваў яго (фарба, якую меў, засохла), а сажай памазаў.

Перад тым, як перакласці Марушку ў гэты пачорнены склеп, абмацаў на ёй польскую сукню, у кішэнькі залез, але нічога не знайшоў.

На памінальны стол паставіў гарэлку, што з даўняй прычыны[16] засталася, гадоў трыццаць таму купляў, калі сына жаніў; гарэлка ад доўгага стаяння, хоць і закрытая была, выпарылася, у кожнай пляшцы на добрыя чатыры пальцы яе паменела, смак страціўся — ды нічога, памінальнікі, дыхаючы неразвеяным кадзільным дымам, пілі, не крывіліся...

Усё прайшло добра, хіба што адно нядобрае праз дзень-два ўпала плецяру ў вока — пакуль на могілкі ды з могілак, не дагледзеў ён, як сын абчысціў ягоную камоду — свіснуў нямецкія грошы!

Пляцяр кінуўся забраць, ды не паспеў — усё да капейкі было на вецер пушчана.

За гэтым нядобрым наплыло яшчэ адно нядобрае — пляцяр шкадаваць стаў, што забыў ажывіць Марушку.

От жа дзіва!

Калі на яго вачах сканала, не думаў пра яе ажыўленне, бо закруціўся — то да Есіпа з Юляй бегаў, каб у хаце прыбраць памаглі, то міліцыю і хуткую выклікаў, каб засведчылі Марушчыну чыстую смерць, то сына доўга знайсці не мог...

І вось на табе, убілася ў галаву: мог ажывіць і забыў!

11 Наліснік – станік.

12 Галька – споднняя сарочка.

13 Седно – усё роўна.

14 Хіле поле – усё роўна.

15 Склеп – труна.

16 Прычына – вяселле, застолле, наогул нейкае святкаванне.

Уздыхаў: «Як толькі жывое дыханне пакінула жонку, трэ было зрабіць так, як зрабіў апостал Пятро — стаць на калені, памаліцца і сказаць: «Марушка, устань!»

Праўда, доўга не ўздыхаў, бо раптам цвяроза падумаў: «А хіба я апостал Пятро?! Я... пляцяр Піліп...»

## 3.

А неяк Марушка прыснілася і ясменным[17] голасам папрасіла яшчэ адну хустку.

«І навошчо ёй яшчэ адна хустка?! — пляцяр паціснуў плячыма. — Зноў дурыцца жонка!»

Есіпава Юля супакоіла:

— Маю ўжо тры чвэрці да смэрці! Пакладзі хустку мне ў склепа, я ёй там перадам...

Памерла Юля праз месяц які...

Па Марушцы і адной плакальшчыцы не было, а па Юлі ажно тры стараліся — і ўсе тры, як у той казцы, яе родныя сёстры.

Пляцярківільнуўся ў Есіпаву хату якраз тады, калі з яе, адмахаўшы кадзілам, поп выходзіў.

А ў хаце людзей поўна, пахла моцна ладанам, свечачным духам і стаяў слёзны крык старэйшай Юлінай сястры; адплакаўшы плачом, яна ўмомант сціхла і пры ўсіх штубнула[18] сярэднюю:

— Я сваю рату адбыла, плач ужо ты!

Сярэдняя тут жа спраўна загаласіла, але не так ужо і доўга яна бедавала па Юлі, пачала круціць галавой, шукаць малодшую, а калі знайшла яе ў людзях, то сыкнула:

— Не хавайса, зараза! Ідзі й ты плач!

— Не сварыцэса! — падаў голас Есіп.

Малодшая не валаводзіла, раўці ўзялася таксама шчыра, і, не слухаючы яе, пляцяр нахіліўся над нябожчыцай, варухнуў удзервянелым ротам:

— Не забудзь жа, Юлька, перадай...

І ўсунуў у склепа скамечаную ў карчаватай чорнай жмені белую хустку...

І ўсё, як сем баб адшаптала — жонка больш не снілася; выходзіць, Юля не падманула, спраўдзіла абяцанне.

Аднак жа Марушка пачала сніцца ўнучцы, нават назвала нумар тэлефона, папрасіла пазваніць ёй, і ўнучка, запомніўшы ў сне нумар, ранкам набрала яго, але пагаварыла не з бабуляй-нябожчыцай, а з нейкай жывой цёткай.

— Дурная! Не трэ было званіць, а то ў той хаце нехта памрэ! — Пляцяр насварыўся на ўнучку.

---

17 Ясменны – нервовы.

18 Штубнула – штурхнула.

— Я думала, шчо пагавару з бабай Марушкай!

— З ёй ужо не пагаворыш. Яна Богу душу аддала, а сама ў зямлю пайшла...

Калі па Юлі год мінуў, сусед Есіп ажаніўся — узяў з блізкага сяла ўдавіцу, старую, але спраўную Марту.

Памаладзелы Есіп пачаў і плецяра на новае жаненне падбіваць:

— Чаго ўнурыўся, Пиліпе?! Глядзіш, як носам барку перавярнуў! У тым сяле ёсцека яшчэ адна добрая свабодная баба! Як і ты, была немцамі вывезена! Як і табе, немцы ёй плоцяць!

— Добрая?! — усё адно, як не паверыў пляцяр.

— Баба-спірт[19]!

— А клікаць як?

— Параска!

— Параска...

— Ну так, Параска... У Германіі парабкавала ў баўэра і неяк з яго сынам-сапляком пайшла араць на зіму! — вочы закочваў Есіп.

— І шчо?

— Гэты сапляк стаў за плуга і глыбока яго ў зямлю пусціў...

— І шчо?

— Уладзіў[20] плуга...

— І шчо?

— Шчо-шчо?! Нічого! Параска адпрагла з плуга каня, узяла пугу і адлупцавала малога немчыка-дурня... Той кінуўся з плачом да бацькі... Бацька-баўэр бачыць: вінаваты сын, Параска набіла яго правільна... Узяў і яшчэ сам адсцябаў свайго няўмеку, а Параску пахваліў і паліто ёй новае даў! У ім яна і прыехала дадому...

— А ты адкуль пра гэтэ ведаеш? — пляцяр зняў акуляры, папляваў на пальцы і працёр адно за адным акулярныя шкельцы.

— Ды сама Параска расказала! — сплюнуў Есіп.

— Як гэто сама?! — незалюбіў пляцяр.

— Пакуль да Марты, я спачатку да яе сватаўса! Часу нам було, каб нагаварыцца пра ўсё!

— Дык шчо, яна цябе прапэндзіла?

— Як бачыш, мусіў Марту браць...

— Ну й добрэ, шчо ўзяў Марту! — пляцяр пачухаўся. — Трэба й мне падумаць пра той час, калі сілы зусім адпусцяць! Трэба жаніцца! Слухай сюды... Калі ты, Есіпе, угаворыш Параску гэтую, то я табе спляту два крэслы!

— І паўгаршка золата аддасі! — падчапіў Есіп.

— Дурань ты! — адмахнуўся пляцяр. — Я табе трыста разоў казаў... Ні було там ніякага золата!

---

19 Баба-спірт – вельмі жвавая.

20 Уладзіў – сапсаваў, паламаў.

Пасля вайны на месцы спаленай партызанамі мястэчковай аптэкі яны, хочучы зарабіць, напрасіліся капаць яму пад пастамент для помніка Леніну, і пляцяр тады за спінай у Есіпа вырыў гаршчок з прыкручанай дротам накрыўкай, падумаў, што ў гаршку золата і, кінуўшы капаніцу, папёр дадому.

Аднак жа ніякага золата ў гаршку і блізка не было, а нейкае толькі прэлае збожжа.

Дазнаўшыся ад праставатай Марушкі пра такі ўдачлівы плецяроў здабытак, шчаслівы Есіп не раз даймаў суседа:

— О, Піліпе, табе золата, а мне толькі Ленін!

— Ты больш выйграў, чым я? — адбрэхваўся пляцяр.

— Як гэто больш? — крывіў носам Есіп.

— Як папруць камуністаў, то забярэш Леніна ў свой сад!

— Навошчо?

— Паставіш вуллі пільнаваць...

Так па-суседску незласліва перабуркваліся, асабліва адзін аднаму ногі не адтоптвалі і заўсёды разыходзіліся задаволеныя, як і гэтым разам...

І от аднаго лістападаўскага вечара Есіп з падміргам у двор зайшоў:

— Я ўгаварыў яе!

Ад такой неспадзеўкі ў плецяра нават жывот аслабеў:

— Пастой тут, а я зараз...

Пакінуў Есіпа на ганку, а сам, на хаду распярэзваючыся, сыпануў за адрыну...

Калі вярнуўся, тады Есіп зноў загаварыў:

— Давай, заўтра збірайса! Толькі ж не з пустымі рукамі!

— А то з пустымі збяруса!

— Ляцеў верабей жаніхацца да ўдавіцы, у дзюбе нёс асцюкі з пшаніцы! — не паверыў плецяру Есіп і падказаў, як шукаць у сяле Парасчыну вуліцу і хату.

Назаўтра пляцяр утачыўся ў тое блізкае сяло — без падарунка, канешне; знайшоў патрэбную вуліцу і хату і, яшчэ стоячы ў парозе, адно паздароўкаўшыся з Параскай, завёў такую гаворку:

— Ты без чалавека, я без жонкі. Давай жыць разам! Як той казаў, складзем у адзін кош нашы германскія грошы!

Параска й вухам не варухнула...

Пляцяр тады пахваліўся, што ў яго дзеда было дваццаць пяць выязных коней, але сямнаццаць з іх дзед прапіў, і яго бацьку засталося толькі восем; бацька іх таксама прапіў і добра зрабіў, бо ў 1939-м...

Параска паказала плецяру на ўслончыка, зірнула на гадзіннік на сцяне і пахвалілася тым, што яе бацька зусім не піў і адпраўляў у Вільню па дзесяць бітых кабаноў...

Яшчэ трохі то ён, то яна пахваліліся сваімі радзінамі і дахваліліся да ядыпіты.

— Частуйся! — Параска паставіла буракі і пляшку нейкай настойкі.

Пляцяр коратка крактануў, краем далікатнага белага абруса працёр акуляры і — усё выпіўшы і з'еўшы — казырнуў:

— Я лепей вару і віно лепшае цісну. Твой боршч ніхт гуд!

— Мой боршч зэр гуд і настойка мая добрая! — адсекла Параска.

Тады ён зазваў яе да сябе ў госці.

## 4.

У першую нядзелю Параска й шкрабнула плецяровай хорткай; пакуль ступіць на ганак, зірнула ў хлеў — карова танула ў гнаі; прачыніла вароты ў адрыну — дроў ажно пад столю і ўсе ясянёвыя...

«Шчо за чоловечына! — зайшоўшы на кухню, ссунула на плечы хустку. — Дроў поўная адрына, а ў хаце зыбер[21]!»

На кухні тарабаніла радыё, і пляцяр не пачуў Парасчыну ходу; у кухайцы, ён сядзеў пры стале ў пярэдняй, глядзеў у маленькае трэснутае люстэрка, уторкнутае ў торбачку з просам, і зразаў бяспечнаю брытваю з зубоў жоўты налёт...

Радыё ж не змаўкала:

«... 21 лютага 1940 года Гітлер загадаў генералу Фалькенхорсту захапіць Нарвегію.

Загад правадыра быў, як неспадзяваны ўдар — генерал не меў патрэбнай карты!

Аддыхаўшыся ў садзе рэйхсканцылярыі, ён сказаў свайму ад'ютанту:

— Вось так мы і ваюем! Спачатку плануем захоп якой-небудзь краіны, а тады ўжо пачынаем шукаць карту гэтай краіны!

— О так, гер генерал! — паслужліва ўсклікнуў ад'ютант. — Пры аншлюсе Аўстрыі камандзіру 2-й танкавай дывізіі генералу Фейелю было загадана з Пасау тэрмінова рушыць на Лінц. У Фейеля ж не было карты Аўстрыі і таму генерал-лейтэнант Гудэрыян параіў яму скарыстаць турыстычны даведнік Бэдэкера!

— Мы таксама скарыстаем гэты даведнік! — уздыхнуў Фалькенхорст і пайшоў з ад'ютантам у бліжэйшую берлінскую кнігарню, каб купіць Бэдэкера...»

Параска хацела распрануцца, але пабаялася, што задубее, таму ўбраная з кухні перасунулася ў пярэднюю.

Убачыўшы госцю, пляцяр і не здрыгануўся, не адклаў брытву — яшчэ з доўгую хвіліну абрабляў два неаброблены зубы.

Стоячы, Параска чакала...

Калі ж ён управіў свой несамавіты туалет, то ступіў на кухню, прыглушыў радыё, прынёс націснутага віна, у чаракі наліў, як дно закрыць, і зноў сігануў на кухню, каб схаваць пляшку ў халадзільнік.

Параска села за стол сама, а ён, вярнуўшыся, загаварыў пра суседа Есіпа і гаварыў так, што Есіп — вялікі ёмец[22], што калісь, вартуючы ў калгасе сена, ён

---

21 Зыбер – холадна.

22 Ёмец – злодзей.

штоночы вязку за вязкай насіў тое сена дадому; моду ж узяў такую — да трох ночы пільнаваў, а з трох насіў...

Калі прыстойваў у зацішку перадыхнуць, то вязку не скідваў з плячэй — маючы благія нервы, ведаў, калі скіне, то ўжо з долу падняць не пасілуе, таму мог прастаяць сагнутым і хвілін з дзесяць.

Іншы раз прызнаваўся — калі нясе вязку, то дрыжыць і целяпаецца ўвесь, і заснуць удзень не можа, бо раптам *прыйдуць* і *патрусяць*.

Пляцяр пытаўся: навошта кожнае ночы цягае, хоць бы пярэрву рабіў, на што Есіп зняможана цмокаў: ды я ўжо прывык да таго, каб ніводнай ночы не прапусціць...

Параска хацела ўкалоць плецяра (а ты што, сам ніколі не краў?!), ды, перадумаўшы, проста кінула:

— У тваёй хаце холад, як у сабачай будцы!

— Ляжак нячышчаны і ў коміне сажы поўна! Баюса пажару нарабіць!

— А хіба няма каму пачысціць? — Параска зірнула на сцяну, а праўдзівей — на рамку, пад шклом якое цямнелі фотаздымкі.

— Сын пакуль п'е, а як дойдзе да памяці, то пачысціць! — пляцяр нахіліўся да люстэрка, вышчарыў зубы, паўглядаўся ў іх і застаўся зубамі задаволены.

— Паліў бы асінай, асіна сажы не дае, асіна счышчае сажу, а то ўсю адрыну заклаў адным ясенем! — Параска адсунула ад сябе нявыпітую чарачку на сярэдзіну стала.

— Ясень і сыры гарыць, гэта не вярбіна! — пляцяр як і не заўважыў, што Параска адсунула налітае.

— Кінь у грубу на гарачае вуголле бульбяныя лупінкі! Лупінкі з'ядзяць у коміне ўсю сажу! — з плячэй Параска падняла хустку на галаву.

Пра бульбяныя лупінкі пляцяр нічога не паспеў сказаць, бо якраз праз парог каўзануўся сын — вочы мутныя, як у сыроватцы! — а ў вачах просьба: «Бацько, налі...»

Пляцяр хацеў яго адразу выперці з хаты, аднак сын упёрся, як чорт у сухую грушу:

— Я ўвесь той месяц пас тваю карову, а зараз у нядзелю і вупіць не грэх...

— Не дам! Ты ўсю маю душу вуняў!

— Я прашу заробленае! Ты вінен пляшку за карову!

— Не хацеў есці мяса, грызі косці, раз такі дурны! Вуйдзі з хаты! — ажно сліна паляцела з плецяровага крыку.

Сын упаў на калені:

— Ты нават сваёй унучцы яблукі шкадуеш!

— Кажаш, яблукі шкадую! — пляцяр выхапіў з прыстолка жмут бутэлечных этыкетак. — Унучка любіць з тваіх пляшак здзіраць гэтыя паперкі! От і мне прынесла. Паказала! На, чытай!

— Важко, бацько, з табой скутку дабіцца!

— А з табой лёгка?! Чытай!

Як на вялікіх бульбінах, хістаючыся на каленях, сын перабіраў адну за адной каляровыя налепкі і паслухмяна, глуха чытаў:

—... «Свитязянка», «Тайное свидание», «Лясны водар», «Садовая трускаўка», «Белая вежа», «Вишневая шаль», «Экспромт», «Поселковое», «Ягадны букет», «Ностальжи», «Традиционное», «Летний вечер», «Мозаика», «Алинка», «Лесной этюд», «Садовы карагод»...

Не даўшы дачытаць, пляцяр вырваў этыкеткі, схаваў у прытолак, а тады ўжо схапіў сына за каўнер, тузануў угару і паставіў на ногі:

— Апошні раз ты піў сорак пяць дзён! Сорак пяць! Дзень у дзень! Напіў сем мяшкоў па дваццаць пляшак і восьмы на адну няпоўны, бо ў яго ўлезла дзявятнаццаць! Унучка яшчэ сабрала цэлую торбу масавых[23] затычак! Усяго ты жлуктануў 159 пляшак! Кожную памнож у сярэднім на 2500! Выходзіць, 397500 зайцоў! І каб шчо добрае піў, а то хімію, ціснутую ў Баранавічах, Пінску і Брэсце...

— От я й прашу, бацько, налі свайго лепшага...

— У цябе клепчыны няма[24], але шчо ты зробіш, калі ў галаве мала, а ў жываце багата! — пляцяр адпусціў сына, і той упёрся плячыма ў сцяну.

— Дай яму пляшку! — раптам загадала Параска, пацягнулася да сваёй адсунутай чарачкі і выпіла яе.

Пляцяр тут жа палагаднеў, кінуўся на кухню, прынёс віно і аддаў сыну, і той, адляпіўшыся ад сцяны, радасна смаркануўся ў сваё левае плячо, і так хутка кульнуўся за парог, нібы тутака яго й не было...

Сяк-так яшчэ пастаравалі[25], але ўжо не пра тое, каб у адзін кош скласці грошы — не пра шлюб; кісла было абодвум, і Параска хіснулася да дзвярэй.

— Мо масла даць?! — спытаў яе ў спіну пляцяр.

— Я масла не люблю, я люблю сала! — Параска павярнулася ў парозе, і пляцяр адчуў яе патайны смех з яго.

— То мо сухой рыбы возьмеш? — ікнуў.

— Я люблю тую рыбу, якая хвастом варочае!

— Магу бобу-коней усыпаць?!

— Ад бобу-коней у мяне баліць пячонка! — зноў хвастанула яна і падумала: «Як будзе даваць мёд — вазьму!»

— Ці мэду табе накалупаць? — драпнуў па зубах сухім, нібы завязаным на сухі вузел, языком.

— А накалупай...

Пляцяр доўга шукаў слоік; знайшоўся літровы, ды яго адставіў і нарэшце выпараў з-пад лаўкі паўлітровы...

— Дык будзэш са мной жыць? — спытаў, укручваючы слоік з мёдам у дзіравую з алейнымі плямамі газеціну.

— Перазімую, тады й скажу...

---

23 Масавых – пластмасавых.

24 Клепчыны няма – розуму няма.

25 Пастаравалі – пагаманілі.

# 5.

Мінула зіма.

Як добра ўгрэла сонца, пляцяр прыехаў да Парaскі на польскім ровары, выставіў поўную пляшку ўсё таго ж самаробнага віна і палажыў каля пляшкі тры вялікія з добры кулак цыбуліны.

— Чаму ты не хочаш мяне? — спытаў, калі трохі выпілі.

— Першы раз у маю хату з пустымі рукамі ўвайшоў! — Параска садзьмула з абруса сівую валасіну.

— Дык зараз не з пустымі! — пляцяр паказаў на віно і цыбулю.

— Маім белым абрусам акуляры выцер! — Парасчына злосць патужэла.

— От бяды нарабіў, дубам[26] у сені заплыў! — пляцяр зняў акуляры, але гэтым разам не стаў іх выціраць і зноў надзеў, нават не хукнуў на шкло.

— Знаў, шчо я буду, а дроў пашкадаваў, каб хату напаліць... Я оцупла[27] ў цябе...

— У холадзе здаравей...

— Наліў мне, як камару вупіць, і пляшку тут жа схаваў...

— Я не ўмею каля жанок хадзіць...

— Сына знехтаваў[28]...

— А яму піць няможна. Ён усё прапівае. Ён пацягнуў мае нямецкія грошы!

— Раз украсці можна! — Параска змоўкла, нібыта збаялася сваёй думкі, і зноў накінулася на плецяра:

— А чаму ты гной тады не выкінуў з хлява? Карова ж танула?!

— Як ты пайшла ад мяне з маім мэдом, то я і выкінуў тут жа! — укусіў сябе за язык пляцяр, скрывіўся і падумаў пра Параску: «Умее пяць пальцаў пад шкуру засунуць!»

— Больш да мяне не прыходзь! — выракла Параска. — Ты памрэш, не пакаяўшыса, а я і без цябе работы маю свет[29]!

Пляцяр забраў пляшку, цыбулю пакінуў і выйшаў з хаты, не зачыніўшы дзверы...

Жаненне не пайшло ў цвет.

Што так сталася, пляцяр не айкаў і Параска не вохкала; ніхто з іх не ўхапіўся за галаву — прыспаныя нервы й не варухнуліся.

Нерваваўся крыху адзін толькі Есіп, бо пляцяр Піліп не сплёў яму два крэслы.

*24 кастрычніка 2014 г., пятніца, 20 г. 14 хв.; Менск.*

**Фота Джона Кунстадтэра**

---

26 Дубам – лодкай.

27 Оцупла – замёрзла.

28 Знехтаваў – зняважыў.

29 Свет – шмат.



# Анатоль Бароўскі

**празаік, паэт, публіцыст, мастак. Аўтар кніг: «Каліна пад акном», «Надзейная змена», «Мікалай Пушкар» і інш. Нарадзіўся ў 1942 годзе ў вёсцы Крушнікі на Мазыршчыне. Жыве ў Гомелі.**

# Прыгоды дыназаўрыка Дуна

## 1. Школа дыназаўрыкаў

Адбылося тое даўно-даўно — шмат мільёнаў гадоў таму...

... Жыў на зямлі дыназаўрык. Жыў ён у спякотнай краіне — у Афрыцы.

Маці дала яму прыгожае імя — Дун. Ласкава — Дунчык.

Дыназаўрык быў яшчэ маленькі, і толькі праз год навучыўся спрытна хадзіць па зямлі, падымацца на невысокія ўзгоркі. З вышыні ён любіў назіраць за тым, што адбывалася наўкола.

Калі ж яму споўнілася пяць гадоў, маці аддала яго ў школу, каб набіраўся розуму і ўмення абараняцца ад ворагаў. Усе дыназаўры павінны авалодаць навукай змагацца з ворагамі, якіх, на жаль, хапала вакол.

Сям'я Дуна сілкавалася травой і лісцем дрэваў і кустоўя, як нашыя каровы і авечкі, таму іх называлі траваяднымі. Да іх адносіўся і настаўнік Мудрадзін — стары і павольны ў рухах дыназаўр. Ён трошкі не дачуваў, па-гэтаму не чуў, як за яго спіной дурэла малеча, б'ючы адзін аднаго хвастамі. Яны нават пасмейваліся з яго, — падкладвалі пад хвост калючыя катахі кактусаў. Але яны не ведалі, што яны не маглі ўкалоць яго — скура ў Мудрадзіна за доўгія гады зрабілася цвёрдай, як каменнай...

Дунчыка ў школу праводзіла і сустракала маці і старэйшая сястрычка Аніка. Аніка ўжо скончыла школу, мела нейкі вопыт і была смелай, магла абысці нейкія нечаканыя небяспекі, што сустракаліся на яе шляху.

Мудрадзін настаўнічаў шмат гадоў, з таго часу, як перастаў быць важаком дыназаўраў. Некалі ён вучыў і маці Дуна — Чыпору, і бацьку — Сіладзіна. Некалі ў суровым і жорсткім змаганні ён адзін перамог ворагаў, і з таго часу яго аднадушна абіралі важаком калоніі.

Настаўнік, спыніўшыся каля групы сваіх вучняў, павітаўся. Дзеці дружна адказалі яму.

— Увага, дзеці! — прамовіў ён ціха, але ўсе добра чулі яго. — Паслухайце мяне, калі ласка, уважліва. Вы яшчэ маленькія, няўклюдныя і безабаронныя, і таму мая задача навучыць вас розным прыёмам і правілам падчас сутыкнення з нейкім ворагам, каб вы ўмелі выжываць у гэтым свеце. Чаму нас называюць дыназаўрамі? Таму што мы ўсе для акаляючага свету — страшныя яшчаркі. Слова «дына» і азначае «страшны». А «заўр» — гэта яшчарка. Але ж хіба мы страшныя? Мы бяскрыўдныя стварэнні, хаця і лічаць нас веліканамі з-за вялікага росту...

— Як мой тата? — не стрымаўся Дун, паглядзеў на настаўніка.

— Так, як твой тата, — заўсміхаўся настаўнік, хаця хацеў папракнуць вучня, што той перабіў яго, але перадумаў. — Нам трэба разабрацца, якія ж існуюць дыназаўры. Вы павінны гэта ведаць. Каб адрозніваць сваіх ад чужых. Ёсць два віды дыназаўраў: яшчары і птушкападобныя. Яны адносяцца да тыранаў-

раў. Мы ж з вамі належам да атрада птушак. У нас, як вы бачыце, чатыры нагі. Таму нас адносяць да дыпладокаў.

— І тата мой казаў, што на нас рэдка нападаюць лятаючыя птушкі, — зноў падаў голас дыназаўрык. — Гэта праўда, настаўнік?

— Так, праўда, — не пакрыўдзіўся на гэты раз Мудрадзін на пытанне свайго дасціпнага вучня. Яго радавала, што Дун такі цікаўны і дапытлівы. — Двуногія іўганадонты і транадонты не маюць на сваім целе абаронных панцыраў, як мы. Яны вольна сябе пачуваюць у вадзе. Нас жа Бог стварыў з іншым целаскладам, і гэта памагае нам абараняцца ад ворага. Мы маем моцны панцыр з касцяных пласцінаў, і ў нас вырастаюць моцныя шыпы ўздоўж спіны і хваста. У сцегазаўраў і ў тэратопсаў, нашых суродзічаў, ёсць яшчэ і рогі, на шыі засцерагальны каўнер з моцных касцяных пласцінаў... Калі хто і нападзе на нас, не ведаючы пра тое, то абломіць сабе зубы...

Дыназаўрыкі засмяяліся, уявіўшы, як у нападаючага звера ламаюцца і крышацца зубы і клыкі. Весела стала вучням, падабаецца ім, як вядзе з імі гутарку Мудрадзін.

Аднойчы Дун пачуў, як паміж сабой гаварылі бацькі пра нейкую даліну Жыцця. Шкадавалі, што туды немагчыма дабрацца, а дзяцей туды пасылаць рызыкоўна і небяспечна. Казалі яшчэ пра нейкія незвычайныя дрэвы, на якіх растуць чароўныя плады — рафаны. Яны вылечваюць дыназаўраў ад розных хвароб, нават прадоўжваюць жыццё.

І не ўтрымаўся зноў Дунчык, вельмі ж хацелася паболей даведацца пра тую даліну. Таму, калі Мудрадзін на момант замоўк, і папытаўся:

— Даруйце, паважаны настаўнік, ці не маглі б вы нам расказаць пра даліну Жыцця?

Настаўнік павярнуўся ў бок Дуна, выгнуўшы сваю доўгую шыю, падзівіўся:

— А адкуль табе вядома, Дун, пра гэтую даліну?

— Выпадкова ад бацькоў пачуў, як яны гаварылі між сабой. Але з іх размовы я нічога не зразумеў...

Мудрадзін уздыхнуў, падняў высока галаву. Раздумваў — казаць ці не пра даліну вучням? А ўсе з нецярплівасцю чакалі ад яго адказу.

— Так, дзеці, сапраўды ёсць на зямлі такое месца... Цудоўная, райская мясціна, акружаная непрыступнай гарой Эрда. У даліне Жыцця растуць рафаны. Але туды няма дарогі. Даўно няма.

— Але ж вы некалі дабраліся туды, настаўнік! — не ўтрымаўся і ўсклікнуў дыназаўрык. — І вылечылі свайго бацьку, які змагаўся адзін супраць дзесяці драпежнікаў і атрымаў шмат ранаў.

— Ты і пра гэта ведаеш? — здзівіўся настаўнік. — Але гэта было так даўно, вельмі даўно... Адбылося тое тады, калі я быў сам яшчэ маленькі, ды ў такім узросце, як вы сёння. Ёсць у той гары таемны адзіны праход, правільней, тунэль. Ён вельмі вузкі, таму даросламу дыназаўру прайсці па ім немагчыма. Але калі хто і зможа дабрацца туды, што немагчыма, дык можна вынесці ад-

туль усяго адну гронку тых цудоўных пладоў. Калі ж хто возьме больш, яны страчваюць сваю чароўную лекавую сілу.

Дыназаўрыкі, пачуўшы тое, задумаліся. Асэнсоўвалі пачутае.

— А маленькаму туды можна дабрацца? — прагучала новае пытанне цікаўнага дыназаўрыка: яму вельмі хацелася даведацца пра ўсё падрабязней.

— Можна, але туды малеча не здолее дайсці — вельмі ж далёка, ды і шлях поўны рызыкі і небяспекі. Падлеткі без дазволу бацькоў выпраўляліся ў той шлях, але ніхто з іх, на вялікі жаль, не вярнуўся... Таму я, як ваш настаўнік, забараняю, строга забараняю вам нават і думаць пра такое падарожжа!

Вучні маўчалі, апусціўшы галовы. Задумаўся над словамі настаўніка і Дун, але ў ім яшчэ больш разгарэлася цікавасць да тых рафанаў.

Шмат чаго і яшчэ цікавага расказваў Мудрадзін сваім выхаванцам. Вучыў, што трэба рабіць, калі дзеці заблудзяцца ў джунглях і не змогуць знайсці дарогу дадому, што рабіць, калі раптам нечакана з ракі вынырне кракадзіл і накінецца на сваю ахвяру...

— Дун, — звярнуўся настаўнік да вучня, — як пачуваецца маці?

— Яшчэ кульгае, рана не зажывае.

— Дзеці, мы заўтра ўсе разам пойдзем у адведкі і ў госці да маці Дуна — Чыпоры, — прамовіў настаўнік, абводзячы дзяцей позіркам, — у яе заўтра дзень народзінаў. Ты падрыхтаваў для маці свой падарунак, Дун?

— Яшчэ не, але я ведаю, што падару, — адказаў дыназаўрык, абрадаваўшыся, што настаўнік прыйдзе з яго сябрамі павіншаваць маці.

А потым дыназаўрыкі паказвалі настаўніку, як яны засвоілі яго ўрокі. Дун са сваімі сябрамі хаваўся ў густых зарасніках, астатнія зашываліся ў густы высокі мох і траву. Затаіўшы дыханне, усе чакалі, калі іх будзе расшукваць Мудрадзін.

А ён рабіў выгляд, што вельмі стараецца адшукаць іх і не можа знайсці, гаварыў са шкадаваннем:

— Ніяк не магу вас знайсці. Вы добра навучыліся маскіравацца на мясцовасці. Цяпер я за вас спакойны. На сёння нашы заняткі скончаны, можаце ісці дадому. Усім стаўлю «выдатна». Вы — малайцы!

***

Насустрач Дуну спяшалася ўжо сястрычка. Яна, павольна перастаўляючы ногі, калывалася па пясчаным полі. Убачыўшы брата, падала радасны вокліч:

— Ду-ууу-уун!

Ён адказаў, узняўшы ўгору галаву, не меней радасна:

— Ані-іііі-іка-аааа!..

Дун паклаў галаву на спіну сястрычкі, тым самым паказваючы, што ён рады сустрэчы.

Па дарозе расказваў, як прайшлі ўрокі, пра што ён пытаўся ў настаўніка. Радавалася Аніка за свайго брацiка. Яны, перавальваючыся з боку на бок, крочылі побач.

Свяціла сонейка, па небе плылі белыя касмылі аблокаў. Даўно не было дажджоў, высахлі азёры і малыя раўчакі, не было дзе наталіць смагу. У небе лёталі вялізныя птушкі з доўгімі дзюбамі — прэдактылі, але яны не нападалі на Аніку і Дуна, ведаючы, што «абломяць свае зубы» аб іх моцныя панцыры.

Аніцы стала весела, і яна заспявала песню дыназаўраў:

*— Мы — дыназаўрыкі, мы — дыназаўрыкі,*
*жывем мы ў Афрыцы, жывем мы ў Афрыцы...*
*Знаёмай крочым мы дарогай,*
*і не баімся мы нікога!..*

Сястрычцы падпяваў Дун. Голас у яго быў гучны і вясёлы.

З такой песняй і ўвайшлі яны ў квітнеючую даліну, дзе каля самай гары, на беразе ракі, іх ужо чакалі маці і бацька.

Калі дзеці падышлі да іх, маці радасна ўсклікнула, вітаючы сына і дачку. Звярнулася да сына:

— Як, Дунчык, прайшоў дзень у школе?

— Нам усім настаўнік паставіў выдатныя адзнакі. Мы навучыліся ўжо хавацца ў зарасніках лесу.

— Якія вы ўсе малайцы! — пахваліла Чыпора. — Разумнікі вы мае!

І потым апавядаў Дун, чаму вучыў іх Мудрадзін:

— Цяпер я ведаю, колькі відаў дыназаўраў жывуць на зямлі, каго трэба асцерагацца, а каго і зусім не... Ведаю, што ёсць драпежныя лятаючыя яшчары, якія жывуць у вадзе...

Маці і бацька паглядзелі на яго, пра сябе падумалі:

«Добры ў нас расце сын!»

Дун падышоў да бацькі, прамовіў:

— Тата, калі я вырасту, я таксама, як і ты, стану важаком дыпладокаў?

— Станеш, станеш, — паблажліва адказаў Сіладзін. — Але толькі пасля таго, як станеш дужым і моцным, здзейсніш подзвіг.

— Я здзейсню яго! — усклікнуў сын важака.

— А цяпер пара ўсім вячэраць, — аб'явіў бацька, — вунь колькі смачнай травы і лісцяў мы з маці падрыхтавалі для вас. Частуйцеся!

Зяляніна была смачнай і сакавітай.

А калі пачало змяркацца, дыназаўры леглі спаць. Дун лёг на сваё прывычнае месца — пад высокае, з густой кронай, дрэва. А калі заснуў, прысніўся яму стары настаўнік і яго сябры — дыназаўрыкі.

Цішыня апусцілася на ўсю Афрыку.

Паснулі звяры і птушкі. Нават вецер заснуў у сваім сховішчы, накрыўшыся прасцірадлам зорнага неба...

Нішто не замінала глыбокаму сну дыпладокаў.

## 2. Дзень народзінаў

Дун прачнуўся сярод ночы і задумаўся.

Яму не давала спакою, што прыйдзе раніца, распачнецца святочны для маці дзень, а ён, Дунчык, так і не падрыхтаваў для яе падарунак. Чыпора ляжала непадалёк ад яго, уздыхала. Мусіць, не спала, мусіць, балела ёй параненая нага. На маці колькі дзён таму, калі яна прагульвалася па саване, напаў драпежны дыназаўр, — вострай дзюбай дзеўбануў яе ў нагу. Добра, што непадалёку знаходзіўся Сіладзін, абараніў Чыпору ад ворага.

Дун ведаў, што падорыць маці. І падарунак той павінен быць незвычайны — прыгожы і лекавы для яе. Ноччу яму снілася даліна Жыцця і незвычайныя дрэвы, на якіх раслі рафаны. Ён нават яскрава бачыў дарогу, якая вяла ў тое незвычайнае месца, бачыў плады на дрэвах. Але калі ён падышоў да дрэва, хацеў дакрануцца пысай да гронкі, прачнуўся...

Настаўнік гаварыў, што рафаны на смак горка-салодкія, з цемнавата-чырвоным сокам. Той сок залечвае любыя раны. Ён павінен залячыць і пашкоджаную нагу маці.

Дун падумаў — калі ён накіруецца да тае гары, калі яшчэ не развідняе, то паспее нарваць тых пладоў і да ўсходу сонца вярнуцца назад. Думаў, як ён будзе несці тыя плады. Успомніў, што настаўнік казаў, што рафаны растуць вялізнымі гронкамі — па дваццаць-трыццаць пладоў на кожнай. Сарваўшы зубамі такую гронку, яе можна трымаць у зубах і несці, куды хочаш і колькі хочаш...

Стараючыся не пабудзіць бацькоў і сястру, Дун нячутна адпоўз ад іх. Ніхто не прачнуўся. Дыназаўрык стаў на чатыры нагі, выпраміўся, абтрос з сябе рэшткі сну.

«Ну, пара, — падумаў Дун, аглядаючы наваколле, — трэба спяшацца...»

Спачатку ішоў павольна, баючыся парушыць сон саваны. Потым перайшоў на бег, стараючыся часцей перабіраць нагамі. Яму патрэбна ў што б ні стала паспець да ўсходу сонца вярнуцца, прынесці маці лекавы падарунак.

Шлях яму нечакана перагарадзіла рака. Калі ж яна глыбокая, то яе трэба пераплысці. Але ён не ўмеў плаваць. Мудрадзін казаў, што ўменню плаваць яны будуць вучыцца пазней.

«А раптам у рацэ кракадзілы? — з жахам падумаў Дун. — У іх жа вострыя зубы. Але ж у мяне панцыр на целе, — паспрабаваў супакоіць сябе дыназаўрык, — чаго мне баяцца?»

Дрыжучы ўсім целам ад страху, усё ж ступіў у ваду. Зрабіў крок, другі, трэці... Ніхто на яго не нападаў, ніхто не дакрануўся да яго, хіба што спуджаныя рыбы спалохана разбягаліся ў розныя бакі, ды ў скаламучанай вадзе біліся аб яго ногі.

Ён ішоў, усё больш і больш паглыбляючыся ў ваду. Ногі ўжо не датыкаліся да дна, але ён не спалохаўся, — аказалася, што ён ужо не ішоў, а плыў па ра-

цэ, і нават абрадваўся гэтаму адкрыццю. Усё атрымлівалася проста і цікава. А потым ён зноў адчуў пад нагамі дно і цвёрда стаў на ногі. Хвост яшчэ цягнуўся з аднаго боку ракі, а галава і ногі ўжо былі на другім беразе.

— Я пераплыў раку! — усклікнуў радасна Дун. — Сам пераплыў, без нічыёй дапамогі. Я ўмею плаваць, хаця я і не трыхадонт, які ўсё жыццё жыве ў вадзе.

Трэба было спяшацца, ісці далей. Вось і гара Эрда, пра якую казаў настаўнік. А дзе тунэль, пра які ён гаварыў? Трэба, значыць, ісці вакол гары, каб адшукаць яго. Але колькі патраціць ён на тое часу, Дун не ведаў. Ён увогуле не ведаў, як рухаецца час, і колькі яго трэба патраціць, каб дайсці да райскай саваны з горка-салодкімі пладамі. А яму ж яшчэ трэба вярнуцца назад, каб яго адлучку не заўважылі бацькі.

Калі ж яны прачнуцца і ўбачаць, што яго няма побач, пачнуць хвалявацца, перажываць, падумаюць, што яго схапілі лютыя драпежнікі. Навошта ім такія перажыванні?

«Наперад, наперад, — падганяў сябе думкава Дун, — мне нельга спыняцца, нельга затрымлівацца... хутчэй наперад!»

Насустрач яму, накульгваючы на адну нагу, ішоў дарослы і вялізны дыназаўр. Спыніўся, здзіўлена і ўважліва паглядзеў на Дунчыка:

— Ты куды накіроўваешся, малы? Адзін, без бацькоў... Заблудзіўся?

— Не, я не заблудзіўся, дзядзька дыназаўр. У маёй маці сёння дзень нараджэння, дык я спяшаюся за падарункам.

— За рафанамі?

— Так, за імі, а адкуль ты ведаеш пра тое?

— Я ўсё ведаю, Дун. Мяне завуць Нор. Значыць, ты любіш сваю маці, калі адправіўся ў такое цяжкае падарожжа. Малайчына. Ці не мог ты, хлопча, памагчы мне ў маёй бядзе?

— Якой — бядзе? — падзівіўся дыназаўрык, што дарослы дыпладок просіць у яго дапамогі.

— У маёй правай назе глыбока ўпілася патарчака, і я ніяк не магу ад яе пазбавіцца. Ці не мог ты яе выцягнуць?

Сапраўды, з раны цякла кроў, з яе тырчэла вялізная стрэмка. Рану абляпілі чорныя мухі, і ад іх нельга было ніяк пазбавіцца. Яны рабілі дыназаўру балюча, назалялі, непакоілі.

Дыназаўрык ухапіўся ў стрэмку зубамі, з усіх сілаў упёрся нагамі ў зямлю, пачаў цягнуць патарчаку. Паспрабаваў раз, другі — не змог. Здавалася, у яго не хапіла моцы. Трэці раз учапіўся зубамі, напруціўся — і ў яго атрымалася! Ён выцягнуў вострую калючку-стрэмку з нагі.

Дыпладок, адчуўшы адразу палёгку, уздыхнуў:

— Дзякую, Дун! Ты вылечыў мяне. Малайчына! Бяжы, бяжы да сваіх рафанаў, і няхай пашанцуе табе!

І Дун, падбадзёраны пахвалой суродзіча, хутка пабег далей. Ён не шкадаваў аб патрачаным часе, затое дапамог Нору пазбавіцца ад болю.

Пачало развідняць. Гэта азначала, што яму трэба прыспешыць крок, каб дагнаць патрачаны час. Але бегчы рабілася ўсё цяжэй і цяжэй. Ніколі яшчэ Дун не пераадольваў такую адлегласць. Ён ужо пачаў і сумнявацца, ці правільна зрабіў, што адправіўся ў такую рызыкоўную дарогу.

І яшчэ адна рачулка сустрэлася на яго дарозе, але дыназаўрык ведаў, што ён яе лёгка зможа пераадолець. Яна аказалася неглыбокай, і ён не пераплыў яе, а перайшоў.

Зноў перашкода... Дун і яе пераадолеў, не задумваючыся, таму што думаў толькі пра адно — як найхутчэй дабрацца да рафанаў. Сілаў у яго заставалася ўсё меней і меней. Падступалася жаданне спыніцца, адпачыць, але, перасіліўшы сябе, працягваў настойліва дабірацца да сваёй мэты.

Бег і бег вакол гары Эрда, пільна ўглядваючыся ў скалы і шчыліны — не прапусціць бы той тунэль, не прамінуць. Калі падбег да наступнага выступу гары, убачыў на зямлі яшчара з пашкоджаным крылом. Крыло прычавіў важкі камень, і ён ніяк не мог зрушыцца з месца, — прымружыў вочы і цяжка дыхаў. Мусіць, перад гэтым прылёг адпачыць, і на яго нечакана скацілася з гары вялікая камянюка.

Дун адразу вызначыў, што трэба было рабіць. Ён падступіўся бокам да глыбы, упёрся усімі чатырма нагамі, — адштурхнуў кавалак скалы ад яшчара.

— Дзякую табе, мой мілы Дун! — прашаптала птушка, падцягваючы пад сябе пашкоджанае крыло. — Ты выратаваў мне жыццё...

— Ды дробязі гэта, мы павінны дапамагаць адзін аднаму ў бядзе. Ці не падкажаш ты мне, шаноўны, дзе адшукаць праход у гары, які вядзе да даліны Жыцця?

— Ды вось ён — перад табой, — паказаў дзюбай яшчар на густыя зараснікі, якія і хавалі той тунэль. — Даўно імі не карысталіся, таму і зарос так уваход, таму і стаў нябачным.

— Дзякуй табе, добры яшчар, без цябе я не адшукаў бы яго... Ты толькі не адыходзь ад гэтага месца. Дачакайся мяне, добра?

Так, сапраўды, тунэль нешырокі. Дарослы дыназаўр ніколі не зможа ўвайсці ў яго. Нават Дуну прыйшлося нізка апусціць галаву, каб не пашкодзіць яе аб вострыя выступы зверху. Далей тунэль яшчэ больш звузіўся, і прыйшлося паўзці ўжо на каленях. Але ён настойліва рухаўся наперад.

Гулка білася ў грудзях сэрца, стала цяжка дыхаць. І таму ён спыніўся, прымружыў вочы, чакаў, калі міне стома.

«А калі не дайду? — падумаў з трывогай Дун. — Вяртацца позна ўжо, ды і як вяртацца, калі нельга ў такім вузкім праёме развярнуцца. Застаецца толькі адно — рухацца наперад... Але ці будзе калі канец гэтай пячоры?»

Зноў, сабраўшыся з сіламі, працягваў паўзці. З радасцю адзначыў, што тунэль расшырыўся, ужо і галаву падняць можна, выпраміцца, стаць на ногі. Праз колькі крокаў ён убачыў першыя промнікі святла.

«Няўжо я блізка каля даліны? — радасна падумаў дыназаўрык. — Няўжо я дасянуў сваёй мэты?»

Але калі ў вочы ўдарыла зыркае сонечнае святло, ён прымружыў вейкі, апусціў галаву. Ён зусім знясілеў. Прайшоўшы колькі крокаў, лёг на зямлю. Адпачываў, здавалася, вечнасць. Але, успомніўшы пра маці, стаў на ногі. Калі ж расплюшчыў вочы, не паверыў таму, што ўбачыў.

Шырока раскінуўшы галіны, у даліне раслі дрэвы з зялёным буйным лісцем. Амаль да самай зямлі звісалі гронкі з чырвонымі пладамі — зіхацелі на сонцы, пераліваючыся рознымі колерамі. Даліна патыхала салодкімі пахамі ад мноства кветак і сакавітага лісця. Водар быў настолькі пахкі і прыемны, што ў Дуна злёгку закружылася галава.

«Так пахнуць рафаны? — абрадавана падумаў ён. — Няўжо гэта і ёсць сад Жыцця?»

Падышоў да дрэва, дацягнуўся галавой да ніжняй галіны. Асцярожна сарваў зубамі чырвоны плод, расчавіў яго, адчуў, як пырснуў у горла халодны і церпкі сок. Пачаў жаваць мякаць, глытаць яе. Ад задавальнення зажмурыў вочы — асалода! Дык вось якія яны рафаны — смачныя, сакавітыя! Адчуў, як па ўсім целе штуршкамі пачала разбягацца кроў. Калі з'еў другі чырвоны плод, адчуў, як да яго пачалі вяртацца страчаныя сілы, як ён увесь наліўся моцай і энергіяй. Ён стаў мацнейшым, якім быў да гэтага. Дзіўнае пачуццё! Ні з чым не параўнальнае!

Стаўшы на ногі, задраўшы высака галаву, пракрычаў на ўсю Афрыку:

— Я дайшоў! Я перамо-ооо-оог! Я адшукаў рафаны!

Рэха пракацілася па вяршыні гары Эрда, паляцела па ўсёй Афрыцы. Дун падумаў ужо, што сваім рыкам і воклічам мог разбудзіць усіх звяроў і птушак, але ўсё ж не ўтрымаўся, з вялікай радасцю пераможцы зноўку абвясціў:

— Я — смелы дыназаўр! Я нікога не баюся! Эге-ге-ээээй!..

«Эге-ге-ээээй!.. — паляцела, падскокваючы па саванах і вяршынях гор, магутнае рэха. — Эй-эй-ээээй!..»

Дун з'еў і яшчэ некалькі пладоў, ужо ведаючы, што гэта дасць яму яшчэ больш сілаў, каб пераадолець зваротны шлях. Помнячы наказ настаўніка, выбраў адну, самую вялікую, гронку. Адшчыкнуў яе ад тоўстай галіны, моцна сціснуў у зубах.

«А цяпер — пара дадому! — радасна падумаў Дун, адыходзячы ад дрэва. — Нельга губляць ніводнай хвіліны! Наперад!»

Ён зноў увайшоў у пячору. Але цяпер ён ведаў, як будзе прабірацца па пячоры. Галоўнае, што трэба не пашкодзіць рафаны, акуртана пранесці іх па цёмным праходзе.

Асцярожна, нізка апусціўшы галаву, трымаючы ў зубах запаветны падарунак, прасоўваўся наперад. Яго цяпер нішто не магло спыніць, ніякія перашкоды не павінны паўстаць наперадзе.

Дзіўна, але зваротны шлях падаўся яму карацейшым і лягчэйшым. Не заўважыў, як выйшаў на святло і пысай дакрануўся да галінаў зарасніку.

Яшчар, як і абяцаў, чакаў яго. Дун паклаў перад яго дзюбай гронку рафанаў, прамовіў:

— Частуйся, добрая птушка! Гэта чароўныя плады...

Прэдактыль адшчыкнуў плод, пажаваў і праглынуў яго. З'еў і яшчэ адзін.

Дун убачыў, як увачавідкі пачала зажываць рана на крыле, — яна знікла, а тое месца пакрылася тугой скурай. І зраслася пашкоджаная костка крыла. Да яшчара вярнуліся ранейшыя сілы, і ён тут жа ўскочыў на ногі. Падняўшы дзюбу да неба, застракатаў радасна:

— Дзякую табе, мой дарагі Дун!

А потым у знак падзякі паклаў Дуну галаву на спіну:

— Я не забудуся на тваю дабрыню...

І ў той жа момант рэзка ўзляцеў у неба, узмахнуўшы шырокімі магутнымі крыламі.

Без асаблівых цяжкасцяў дыназаўрык пераплыў раку і, не спыняючыся больш, пашыбаваў далей. На гронцы вісела напачатку дваццаць пладоў, засталося васямнаццаць... Ніводзін плод не згубіўся, не ўпаў на зямлю: Дун стараўся несці дарагі падарунак беражліва і асцярожна...

... Другую раку ён пераплыў, высока трымаючы галаву.

Сэрца дыназаўрыка перапаўняла радасць. Яму хацелася спяваць, але ён не мог таго зрабіць, бо зубы яго сціскалі гронку з важкімі рафанамі. І па-гэтаму ён пра сябе пачаў напяваць песеньку, якая прасілася на язык:

*— Я — смелы дыназаўрык, — па Афрыцы іду,*
*чароўныя рафаны матулі я нясу...*

Ён не даспяваў песеньку, хаця прыдумаў і яшчэ словы, спыніўся. Наперадзе між высокіх дрэваў, стаяў вялізны і злосны дыназаўр. Сустрэча з ім не абяцала нічога добрага. Гэта адчуў Дун адразу, як толькі ўбачыў яго пагрозлівы позірк.

Дыназаўрык, само-сабой, біцца яшчэ не ўмеў, ды і сілы былі няроўныя — гара супраць казуркі. Але штосьці падказвала Дунчыку, што ён мусіў стаяць нерухома. Адклаўшы ўбок чырвоныя плады, пакруціў галавой, прыняў у адказ інстынктыўна пагражальны выгляд. Сам не ведаў, чаго ў яго адарваліся ад зямлі пярэднія ногі, і ён абаперся на хвост. Задраў высака галаву, абвясціў жудасны крык на ўсю Афрыку, як быццам склікаў суродзічаў на дапамогу.

Дыназаўрык ведаў і тое, што ў яго яшчэ не выраслі і не скамянелі, як след, рогі і шыпы, якія б змаглі абараніць яго ад ворага. Яны з'явяцца ў яго праз некалькі гадоў. Вось такой безабароннасцю і вырашыў скарыстацца невядомы драпежнік.

Рык яго быў магутны і злы, здавалася, што на дрэвах задрыжэла лісце і захісталіся галіны:

— Гу-ууу-ууууууу! Не падыхо-ооодзь....

Гара-дыназаўр аслупянеў: не чакаў, што малы дыпладок прадэманструе такую смеласць і будзе супраціўляцца.

Дун яшчэ ўзвысіў свой голас, нават зрабіў крок наперад, быццам пагражаючы гіганту. Дрыжэла ўжо ад рыку зямля, нават горы, здавалася, пахіснуліся... Але тое падалося толькі Дуну.

Дыназаўр крутануў галавой, падняўся на заднія ногі. Накіраваўся да таго, хто стаяў на яго дарозе, каб расправіцца з ім, непакорай. Дун не спалохаўся, не сыходзіў з месца, быццам адчуваў у сабе сілы, каб аказаць супраціў ворагу. У яго і сапраўды павялічыліся сілы, калі ён паспытаў рафанаў, але не на столькі, каб быць мацнейшым за драпежніка...

Але тут нечакана з гушчыні дрэваў вынырнуў дарослы дыпладок, амаль упоравень з гарой-дыназаўрам, і стаў між імі — прыняў пагражальную позу, працяжна зарыкаў... Дун адразу ж пазнаў у ім Нора, якому дапамог выцягнуць стрэмку з нагі. Здавалася, яны вось-вось счэпяцца ў смяротнай бойцы, але вораг, ацаніўшы свае сілы, адступіў.

Падаў крык паразы і, прыгінаючыся да зямлі, нагінкам уцёк з поля бою.

— Ну, што спалохаўся, Дун? — павярнуўся, усміхаючыся, да яго дыпладок. — Страшна сустракацца з ворагамі?

— Радасці, вядома, мала, — пагадзіўся дыназаўрык. — Як твая нага, Нор?

— Усё ўжо добра, дзякуй табе. Вось цяпер можаш ісці далей — наперадзе больш ворагаў не будзе. Спяшайся да маці, яна чакае цябе.

— Дзякую табе, Нор! Але перш пасмакуй тое, што падараваў мне райскі сад.

І ён паказаў на гронку, якая ляжала побач на зямлі.

— Дык гэта ж падарунак тваёй маці, — недаверліва паглядзеў на яго збавіцель.

— Тут не толькі для маці, а і для маіх сяброў, — супакоіў яго Дун. — Ужо смакаваў лятаючы яшчар з перабітым крылом, і ты адведай...

І Нор праглынуў два рафаны, — адразу памацнеў.

— Дзякуй, Дун! Спяшайся!

Дыназаўрык, радуючыся, што бяда мінула, падчапіў зубамі гронку і паспяшаў далей. Пра сябе ж падумаў: «Як добра мець добрых сяброў, якія прыходзяць на дапамогу ў цяжкія хвіліны... Было ў мяне дваццаць рафанаў, потым стала васямнаццаць, а цяпер шаснаццаць. Хопіць усім, і ўсім яны пойдуць на карысць!..»

... Родныя Дунчыка даўно прачнуліся. Яны яшчэ не паспелі напалохацца адсутнасцю Дуна. Падумалі, што ён пайшоў прагуляцца.

А калі ўбачылі, што ён спускаўся з гары і трымаў нешта чырвонае ў зубах, здзівіліся — што ён мог несці для іх. Чакалі, калі падыдзе бліжэй.

Ён найперш падышоў да маці, паклаў перад ёю гронку чырвоных пладоў, прамовіў:

— Гэта табе, мама! Віншую цябе з днём народзінаў!

Чыпора з недаўменнем паглядзела на чырвоныя яблыкі, потым перавяла позірк на сына:

— Няўжо гэта рафаны, сын мой?

Ён у адказ заківаў галавой.

— Няўжо ты адправіўся ў даліну Жыцця і змог вярнуцца дадому?

Дун зноў колькі разоў паківаў галавой, прамовіў:

— Як добра, мама, мець сапраўдных сяброў! Яны памаглі мне адшукаць рафаны і пераадолець адваротны шлях. А цяпер я хачу, каб ты пасмакавала гэтыя плады.

Чыпора выканала просьбу сына. З'ела адзін рафан, потым і яшчэ адзін. Адчула адразу прыліў бадзёрасці і сілы. Адразу ж прапаў шнар і перастаў балець. Знікла кульгавасць, і яна магла ўжо кінуцца ў скокі.

З'елі па два плады бацька і Аніка. І яшчэ засталося... Заставалася роўна столькі, колькі і павінна было прыйсці гасцей на дзень народзінаў Чыпоры.

— Гляньце, да нас ідуць госці! — усклікнула Аніка і паглядзела ў той бок, адкуль, пераваньваючыся з боку на бок, спускаліся з узвышку дыпладокі.

Пазналі, хто ішоў да іх. Як і абяцаў, да іх кіраваўся Мудрадзін са сваімі вучнямі — сябрамі Дуна.

Усе ажывіліся, замітусіліся, пачалі займацца прыгатаваннем пачастункаў на святочным стале.

Гасцей і сяброў дыназаўры сустракалі заўсёды з радасцю і павагай.

## 3. Бітва дыназаўраў

Як хутка праляцеў час! Здавалася, зусім нядаўна пайшоў дыназаўрык Дун у школу, а прайшлі ўжо і апошнія заняткі ўсёй вучобы.

Усе экзамены Дун здаў паспяхова.

У яго ўжо выраслі вялікія шыпы ўздоўж цела, доўгія — не падыходзь, саступі з дарогі!

І Аніка падрасла, у яе на галаве вырас вялікі абарончы рог, якім магла баданунь пад бок ворага, па баках утварыліся вострыя, быццам нажы, пласціны.

Ганарыліся бацькі сынам і дачкой. Цяпер яны ўсе разам змогуць адстойваць і абараняць тэрыторыю ад непажаданых ворагаў, даць ім моцны адпор. Са сваёй даліны яны не хацелі сыходзіць — тут знаходзілася і рэчка побач, расло шмат дрэў з сакаўным лісцем, густая трава ў нізіне поймы. Усюды засуха, а ў іх даліне ўдосталь зеляніны...

Колькі разоў спрабавалі трыхадонты выштурхнуць іх з прывычнага месца! Але ім удавалася неяк адваяваць сваю тэрыторыю — насмерць стаялі дыпладокі, памерці былі гатовыя за свае ўладанні. І кожны раз драпежнікі адступалі. Пагражалі зноў вярнуцца, каб даць рашучы бой.

Таму Чыпора і Сіладзін заўсёды пільна сачылі за наваколлем: адзін спаў, а другі чуйна стаяў на варце.

Колькі разоў прасіўся Дун у матулі, каб яна дазволіла падмяніць яе падчас варты, але яна заўсёды адмаўляла, нават злавалася:

— Малы ты яшчэ, Дун! Гадзік-два падрасці, потым мы і самі цябе папросім пра тое... Пацярпі трошкі, добра?

Што паробіш, маці трэба слухацца, падпарадкоўвацца ёй — такі няпісаны закон саваны. Таму ён і не спрачаўся, але ў душы не згаджаўся з Чыпорай — не, ён ужо не маленькі, ён амаль дарослы, ён ужо не дыназаўрык Дунчык, як яго называла маці, а дарослы — амаль дарослы дыназаўр Дун...

... Аднойчы сярод ночы, цёмнай, бы глей на дне Ніла, калі на даліну асунуўся густы туман, а за шэрымі аблокамі схаваўся круглатвары месяц, да вуха Дуна даляцелі падазроныя гукі і шоргат. Як быццам нехта краўся, прыпаўшы да зямлі, а потым асцярожна пераскокваў з месца на месца і затойваўся.

Так маглі скакаць толькі трыхадонты.

Дун паглядзеў на маці, якая павінна была несці варту ў гэтую ноч. Яна, стаміўшыся за дзень ад доўгіх пераходаў па гарах і далінах у пошуках ежы, схіліла стомлена галаву на зямлю — ці то спала, ці толькі адпачывала, прыслухоўваючыся да старонніх гукаў.

А амаль нячутныя гукі і ўздыхі набліжаліся і набліжаліся, усё мацней і мацней чуваць былі кароткія пераскокі драпежнікаў... Яны, трыхадонты, былі яшчэ за гарой, але вось-вось узыйдуць на яе, а потым нечакана могуць напасці на сям'ю важака калоніі дыназаўраў.

Марудзіць не выпадала. Дун ускочыў на ногі. Тупнуў адной нагой, увагнаўшы глыбока ў зямлю сваю ступню, падняўшы да неба воблака пылу, пагрозліва зароў:

— Гу-ууу! У-ууу! Не падыходзь, трыхадонт, мы цябе не баімся! Гу-ууу-ууу!..

Тады ж адразу прахапіўся Сіладзін, за ім Чыпора і Аніка. Убачылі, што на ўзгорку чарнее зграя трыхадонтаў.

— Ігу-гу-ууу! — крычаў з усяе сілы Дун, стараючыся навесці страх на ворагаў. — Ігу-гу-ууу!..

Няцяжка было вызначыць, што няпрошаных гасцей на гэты раз было нашмат болей, вельмі шмат, ніколі столькі не прыходзіла.

«Не выстаім, — падумаў чамусьці Дун, гледзячы, як насцярожана ўзіраліся ўдалеч бацька і маці, наставіла свой востры рог Аніка — як і маці. — Вельмі ж няроўныя сілы...»

Яго наступны рык ужо не быў падобны на папярэдні. Усе пачулі вокліч не ўчарашняга дыназаўрыка, а грозны покліч воіна, абаронцы сям'і, сваёй тэрыторыі... І гэты воін гатовы быў змагацца да канца, пакуль будзе жывы.

На небе ўжо рассунуліся аблокі, даліну высвеціў круглы месяц, цікаўна глядзеў на сутычку, як быццам гадаў, хто ў гэтай бітве пераможа. І пры месячным

святле добра было бачна, як з усіх бакоў на іх наступаў непрыяцель. Ворагі ўжо кучкаваліся ўсюды: паперадзе іх — на гары, а злева пагрозліва рухалася вялізная аграмада драпежнікаў.

Важак дыпладокаў прыняў абарончую стойку, каб адбіць атаку тых, хто спаўзаў з гары. Чыпора разам з Анікай чакалі нападу з боку лесу. Дун павярнуўся да тых, хто хацеў напасці нечакана ззаду.

І ў той жа момант у шэрым небе пачулася гаспаснае стрыкатанне і пошчак дзюбаў, — быццам гром узарваўся падчас навальніцы. То ў небе лёталі яшчары з даўгімі дзюбамі — птэрадактылі.

«Усё, цяпер мы загінем, — з горыччу падумаў Дун, — ад іх нам не выратавацца...»

А з-за гары насоўвалася яшчэ адна плойма жорсткіх дыназаўраў. Але гэта, аказалася, былі не трыхадонты, а суродзічы — дыпладокі.

— Дун, трымайся! Мы ідзем на дапамогу!

То быў голас Нора. Ён, дачуўшыся пра нашэсце ворагаў, склікаў сваіх воінаў і рушыў на дапамогу. Паграбжальна зароў, паказваючы трыхадонтам, што ўступіць з імі ў смяротную бітву.

Над галавой Дуна пачуўся супакойваючы покліч:

— Дун, мы абаронім вас!

Ён не чакаў, што так яно ўсё павернецца. Аказваецца, важак прэдактыляў, у знак падзякі, што Дун выратаваў ад смерці яго сына, адправіў лятаючую армію, каб дапамагчы адбіць атаку ворага.

Але трыхадонты быццам і не чулі папярэджвання — пагрозлівага голасу Нора і лятаючага яшчара, наступалі і наступалі, равучы і тупаючы капытамі. Яны сваім рыкам стараліся навесці страх на ўсіх звяроў саваны.

Нават кракадзілы і бегемоты схаваліся ў вадзе і носа не высоўвалі, тыгры і ільвы падціснулі ад страху хвасты. Усе ведалі і прадчувалі, што вось-вось павінна адбыцца вялікая бойка, якой не было ніколі да гэтага.

Першым нанёс удар трыхадонту важак дыпладокаў Сіладзін — з усёй сілы пхнуў вострым клыком так, што той упаў на спіну. Нор падышоў з тыла, зрабіў смяротны ўдар у бок важаку, які рухаўся апошнім, падаючы каманды ўсім воінам. А зверху, узлятаючы і рэзка падаючы ўніз, дзяўблі птэрадактылі вострымі дзюбамі ў спіны і бакі драпежнікаў.

Чыпора і Аніка не адбіваліся, а ўжо самі нападалі, адчуваючы падтрымку, смела рухаліся наперад, настаўляючы на ворага вострыя клыкі і рогі.

Аднаму трыхадонту ўдалося падысці да Анікі і ўчапіцца вострымі зубамі ў бок... Яна закрычала ад болю, гучна закрычала, апусціўшыся на зямлю. Але ў той жа час лятаючы яшчар праткнуў шыю крыўдзіцеля вострай пікай дзюбы, і той зваліўся безжыццёва на зямлю.

Бойка працягвалася. Спачатку перавага была на баку трыхадонтаў, але калі ў іх не стала важака, разгубіліся, не ведалі, як дзейнічаць далей. Ніхто не кіраваў іх змаганнем.

Паранены Сіладзін, не выкруціўся ад удара і Дун. Нору дасталося ад спрытнага і хітрага драпежніка. Але ніхто не зрабіў крок назад, ніхто не адступіў.

Усе дыпладокі ведалі, што цяпер вырашаецца лёс не толькі сям'і Дуна. І калі вораг прагоніць іх з роднай зямлі, то гэта здарыцца і з усімі астатнімі. А гэтага дапусціць нельга было.

І зароў, падняўшы высака ўгору галаву, вялізны трыхадонт, сцякаючы крывёй. Зразумеўшы, што і на гэты раз не ўдасца перамагчы дыпладокаў, падаў вокліч сваім хаўруснікам:

— Адступаем! Мы прайгралі бой! Дыпладокі непераможныя!

Усе павярнулі назад. Яны пацярпелі паразу, і таму стараліся як найхутчэй сысці з чужой тэрыторыі, — кінуліся ўцякаць.

Але ім наўздагон ляцелі птэрадактылі, раз пораз дзяўблі ворагаў сваімі дзюбамі, прыгаворваючы:

— Ніколі больш не патыкайцеся ў гэтыя мясціны! Вам ніколі не адолець суродзічаў Сіладзіна!

Яшчары як узніклі раптоўна, так і зляцелі.

Толькі адзін з іх затрымаўся, апусціўся на зямлю побач з Дунам, прамовіў:

— Ты смела змагаўся, Дун, малайчына! Ты — храбры воін!

Гэта быў Крыладакт.

— Дзякую за дапамогу, без вас мы не адолелі б іх, — схіліў перад ім галаву дыназаўрык.

— Сяброўства перамагчы немагчыма! — прамовіў з гонарам яшчар і тут жа падняўся ў неба.

Дыпладокі залізвалі адзін аднаму раны. Яны засталіся задаволеныя перамогай і ганарыліся тым, што працістаялі з сябрамі такой сіле, адстоялі сваю зямлю.

— Пачакайце, я і забылася, што у нас ёсць для ўсіх лекі! — падала голас Чыпора.

Яна дастала з глыбокай нары чырвоныя плады. Мудрая Чыпора ведала, што яны могуць спатрэбіцца. Заставалася яшчэ палова гронкі рафанаў — акурат хопіць для ўсіх, каб вылечыць раны.

Як лекарка падыходзіла да кожнага і змазвала сокам рафанаў пашкоджаныя месцы. Яна ацаліла Нора і Сіладзіна, Аніку і Дуна, — усіх яго сяброў, параненых падчас вялікай бітвы за незалежнасць сваёй зямлі.

Пасля гэтага Чыпора наладзіла вялізны пір-пачастунак у сваёй даліне.

Дун, гледзячы на сваіх памочнікаў, падумаў: «Як добра тварыць дабро і мець адданых сяброў! Яны заўсёды прыйдуць на дапамогу».

Так казаў і Крыладакт, развітваючыся:

— Сяброў перамагчы немагчыма!

*Праз колькі год Дун стаў магутным дыназаўрам — смелым і моцным, мудрым і добрым.*

*Калі збіраліся дыпладокі на сваю Вялікую Раду, усе адзінагалосна абралі Дуна сваім важаком. І далі яму імя — Непераможны.*

*Усе прызналі ў ім дужага і мужнага змагара.*

*Болей ужо ніхто і ніколі не асмельваўся нападаць на дыпладокаў. Таму што ўсе ведалі: іх важак мацней усіх дыназаўраў на зямлі, і таму перамагчы іх немагчыма.*



# Раман Лубкіўскі

украінскі паэт, перакладчык, грамадскі дзяяч. Надзвычайны і паўнамоцны пасол Украіны. Лаўрэат дзяржаўнай прэміі Украіны (1990 г.). Аўтар кніг паэзіі: «Здзіўлёныя алені» (1965 г.), «Навальнічнае дрэва» (1967 г.), «Смаласкобы» (1975 г.), «Маёліка» (1985 г.), «Славацкае лета» (1986 г.), «Жнівеньскі яблык» (1989 г.), «Погляд вечнасці» (1990 г.) і інш. Нарадзіўся ў 1941 годзе ў сяле Астрывец на Цярнопальшчыне. Жыве ў Львове.

# І выспеў стрэл...

## Паляванне

І доўжыцца спрадвеку паляванне,
За раццю раць стральцоў па следзе йдзе,
То хітры звер ад вечара да рання
Іх на нябачным повадзе вядзе.

Ідуць стральцы. Згубіліся дарогі.
Збялела сонца ў небе, нібы косць.
Ім мроіцца алень блакітнарогі,
І аксамітна-вогненная поўсць.

Тут столькі стрэлаў страчана дарэмна,
Тут столькі лукаў зломлена тугіх...
Вастрэй стралы — тут вока мець патрэбна.
Вастрэй за нож — тут мець патрэбна слых.

...Сяджу ў засадзе, сэрцам заміраю,
Як росны ліст ад холаду трымчу,
Стралу выцягваю і гэтак закладаю,
Каб нават вецер шолах не пачуў.

Такімі вось блакітнымі начамі,
У сэрца зазіраючы сваё,
Я бачыў звера з сінімі вачамі,
Што піў з крыніцы зорнае святло.

І выспеў стрэл. Глядзі, не прамахніся,
Страла мая — прадвесніца бяды!
Ляціць страла, нанізваючы лісце,
Ляціць страла, збіваючы гады...

А я стаю адзін у звонкай цішы,
Чакаю ўпарта снег на галаву...
Ды не стралу, а сэрца насадзіўшы,
Нацягваю тугую цеціву...

## Валошкі Айчыны

Думаю пра Максіма Багдановіча,
Бачу яго
Скалелую постаць
У зімовым Мінску
На Траецкім прадмесці
Пад ліхтарамі...

Нават першы прачысты снег —
Пазнаў яго, пазнаў!
Іначай
Чаму б так прагна —
Роем аслеплых пчол! —
Прыпадаў
Да выцвілых валошак
У бронзавай далоні
Максіма?

## Млын

У мяне на Радзіме —
Аж тры млыны.
Два разбурылі
За дзве вайны.

Трэці, — астатні,—
Весткі мне шлюць,
Гіне таксама —
Жыцця не даюць...

Белае мліва,
нібы крыло,
Больш не абдыме
цёпла сяло.

Хоць бы прычына
Зрэшты была...
Дзе? З кім? Завошта?
Гэта вайна...

## Крэда

Не хачу каб
Заміж мяне думалі

Не хачу каб
Заміж мяне вершавалі

Не хачу каб
Заміж мяне галасавалі
(супраць мяне)

Хачу быць
Самім сабой

Настолькі
Каб да сэрцавіны
Сумлення
Свайго народа
На хвілю
Вуснамі прыпасці
Як да крыжа

Як да прычасця

*1986*

## Параўнанне

Галасы паэтаў
Гэта галасы рыб
Іх могуць пачуць
Толькі рыбы

Палітыкі
Гэта пышнапярэстыя птахі
Што завісаюць над водамі

А хто ж тады я?

Птаха-рыбіна
Ці рыба-птах
Паміж вадою
І сінечай?..

*1996*

## Балада пра маю маці

Прыйшла да мяне мая маці
З якогась далёкага поля,
З якойсьці гаркавай разлукі,
З якойсьці цяжкой вандроўкі.
А што прынясла мне маці
З якогась далёкага поля,
З якойсьці гаркавай разлукі,
З якойсьці цяжкой вандроўкі?
— Ой сыне, табе я прынесла
З такога далёкага поля,
З такой гаркавай разлукі,
З такой цяжкое вандроўкі
Не мала і не багата —
З такога далёкага поля,
З такой гаркавай разлукі,
З такой цяжкое вандроўкі...
— Вось толькі вузёл развяжу, —
З такога далёкага поля,
З такой гаркавай разлукі,
З такой цяжкое вандроўкі...
— Ой мама, ну, што вы так доўга?
З такога далёкага поля,
З такой гаркавай разлукі,
З такой цяжкое вандроўкі...
— Ой, што ж гэта я нарабіла?
Прынесла табе глінянага каня,
А трэба было б — вясельны пярсцёнак,
— Ой, сыне, пачакай хвілінку,
Толькі хвілінку, адну ўсяго хвілю, —
З такого далёкага поля,
З такой гаркавай разлукі,
З такой цяжкое вандроўкі...
Пайшла яна, й досюль няма —
З якогась далёкага поля,
З якойсьці гаркавай разлукі,
З якойсьці цяжкое вандроўкі...

*1966*

# Квазімода

*Івану Драчу*

Памрэш, загінеш, як палітык годна,
Калі мы ў чыне вырасцем святым,
Храм дабудуем свой. А Квазімода —
Званар, ключар, — слугуе хай пры ім.

Ён мусіць жыць — гэты званар сумлення,
Каб памяталі нават чужакі,
Якім было магутным пакаленне
На скрыжаванні векавой мяжы,

Калі імперскай велічы штандары
Змяталі рэвалюцыі валы...
Калі між нас былі свае ікары,
І донкіхоты мужныя былі.

Асвечвалі харугвы і іконы,
Вялі на бітву вояў маладых...
Хай будзе міг павек багаславёны,
Што аб'яднаў і мёртвых, і жывых.

А далей, далей....Веліч, грошы, славу
І той, і сёй займеў як прывілей...
І рухнулі нябёсы над дзяржавай,
Хтосьпадмяніў і кубак, і алей.

Калі пагаслі светачы надзеі,
Аслеплі душы, страціўшы святло;
Храм Веры зваявалі ліхадзеі,
Але Хрыста ў бажніцы не было.

**Пераклад з украінскай мовы Эдуарда Акуліна**

# ВЕРАСЕНЬ
## КРЫТЫКА
## ПУБЛІЦЫСТЫКА
## ЭСЭ

аксана данільчык васіль дранько-майсюк
уладзімір сіўчыкаў наста кудасава
ала петрушкевіч сяргей панізнік
альдона мартыненка сяргей башлыкевіч
анатоль трафімчык эдуард дубянецкі
вітаўт мартыненка



# Аксана Данільчык

**паэт, перакладчык, літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар кніг паэзіі: «Абрыс скарпіёна», «Il mezzogorno. Поўдзень», «Павуцінка на агрэсце». Нарадзілася ў 1970 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.**

# Пад знакам авантуры: Мікалай Бяліна-Падгаецкі

Сярод шматлікіх імёнаў, якія ўзніклі ў беларускай літаратуры 20-х гадоў мінулага стагоддзя, а пасля назаўсёды зніклі з літаратурнага далягляду, маю ўвагу прыцягнула неадназначная і каларытная фігура Мікалая Аляксандравіча Бяліны-Падгаецкага, афіцэра царскай арміі і ўдзельніка Першай сусветнай вайны, празаіка і змагара інфармацыйнага фронту, аўтара, які не толькі папрацаваў на ніве беларускай прозы, але пакінуў свой след на старонках выданняў белай эміграцыі ў Францыі, у літаратуры Бельгіі, а таксама ў культуры такой экзатычнай краіны, як Конга. Яго творы перакладаліся на італьянскую, галандскую, ангельскую, а можа быць і іншыя мовы.

Публікацыя апавядання «На павароце» ў часопісе «Полымя» (па маіх звестках першага апублікаванага ў СССР) суправаджалася невялікай даведкай, зробленай рэдакцыяй: «Аўтар гэтага апавяданьня тав. Н. Беліна-Падгаецкі б. афіцэр (падпаручнік) рускага экспедыцыйнага корпусу, які ў 1916 г. быў адпраўлен царскім урадам на французскі і салоніцкі фронты. Па зьліквідаваньні рускага корпусу ва Францыі, аўтар працаваў на фабрыках Францыі аж да 1926 г. У белых авантурах ніякага ўдзелу не прымаў. Супрацоўнічаў у савецкіх органах друку заграніцы, чым наклікаў на сябе нянавісьць і розныя рэпрэсіі з боку белагвардзейцаў. Быў старшынёю Саюзу Рускіх Рабочых поўдня Францыі і членам французскай компартыі. У сучасны момант тав. Н. Беліна-Падгаецкі знаходзіцца ў Менску. *Рэдакцыя*» (Полымя, 1927, № 4). Што гэта за «савецкія органы друку заграніцы», як бачым, не ўдакладняецца, але як можна зразумець з інфармацыі, раскіданай па розных выданнях, у тым ліку і інтэрнэтных, хутчэй за ўсё гэта былі зусім іншыя «савецкія органы».

Тым не менш, у той час многія дзеячы беларускай культуры імкнуліся ў Савецкую Беларусь, дзе актыўна праходзіла беларусізацыя. Так, у 1926 г. у Беларусь пераязджае і Францішак Аляхновіч, але паколькі ён з «савецкімі органамі» не супрацоўнічаў, то яго не толькі не друкуюць, але амаль адразу адпраўляюць на Салаўкі. Гэтая аналогія напрошваецца сама сабой, бо, як убачым далей, у лёсе двух аўтараў ёсць шмат падобных момантаў. Што сталася прычынай вяртання Бяліны-Падгаецкага пакуль цяжка сказаць, але калі меркаваць па яго творчасці, то хутчэй за ўсё гэта адсутнасць перспектывы на нейкае больш-менш прыстойнае ўладкаванне свайго жыцця. Магчыма таксама, што гэта была прапанова «савецкіх органаў друку» або, як мы ўбачым далей, гэта магло быць заданне англійскіх ці якіх-небудзь яшчэ «органаў друку». Мне не ўдалося пакуль што высветліць, ці быў звязаны нейкім чынам Бяліна-Падгаецкі з беларускімі землямі і чаму ён, чый лёс да вайны быў звязаны з Расіяй, трапіў менавіта ў Мінск.

Да прозы Бяліны-Падгаецкага ў першую чаргу прыцягнула ўвагу тое, што героі яго беларускіх тэкстаў у асноўным зусім не беларускія сяляне, а французскія ды італьянскія рабочыя, а таксама эмігранты з белагвардзейскага лагера, што ў тагачаснай беларускай прозе было рэдкай з'явай. Кідаецца ў вочы таксама пэўны прапагандысцкі характар гэтых твораў, які ў некаторых з іх праяўляецца мацней, у некаторых слабей.

Тым не менш, цалкам верагодна, што апавяданне «На павароце», напісанае, як думаецца, на падставе ўласнага жыццёвага досведу, вызначаецца пэўнай шчырасцю аўтара. Яго герой Уладзімер мяняе сваю жыццёвую пазіцыю пад уздзеяннем суворай эмігранцкай рэальнасці, можна сказаць, ад безвыходнасці робіцца «камуністым і бязбожнікам», бо, застаўшыся без працы, не атрымлівае падтрымкі ні з боку белагвардзейскіх арганізацый, ні ад прадстаўнікоў французскага духавенства. Магчыма, цяжкія акалічнасці жыцця ў эміграцыі вымусілі і аўтара шукаць падтрымкі з боку «савецкіх органаў друку».

З тых звесткак пра Мікалая Аляксандравіча Бяліну-Падгаецкага, якія можна знайсці ў інтэрнэце і ў расійскай прэсе, вымалёўваецца даволі цікавая карціна. Нарадзіўся ён у Санкт-Пецярбургу ў 1896 годзе, скончыў кадэцкі корпус. Удзельнічаў у Першай сусветнай вайне ў складзе Рускага экспедыцыйнага корпуса на Салоніцкім фронце. У 1917-1920 гг. знаходзіўся ў Англіі, плаваў на брытанскіх і французскіх караблях, пасля застаўся ў Францыі. Уступіў у Камуністычную партыю Францыі. Дакладная дата пераезду ў Мінск пакуль невядомая, але думаецца, гаворка ідзе пра канец 1926 — пачатак 1927.

Працаваў у заснаванай у 1927 годзе газеце «Рабочий» (з 1937 г. — «Советская Белоруссия»), друкаваўся таксама ў іншых газетах. У Мінску, у 1927 годзе нарадзіўся другі сын Мікалая Аляксандравіча Уладзімір (першы сын Аляксандр нарадзіўся ў 1925 г. у Францыі).

Асобнымі кнігамі ў Беларусі выходзілі антырэлігійныя прапагандысцкія агіткі «Крыжам і агнём» (1930), «Машына супраць Бога» (1931), «Гутаркі аб сектанцтве: Для калгаснікаў і прац. сялян» (1931), а таксама мастацка-публіцыстычная «Кулямёт: Апавяданні, нарысы, успаміны» (1931) і мастацкая «Забастоўка: Аповесць з жыцця будаўнікоў Францыі» (1931). Як бачым, асабліва плённым для аўтара стаў 1931 год, у некаторым сэнсе кульмінацыйным. Складаецца ўражанне, што ён быццам бы хацеў сказаць: я напішу вам пра што заўгодна. Некаторыя старонкі чытаць, шчыра кажучы, сёння сорамна, напрыклад гэтую: «Пралез класавы вораг і ў сьцены Беларускай акадэміі навук. Тут таксама працавалі шкоднікі соцыялістычнага будаўніцтва, і тут таксама доўгі час квітнела шчыльная сувязь нацыянал-дэмократызму, папоўшчыны з адкрытай контррэволюцыяй»[1]. Далей ішлі кпіны з С. Некрашэвіча, А. Цвікевіча і іншых. Дасталася і даследчыкам літаратуры: «На катэдры літаратуры БАН беларускія нацыянал-дэмократы, якія пралезьлі ў Акадэмію, вывучаюць і рэклямуюць творы клерыкальных (папоўскіх) і шляхецкіх (дваранскіх) пісьмен-

1 Бяліна-Падгаецкі Н. Машына супраць бога.- Мінск: Белдзяржвыд, 1931.- С. 106.

нікаў: Марцінкевіча, Баршчэўскага, Багушэвіча і інш.»[2]. Верагодна і сам аўтар цудоўна разумеў «вартасць» такой сваёй творчасці, але відавочна, адкрыта не мог ад яе адмовіцца. Здагадваўся ён таксама і пра тое, што яму, як прадстаўніку белай гвардыі, не зважаючы на вострае прапагандысцкае пяро, уратавацца будзе вельмі цяжка, і зрабіў пэўныя захады, каб пазбегнуць сумнай долі многіх сваіх калегаў.

У 1932 годзе жонка, якая мела нямецкае паходжанне, пакінула Савецкі Саюз і вывезла дзяцей. Відавочна, нейкім чынам лёс закінуў Мікалая на Далёкі Усход, дзе ён скончыў штурманскую школу, уладкаваўся на гандлёвы карабель і ў 1933 годзе (па іншых звестках у 1934) збег з Савецкага Саюза праз Сінгапур у Партугалію, пасля пасяліўся ў Бельгіі, дзе паяднаўся з сям'ёй. На гэтым, можна сказаць, беларускамоўная творчасць спадара Бяліны-Падгаецкага і скончылася. Далейшая літаратурная дзейнасць працягвалася ўжо на іншых мовах. Так, у часопісе рускіх эмігрантаў «Иллюстрированная жизнь» (выходзіў у Парыжы з 15 сакавіка па 4 кастрычніка 1934, № 1—34) у нумарах 24, 25, 27, 28, 30 былі надрукаваныя «Записки возвращенца».

У Бельгіі Бяліна-Падгаецкі супрацоўнічаў у мясцовай перыёдыцы, выпускаў дзіцячыя кніжкі «Petroushka» («Пятрушка»), «Le Tourbillon de neige» («Буран») — 1938 г., «Le deux Pauls» («Два Паўлы»), «Le Petit Carilloneur» («Маленькі званар») — 1939 г. і інш. Пісаў успаміны і на французскай мове «Derriere le murs» («За сценамі»), Парыж, «L'Ouragan rouge. Souvenirs d'un journaliste russe.» («Чырвоны ўраган. Сувенір ад рускага журналіста»), Парыж, Брусэль, 1939 і інш. Выступаў з дакладамі.

У 1941 —1946 гг. жыў у Бельгійскім Конга, супрацоўнічаў у бюро брытанскай прэсы (што на думку расійскага даследчыка Уладзіміра Роніна сведчыць пра тое, што ён аказаў пэўныя паслугі і брытанскай разведцы[3]. У Конга ў сваю чаргу выдаў прапагандысцкую брашуру «Конга ваюе» ў 1943 годзе. Працаваў у вугальнай прамысловасці на поўначы Францыі, супрацоўнічаў у газеце «Парижский вестник» (рускамоўная газета, якая выходзіла ў акупаванай Францыі з 14 чэрвеня 1942 па 12 жніўня 1944 г.). Памёр Мікалай Бяліна-Падгаецкі ў 1967 годзе.

Трэба сказаць, што яго дзейнасць на ніве прапаганды і агітацыі цікавая і замежным літаратуразнаўцам, у прыватнасці, бельгійскі даследчык Вім Кудэнус (Wim Coudenys), выкладчык універсітэта з Антвэрпэна апублікаваў у 2011 годзе прысвечаны яму артыкул «Nikolas Belina Podgaetsky and the manipolation of the Russian image in Belgium around WW II» («Мікалай Бяліна-Падгаецкі і маніпуляцыя іміджам Расіі ў Бельгіі ў гады Другой сусветнай вайны»), у якім даследуе асаблівую ролю ў інфармацыйнай вайне нашага аўтара. Аўтар піша, што і савецкая ўлада, і яе заходнія апаненты выкарыстоўвалі літаратуру як

2 Тамсама. – С. 107.

3 Ронин В. Русское Бельгийское Конго в дни войны // Новый журнал, 2011, № 262. // http://magazines.russ.ru/nj/2011/262/ro17.html [рэсурсы інтэрнэта]: дата доступа – 18.10.2014.

сродак прапаганды, прыводзіць цікавыя звесткі пра апублікаваныя Падгаецкім дзіцячыя кнігі на тэму рэлігійнага пераследу ў Савецкім Саюзе. Самае цікавае, што аўтар артыкула не ведае (ці прынамсі, не ведаў на момант публікацыі) аб творчасці Бяліны на беларускай і рускай мовах, бо ставіць наступнае пытанне: чаму Бяліна-Падгаецкі карыстаецца такім поспехам у дадзены канкрэтны перыяд (а не да і не пасля), чаму менавіта ў Бельгіі (а не ў іншых краінах), і чаму толькі на галандскай і на французскай мовах («наўрад ці ён пісаў ці публікаваў штосьці на рускай мове[4]») — адзначае даследчык.

Можна было б сцвярджаць, што Бяліне-Падгаецкаму было глыбока абыякава пра што і як пісаць, але звесткі, прыведзеныя Уладзімірам Роніным, сведчаць пра іншае: «У прапагандысцкай вайне з ворагам (*маецца на ўвазе нацыя-фашызм — заўвага А.Данільчык*) удзельнічаў сваім пяром Мікалай Бяліна-Падгаецкі (1896—1967). Белы афіцэр, які стаў у эміграцыі камуністам, вярнуўся ў СССР і працаваў там журналістам, ён у хуткім часе расчараваўся ў сталінскай дзяржаве і ў 1934 годзе, рызыкуючы жыццём, здолеў збегчы. З тых часоў ён у Бельгіі ў дакладах і кнігах нястомна выкрываў «чырвоных д'яблаў». Пэўных сімпатый да фашысцкіх дзяржаваў не хаваў. Аднак у ліпені 1941, даехаўшы з сям'ёй да Леапольдвіля, Бяліна-Падгаецкі адразу паступіў там галоўным рэдактарам у Бюро брытанскай прэсы і два гады займаўся ў Конга прапагандай на карысць Вялікабрытаніі. Але тут ад яго сталі патрабаваць артыкулы, якія прадстаўлялі ў зручным святле саюзніка англічан — Савецкі Саюз. Люты антыкамуніст, ён адмовіўся пісаць такія артыкулы — і сышоў»[5]. Відавочна для нашага героя ўсё ж існавала пэўная мяжа ў спосабах заробку сродкаў для існавання.

Як мы адзначылі вышэй, у Мінску Бяліна-Падгаецкі выпусціў дзве мастацкія кнігі «Кулямёт» і «Забастоўка». У кнігу «Кулямёт» увайшлі апавяданні «Кулямёт», «Лістоўкі», «Кандат'еры», «Так, паночку», «Ударніца», «Подзвіг Марылі», «Вораг», «На пабудове»; нарысы «Там, дзе пануе капітал», «Пад гукі Марсельезы», «Трэцяя Марна», «Іх было восем», «Пад чырвоным сцягам», «Лягер у Нью-Маркэце»; успаміны «Курцінскае паўстанне», «Першы май у Парыжы», «Паміж молатам і кавадлам». Адпаведна ўспаміны прысвечаныя падзеям з асабістага жыцця аўтара і магчыма таму, бадай, найбольш цікавыя.

Шэдэўрамі іх назваць цяжка, але пэўную цікавасць для даследчыкаў яны ўяўляюць. Найперш тым, што распавядаюць пра падзеі Першай сусветнай вайны, якую вяла расійская армія ў Еўропе, у прыватнасці, пра Рускі экспедыцыйны корпус: «На Заходнім фронце поруч з французскімі, ангельскімі і партугальскімі войскамі паміралі і салдаты расійскага экспедыцыйнага корпусу. Сорак тысяч адправіў іх царскі ўрад у 1916 г. з Расіі ў Францыю і на Балканы. Яны павінны былі тут, далёка ад радзімы паміраць за тое, каб багацьці Эльзасу і

---

4 https://lirias.kuleuven.be/handle/123456789/384399, [рэсурсы інтэрнэта]: дата доступа – 17.10.2014.

5 Ронин В. Русское Бельгийское Конго в дни войны... - дата доступа 18.10.2014.

Лётарынгіі эксплюатаваліся не нямецкімі, а французскімі капіталістамі...»[6], — пісаў ён у мемуарным творы «Курцінскае паўстанне». Гэты твор прысвечаны падзеям, што адбыліся ў мястэчку Курцін у Францыі 2-3 верасня 1917 года, калі салдаты Рускага экспедыцыйнага корпуса, нарэшце даведаўшыся пра лютаўскую рэвалюцыю ў Расіі, патрабавалі вяртання дадому і спынення баявых дзеянняў. Паўтары тысячы з іх было расстраляна, другія паўтары тысячы былі пакалечаныя і параненыя, многіх адправілі на папраўчыя работы ў Афрыку і Францыю.

Нарыс «Іх было восем» прысвечаны забойству палкоўніка Краўзэ і расстрэлу васьмі «вінаватых» выпадковых салдат, на якіх паказаў малады дабраахвотнік. Апавяданне «Кулямёт» распавядае аб працы партовых рабочых Гаўра і іх адмову ад пагрузкі кулямётаў на англійскі карабель. Не абышлося і без адкрытых агітак кшталту апавядання «Вораг», якое завяршаецца цудоўнай фразай: «...Усе рукі падняліся за новыя колектыўныя формы жыцця»[7].

Нарыс «Паміж молатам і кавадлам» адлюстроўвае падзеі 1923 года і цяжкае становішча Германіі пасля Версальскіх пагадненняў. Аўтар распавядае пра акупацыю заходніх раёнаў Нямеччыны французскай арміяй, ставіцца з сімпатыяй да працоўных Германіі: «Цяжкае было становішча нямецкага рабочага ў Руры. Ён быў паміж молатам і кавадлам. З аднаго боку французскія інжынэры і генэралы ўгаворвалі станавіцца на работу, дэкляравалі хлеб, добрую зарплату. З другога боку нямецкія гаспадары вымагалі супраціўленьня, пагражалі ў будучым ня прымаць на работу, угаварвалі цярпець і жыць на тыя маленькія грошы, якія яны тайком раздавалі сваім служачым і рабочым, што баставалі... Так адбывалася французская окупацыя Рурскай вобласці...»[8]. Як вядома, сітуацыя вырашылася падпісаннем пагаднення.

Адно з самых цікавых апавяданняў, апублікаванае ці не першым у часопісе «Полымя» ў 1927 годзе, у кнігу не ўвайшло.

Галоўны герой апавядання былы афіцэр царскай арміі Уладзімер вымушаны змагацца за ўласнае існаванне ў суровай рэальнасці эміграцыі. Ён паступае на фабрыку самалётаў, але адчувае сябе там абсалютна чужым: «Усё здавалася такім дзіўным Уладзімеру ў гэтым чужым для яго цэнтры фабрычнага жыцця — і гэты аднастайны гук машын, і пануканні майстраў і наглядчыкаў, часта такія грубыя, і сінія доўгія, амаль не да пят, халаты інжынераў, і скуластыя, зморaныя бязупыннай няўдзячнай працай твары працаўнікоў»[9].

Акрамя таго, галоўны герой перажывае глыбокую асабістую драму — яго пакінула маладая жонка. З працы яго ў хуткім часе выгналі і, апынуўшыся без сродкаў да існавання, ён пачаў шукаць выйсця са складанай сітуацыі. «Чаго

6 Бяліна-Падгаецкі Н. Курцінскае паўстанне // Бяліна-Падгаецкі Н. Кулямёт: Апавяданні, нарысы, успаміны.- Мінск, Белджяржвыд, 1931. - С. 146.

7 Бяліна-Падгаецкі Н. Вораг // Кулямёт... - С. 146.

8 Бяліна-Падгаецкі Н. Паміж молатам і кавадлам // Кулямёт... - С. 188.

9 Бяліна-Падгаецкі Н. На паварoце // Полымя, 1927, № 4. - С. 75.

ён толькі ні рабіў за гэты час, шукаючы кавалка штодзённага хлеба! І падмятаў вуліцы на Монпарнаскім бульвары, штомінутна баязліва аглядаючыся па бакох, каб хто-небудзь з яго ранейшых знаёмых не пазнаў яго ў засаленай куртцы, з мятлою і лапатаю ў руках; і грузіў вугаль і смалу на фабрыках... Здавалася, ня было такой профэсіі, ня было такое самае бруднае, самае цяжкое фізычнае працы, якую не прайшоў бы ён за гэты час у сваёй лютай адзінокай барацьбе за існаванне на чужыне»[10]. Уладзімер вагаецца, але ў выніку прыходзіць да неабходнасці стаць «комуністым». Ключавая фраза вымаўляецца ў момант, калі яго высяляюць з кватэры: «Не бальшавік я яшчэ, але вы нас самі імі робіце!»[11]. Адзіная асоба, якая паставілася да Уладзімера са спагадай і дапамагла яму — прастытутка Люіза: «Яна палюбіла яго няцікавага, абадранага і такога ад яе далёкага, палюбіла з усім палам спакушэнняў у распусьце, але сэрцам так рэдка любіўшай амаль што саракалетняй жанчыны»[12]. Зразумела, іх стасункі не маглі мець будучыні і Уладзімер зноў апынаецца на вуліцы, дзе бачыць перад сабой «шлях змаганьня за рабочую свабоду, той шлях бязлітаснага змаганьня з буржуазнай фальшывасцю, забабонамі і эгоізмам»[13]. Гэты твор, тым не менш, яшчэ даволі далёкі ад агітацыйна-прапагандысцкай рыторыкі і рашэнне героя падаецца вымушаным, прынятым ад безвыходнасці. Акрамя таго, твор напісаны з пэўным майстэрствам, якое выяўляецца ў імкненні да псіхалагічнага абгрунтавання выбару галоўнага героя.

Самы буйны мастацкі твор Бяліны-Падгаецкага на беларускай мове — аповесць «Забастоўка». Як гаворыцца ў падзагалоўку, яна прысвечана «жыццю будаўнікоў поўдня Францыі», але яе галоўныя героі — італьянскія і рускія эмігранты. Італьянцы збеглі ад фашысцкага рэжыму Мусаліні, а рускія, былыя белыя афіцэры і салдаты, — ад Чырвонай арміі. Твор спачатку друкаваўся ў часопісе «Полымя» ў 1928 г., а пасля выйшаў асобнай кнігай.

Аповесць пачынаецца з сустэчы будаўнікоў Ніцы і галоўнага героя аповесці Джузэпэ Грымальдзі, які перайшоў італьянска-французскую мяжу, пакінуўшы дома ў Генуі жонку Жулію і маленькага сына Рамэа. Джузэпэ ўцякае з Італіі, каб не трапіць у «сіцыліянскія казематы», бо ён асуджаны на «дваццаць год катаргі».

Зачароўвае апісанне Ніцы ў гарачы абедзенны час, хоць нельга не заўважыць пэўныя стылёвыя хібы тэксту: «Было паўдня. Спякотнае сонца пякло бязлітасна, страшэнна напякаючы асфальтаваныя вуліцы Ніццы. Санліва пагойдваліся на сваіх высокіх козлах ніццыянскія рамізьнікі, дарэмна чакаючы гэтым сьпякотлівым часам ездакоў. У кароткіх купальных гарнітурах плюскаліся лена на морскім беразе турысты. Але іх было мала. З большага вольныя ад работы і клопатаў людзі вылежваліся за спушчанымі гардзінамі ў пакоях,

10 Тамсама. – С. 77.

11 Тамсама.- С. 80

12 Тамсама. – С. 82

13 Тамсама. – С. 84.

з нецярплівасцю чакаючы вечаровага халадку, або сядзелі ў прытульных памяшканьнях кафэ і рэсторанаў, шклянку па шклянцы праглынаючы ліманад і іншае прахаладжальнае пітво»[14].

Не менш чароўны гэты горад і вечарам: «А там недзе далёка, у старым горадзе, у самай глыбіні яго маленькіх сярэднявечных вуліц, чуюцца палкія гукі гітары і нечы малады, поўны тугі па каханьні голас пяшчотна кідае ў напоенае кветкамі вячэрнае паветра гарачыя словы кволай сэрэнады. Гэта які-небудзь Рамэа пасьля працоўнага дня, прымайстраваўшыся ў цёмным кутку каля старадаўняй царквы, пяшчотна напявае словы каханьня сваёй любай. А яна, прытуліўшыся да яго пляча, сумна пазірае затуманеным ад шчасця поглядам ўдалеч. І вусны яе, чырвоныя пачуцьцёвыя вусны, палка цягнуцца да гарачых вуснаў сьпевака»[15].

Галоўны герой пасяляецца ў бараку, дзе жывуць будаўнікі даволі пярэстага этнічнага складу: «Галоўная маса рабочых былі італьянскія эмігранты, якія ўцяклі ад праследаваньняў фашыстаў ці проста пакінулі Італію з-за хранічнага беспрацоўя, якое ў апошнія гады панавала там. Затым ішла група гішпанцаў, таксама часткаю палітэмігрантаў, часткаю проста прыехаўшых у Францыю на заработкі. Італьянцы займалі правае крыло бараку, гішпанцы — левае. І нарэшце ў цэнтры разьмясцілася група рускіх рабочых — былых афіцэраў Урангелеўскай арміі, воляю лёсу закінутых на поўдзень Францыі і вымушаных зьмяніць свае бліскучыя эполеты і шпоры на простую сінюю блюзу ненавісных ім рабочых»[16]. Як бачым, твор, на жаль, вызначаецца пэўнай просталінейнасцю і падзелам на добрых і дрэнных.

Апісанне Джузэпэ Грымальдзі таксама даволі стэрэатыпнае: «Гэта быў невялікі ростам сухарлявы італьянец з капою чорных, як і вочы, валасоў на галаве. Дрэнная мізэрная вопратка і схуднелы твар з глыбока ўпалымі шчокамі, якія больш за ўсе словы казалі аб зусім не салодкім жыцьці за апошнія часы. Нэрвовае падрыгванне левай рукі і нейкая пужлівасць ува ўсёй яго постаці казалі яшчэ і аб тым, што ня толькі голад і нэндзу давялося выцярпець на сваім вяку гэтаму чалавеку»[17].

Асобнай увагі заслугоўваюць старонкі, прысвечаныя жыццю і побыту былых белагвардзейцаў, сярод якіх выдзяляецца князь Павел Баргонскі, цяперашні ўладар рэстаранчыка, а ў мінулым гаспадар на беларускіх землях. Спадар Баргонскі «занадта разумны», каб самому ўдзельнічаць у грамадзянскай вайне, бо «хіба мала было ў той час дурняў, на сьпінах каторых князі Баргонскія маглі, застаючыся пад цёплым сонцам Ніццы, паспрабаваць адабраць у савецкага пролетарыяту назад фабрыкі, заводы і землі... Хаця было б вялікай несправядлівасцю казаць, што князь Павал Пятровіч нічога абсалютна ня робіць «для ра-

14 Бяліна-Падгаецкі Н. Забастоўка.- Мінск, Белджяржвыд, 1931. - С. 4

15 Тамсама.- С. 12.

16 Тамсама.- С. 14.

17 Тамсама.- С. 5.

тунку бацькаўшчыны». Ён вельмі старанна засядаў у розных замежных контррэвалюцыйных камітэтах, вельмі таленавіта апавядаў усім, хто яго хацеў слухаць, пра «жудасныя зьверствы бальшавікоў», наведваў вельмі старанна ўсе малебны «у гонар белай зброі» і ўсе паніхіды па «забітых воінах»[18].

Знайшла месца ў творы і тэма братазабойчай грамадзянскай вайны, увасобленай у гісторыі капітана Чорнага, які забівае брата, «смелага і па-свойму сумленнага хлапчука» за тое, што той стаў камуністам. Але на душы капітана Чорнага цяжка і ён пастаянна п'е.

Галоўная падзея твора, як можна здагадацца з назвы — забастоўка. Агульная забастоўка будаўнікоў Ніцы, да якой пасля далучыліся і прадстаўнікі іншых галінаў. У выніку, галоўныя арганізатары забастоўкі былі пазбаўленыя працы і высланы з Францыі ў Люксембург, пасля трагікамічных перыпетый на французска-нямецкай мяжы: «І пачалася бязлітасная гульня. Некалькі разоў іх зусім зморaных і галодных перакідалі з аднаго баку мяжы на другі. Там і тут іх рэгулярна арыштоўвала то французская, то нямецкая паліцыя, трымала да ночы пад арыштам, а потым зноў адпраўляла назад. Нарэшце гэтая камэдыя надакучыла і французам. З праклёнам пасадзілі яны італьянцаў зноў у цягнік і павезьлі цяпер ужо ў бок гэрцагства Люксэмбурскага»[19]. Яшчэ адзін персанаж аповесці — рускі салдат Сямён Пучкоў, урэшце атрымлівае дазвол на вяртанне ў СССР і адплывае на радзіму разам з іншымі «шчасліўцамі»: «Яны ня белыя больш. Яны грамадзяне Савецкага Саюзу, яны цяпер члены адзінай сям'і савецкага пролетарыяту. І ўсё-ж такі, ня гледзячы на радасьць ад'езду, ня гледзячы на хуткі зварот у краіну Саветаў, міжвольнае сумненьне закрадаецца ў сьвядомасьць многіх. Як сустрэне іх новая соцыялістычная бацькаўшчына? Ці даравала яна ім мінулыя злачынствы, іх мінулыя памылкі? Ці будзе ім дана магчымасць адданай працай загладзіць гэтыя свае памылкі, заслужыць сапраўднага забыцьця іх ганебнага мінулага?»[20] Сумны адказ на гэтае пытанне нам вядомы. Больш за тое, хутчэй за ўсё, у момант напісання яго ведаў і сам Бяліна-Падгаецкі, і, магчыма, ужо разглядаў варыянты ўцёкаў з «соцыялістычнай» бацькаўшчыны.

Трагічна склаўся лёс Джузэпэ Грымальдзі. Страціўшы на будоўлі руку, ён застаецца без працы і бадзяецца па Ніцы. Даведаўшыся, што сапраўднае імя яго рабатадаўца Мацціа Альфонса Марціні і што ён вядомы правакатар, забойца яго бацькі, Джузэпэ ў сваю чаргу забівае шчаслівага ад уступлення ў фашысцкую партыю Мацціа: «Цяжкі молат мільгануў у правай руцэ Грымальдзі і з злавесным сьвістам апусціўся на галаву Мацьціа. Хруст касьцей, глухі енк, грузнае цела забітага, якое павольна спаўзала ўздоўж каліткі... І ўсё было скончана»[21].

---

18 Тамсама. - С. 27.

19 Тамсама. - С. 149.

20 Тамсама. – С. 153.

21 Тамсама. - С. 174.

Завяршаецца аповесць элегічным апісаннем міжземнаморскай ночы: «А мора шумела... Хвалі, днём такія ціхія і ласкавыя, а цяпер высокія і гнеўныя, з глухім шумам разьбіваліся аб гранітныя берагі надбярэжнай. Пад націскам мяккага, але даволі моцнага ветру гойдалі ў такт свае вяршаліны гордыя пальмы, нібыта ўспамінаючы сваё далёкае афрыканскае мінулае. Спала Ніцца. Драмалі ахінутыя ў сон сады, гэтэлі і фонтаны.

І хвалі ярасна біліся ў скалы...»[22].

Застаецца толькі пашкадаваць, што ўнёсак у беларускую літаратуру чалавека з такім багатым жыццёвым вопытам і бясспрэчнымі мастацкімі здольнасцямі, быў такі абмежаваны як колькасна, так і якасна.

22 Тамсама. - С. 174.



# Васіль Дранько-Майсюк

акцёр, рэжысёр, мастак, драматург, культуролаг, тэатральны крытык. Друкаваўся ў часопісах «Дзеяслоў» і «Верасень». У 1999-м скончыў Беларускі ліцэй мастацтваў (мастак-жывапісец), у 2003-м — Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў (культуролаг) і ў 2009-м — Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў (рэжысёр драматычнага тэатра). Нарадзіўся ў 1981 годзе ў мястэчку Давыд-Гарадок. Жыве ў Маскве.

# Творчае шчасце нельга ўкрасці...

***Ён, малады таленавіты акцёр, рэжысёр, мастак, драматург, які, каб не трапіць у цень літаратурнай славы бацькі, пачынаў сваю творчую дзейнасць пад псеўданімам — Мюр Фарыдовіч. Пра неспадзяванкі жыццёвага і творчага лёсу Васіля Дранько-Майсюка — наша гутарка.***

**Эдуард Акулін:** — *Скажы, калі ласка, Васіль, адкуль з'явіўся такі экзатычны творчы псеўданім — Мюр Фарыдовіч?*

**Васіль Дранько-Майсюк:** У Амерыцы ёсць цудоўны артыст тэатра і кіно Фарыд Мюррэй Абрахам. Ён адзін з самых разнастайных і творча-нечаканых акцёраў. Сярод яго роляў: Іосіф Сталін і Папа Рымскі Юлій II, бацька Грышкі Мелехава і Ал Капонэ, Антоніо Сальеры і біблейскі Лот. Здымалі яго такія рэжысёры, як Вудзі Ален і Гас ван Сэнт, Пітэр Грынуэй і Ліна Вертмюллер, Мілаш Форман і Сяргей Бандарчук. Яго ігра паэтычная і вельмі натхняльная. Таму нічога дзіўнага, што ў аснове майго псеўданіма было імя Абрахама.

**Э. А.** — *Твая маці — карэнная масквічка... Бацька — давыдгарадзецкі паляшук. На якой мове яны цябе выхоўвалі?*

**В. Д.-М.** — Бацька — па-беларуску, маці — па-беларуску і па-руску. У сям'і было гарманічнае двухмоўе. Для мяне не з'яўляецца праблемай думаць па-беларуску, а гаварыць па-руску і наадварот.

**Э. А.** — *У цэнтры Менску, дзе ты жыў, не было ніводнай беларускай школы... Ці здолеў ты атрымаць беларускую адукацыю?*

**В. Д.-М.** — Так. На вуліцы Чарнышэўскага была беларуская школа № 20 з французскім ухілам. Там я і правучыўся да 1991-га года, а затым перайшоў у Беларускі ліцэй мастацтваў імя Ахрэмчыка.

**Э. А. —** *Ці паўплывала тое, што ты нарадзіўся ў сям'і вядомага паэта, на твой творчы выбар?*

**В. Д.-М.** — Вялікая колькасць кніг па мастацтву ў нашым доме, асабліва альбомы Яцэка Мальчэўскага, Фернана Лежэ, Марка Шагала, ілюстрацыі Валерыя Славука — натхнялі на маляванне. Бацькава захапленне кіно (асабліва камедыямі Чапліна і Луі дэ Фюнеса), матчына любоў да тэатра (МХАТ, калі там яшчэ быў Алег Яфрэмаў, спектаклі Пятра Фаменкі) — перадаліся і мне: захацелася самому ставіць і іграць.

**Э. А**. — *Каго з беларускіх пісьменнікаў ты любіў чытаць у дзяцінстве?*

**В. Д.-М**. — Янку Маўра, Паўла Місько, Уладзіміра Ягоўдзіка, Станіслава Шушкевіча.

**Э. А.** — *Сённяшнія твае літаратурныя куміры...*

**В. Д.-М.** — Міхась Зарэцкі, Пятро Глебка, Ніна Мацяш, Міхась Стральцоў, Барыс Мікуліч...



**Э. А**. — *Што дала табе як творцу вучоба ў Беларускім ліцэі ма́стацтваў імя Ахрэмчыка?*

**В. Д.-М.** — «Творца» — занадта гучнае слова. Як пісаў славуты майстар фільмаў жахаў Марыё Бава: «Хочацца быць проста ўмелым «цесляром», які ўмее рабіць добрыя крэслы». У мяне выкладалі вялікія педагогі: Валянціна Свентахоўская (выкладчыца жывапісу) — навучыла каларыстычнай свабодзе. Рыгор Сітніца (графіка) — кампазіцыі — г.зн. гарманічнаму суладдзю рытмаў і плямаў. Генік Лойка (скульптура) — акуратнасці (прывучыў мяне, інфантыльна-несамастойнага 10-гадовага дзіцёнка, майстэрству прыборкі).

**Э. А.** — *Хто з выкладчыкаў ліцэя аказаў найбольшы ўплыў на твой мастацкі і жыццёвы светапогляд?*

**В. Д.-М.** — Рыгор Сітніца.

**Э. А.** — *Ці спатрэбіўся табе твой мастацкі досвед у далейшым жыцці?*

**В. Д.-М.** — Так. Я малюю вялікія графічныя партрэты прыгожых спадарынь (цудоўны спосаб для новых рамантычных знаёмстваў).

**Э. А.** — *У свой час шырокую папулярнасць займеў твой спеўны праект «Жаба ў каляіне». Ці ёсць у яго працяг?*

**В. Д.-М.** Гэта не толькі «мой» праект! Я яго рабіў разам з кампазітарам Максімам Іўкіным. «Шырокая папулярнасць»? Дазвольце не пагадзіцца! Так, гэта быў цікавы гурт, з арыгінальнай праграмай, які запісаў усяго дзве песні і зараз ужо практычна не існуе. Прычына неіснавання — гультайства ды чыста беларуская інертнасць яго ўдзельнікаў.

**Э. А.** — *Атрымаўшы адукацыю культуролага, ты вырашыў звязаць свой лёс з рэжысурай. Што падштурхнула цябе на гэты крок?*

**В. Д.-М.** — Эгацэнтрызм і страшная няўпэўненасць у сабе. Хацелася кіраваць працэсам, каб цябе аднаго слухаліся ўсе. Зараз я стаўлю ў Маскве мала-

бюджэтныя іранічныя спектаклі. Выключна дзеля заробку і добрага настрою. Вось які я меркантыльны!

**Э. А**. — *Як для цябе адбыўся зварот да творчасці Францішка Аляхновіча? Ці лічыш ты п'есу «Шчаслівы муж» сваёй творчай удачай? Які сённяшні лёс гэтай пастаноўкі?*

**В. Д.-М.** — Францішка Аляхновіча люблю за яго небеларускі авантурны характар і арыгінальныя вострыя самаіранічныя творы. «Шчаслівы муж» — мой першы спектакль з прафесійнымі акцёрамі, пастаўлены ў РТБД. Каб не тагачасны кіраўнік тэатра Валерый Анісенка, балетмайстар Марына Філатава, мастачка Вольга Вячорка і кампазітар Максім Іўкін — ніякага б спектакля не адбылося. Пастаноўка не вызначалася асаблівымі рэжысёрскімі дасягненнямі, але гледачам падабалася (немудрагелістыя жарты, пікантныя сітуацыі, запамінальная музыка) — поўная зала была заўсёды. Творчай удачай назваць яго нельга. Зараз «Шчаслівы муж» ужо зняты з рэпертуару.

**Э. А.** — *Твой ад'езд з Беларусі — гэта вымушаны крок, творчая эміграцыя ці проста неабходнасць «у розных краях пабываць...»?*

**В. Д.-М.** — Ды якая эміграцыя? З-за чаго эміграваць? Страх застацца да сівых гадоў на шыі ў бацькоў — вось галоўная прычына майго ад'езду.

**Э. А.** — *Ці ўдалося табе рэалізавацца ў Маскве як акцёру?*

**В. Д.-М.** — Вось яна, мая рэалізацыя: я іграю ў дзіцячым тэатры СНАРК, праводжу тэатралізаваныя святы для дзяцей, пішу сцэнары і п'ескі, часам іг-



раю ў малабюджэтных серыялах і тэлепраграмах, выкладаю дзеткам ад 2 да 8 год акцёрскае майстэрства. Зараз ізноў пачаў ставіць. Адным словам, змагаюся з уласным гультайствам.

**Э. А.** — *Чаго, на твой погляд, не хапае беларусам як нацыі?*

**В. Д.-М.** — Калі казаць пра «нацыянальна свядомую» частку, то — упэўненасці, любові да той справы, якую яны робяць. Калі навучымся любіць адно аднаго і тое, што робім (а не толькі выключна саміх сябе), калі палюбім сваю культуру і будзем усяляк адно аднаго падтрымліваць — станем нацыяй. Але ў гэта верыцца з цяжкасцю.

**Э. А.** — *Распавядзі, калі ласка, пра свой удзел у праекце «Мова ці Кава». Што дае гэты праект для маскоўскіх беларусаў?*

**В. Д.-М.** — Гэты праект узнік дзякуючы журналістцы канала ОРТ Кацярыне Кібальчыч. Яна мяне запрасіла выкладчыкам. Мая задача была — зрабіць займальныя, вясёлыя, тэатралізавана-арыгінальныя заняткі. Дзякуючы гэтаму праекту беларусы гуртуюцца, абменьваюцца навінамі, знаёмяцца, і, што самае галоўнае — размаўляюць па-беларуску.

**Э. А.** — *У тваім аўтарскім спісе некалькі тэатральных п'есаў... Ведаю, што адна з апошніх тваіх п'ес прысвечана Уладзіміру Мулявіну. Які сцэнагтафічны лёс гэтага твора?*

**В. Д.-М.** Спадзяюся, што шчаслівы... Прэм'ера спектакля «Пясняр» у пастаноўцы рэжысёра Валянціны Еранькова адбылася ў Мінску 10 кастрычніка на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага рускага тэатра імя М. Горкага.

**Э. А.** — *Хто з'яўляецца тваім творчым дарадчыкам?*

**В. Д.-М.** — Людзей, якія натхняюць і могуць творча на мяне паўплываць, даволі многа. У Маскве гэта — саксафаніст Міця Шамшын, прадавец курэйгрыль Шах, мастачка Валянціна Паўлава. У Мінску — арганісты Юры Габрусь, дворнік Валянцін Якаўлевіч, масажыст Аляксандр, кампазітарка Вольга Падгайская.

**Э. А.** — *Што акрыляе цябе ў жыцці і творчасці?*

**В. Д.-М.** — Беларуская літаратура і творчасць піцерскага гурта НОМ.

**Э. А.** — *Ці марыш ты калі-небудзь вярнуцца назад у Беларусь? Што для гэтага неабходна?*

**В. Д.-М.** — Мару. Калі будзе магчымасць займацца любімай працай на беларускай мове і пры тым добра зарабляць — вярнуся абавязкова.

**Э. А.** — *Дзе лягчэй пачувацца беларусам у Мінску ці ў Маскве?*

**В. Д.-М.** — Каму як. Асабіста мне, лепей працаваць у Маскве, а ў Мінску бываць некалькі разоў у год па два тыдні.

**Э. А.** — *Што табе больш падабаецца: пісаць п'есы ці іграць у іх?*

**В. Д.-М.** — І тое, і другое. Гэта два розныя творчыя «шчасці».



# Уладзімір Сіўчыкаў

пісьменнік, мастак, выдавец. Аўтар кнігі апавяданняў і п'ес «Гульня ў тастамант» ( 1992 г.), кніг прозы: «Лісты да брата» (1998 г.), «Бювар» (2009 г.), кнігі паэзіі «Высакосны год» (2004 г.). Укладальнік (разам з А. Марачкіным) і адзін з аўтараў альбомаў «Жодзінцы. Жывапіс. Графіка. Мастацкае слова» (2008 г.), «Рыцары Пагоні і Арла» (2010 г.) і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў горадзе Жодзіна. Жыве ў Мінску.

# З «Жодзінскіх нататак» [1]

## The are more things...

З электроннай рассылкі атрымаў ліст Анатоля Сідарэвіча, які пазіцыянуе сябе як публіцыста, літаратурнага крытыка, гісторыка, а таксама крытыка камуністычнай ідэалогіі:

«3 жніўня

Пішу, працягваю пісаць успаміны пра Адамовіча. І раптам вельмі захацелася пазваніць ягонай дачцэ, Наталлі. Размаўляем, і я дазнаюся, што сёння сапраўдны, а не пашпартны дзень нараджэння Алеся Міхайлавіча. У дадатак высветлілася, што Наталля сёння на радзіме Алеся Міхайлавіча, у Глушы, толькі што пабывала на бацькавай магіле. Містыка! Чаму менавіта сёння захацелася ўзяцца за стары адкладзены тэкст? Чаму менавіта сёння захацелася патэлефанаваць Наталлі?»

Адказаў спадару Анатолю цытатаю з класіка ў сваім перакладзе:

The are more things in heaven and earth, Horatio,
Then are dreamt of in your philosophy.
William Shakespeare. Hamlet[2]

Дадаў таксама, што з задавальненнем згадваю колішнюю аўтобусную паездку ў Глушу на вераснёўскае, «пашпартнае» 80-годдзе класіка, куды запрасіла Наталля Адамовіч, і пра якую нагадваюць мне найперш архіўныя фотаздымкі. Наведалі тады з Вольгай Іпатавай, Валянцінам Тарасам, Сяргеем Законнікавым і іншымі калегамі-літаратарамі магілы Алеся Міхайлавіча і ягоных сваякоў, пабылі ў бацькоўскім доме класіка і пры зачыненай аптэцы, якую меркавалася пераабсталяваць пад мемарыяльны музей, выступілі на вечарыне ў Доме культуры.

Сеў пераглядаць свае даўнія запісы і неверагодным чынам натрапіў на сваю містычную згадку.

Аніколі не было ні раней, ні пасля, каб у офісе па маім працоўным стале па кнізе «Беларуская літаратура і свет. Папулярныя нарысы» паўзла маленькая, але не чырвона-чорная, а шэрая, з сямю жоўтымі кропачкамі багоўка. У большасці еўрапейскіх моў гэты сімпатычны і карысны людзям жучок імянуецца як Божая жывёліна. У англамоўных краінах завуць яго Ladybird, Lady Beetle, Ladybug, дзе Lady атаясамліваецца з Дзевай Марыяй, а таму літаральна перакладаецца як птушка ці жук Дзевы Марыі. Мабыць, таму і лічыцца, што забіваць багоўку нельга ні ў якім разе.

---

1 Радкі, якія прыйшлі, напісаліся, надыктаваліся ці зняліся з дыктафона, набраліся на кампутары, адрэдагаваліся ў родным Жодзіне.

2 Шмат рэчаў ёсць на свеце, мой Гарацыё,
Што і не сняцца нашым мудрацам!
Уільям Шэкспір. Гамлет

Толькі выпусціў яе ў акно, як пачуў званок дамафона.

Завітаў Уладзімер Арлоў, які прынёс і падпісаў мне кніжку сваіх заакіянскіх падарожных нататак і эсэ «Божая кароўка зь пятай авэню»! Можа, і да мяне прылятала багоўка з тае авеню?!

Але і на тым дзівосы не скончыліся! Аказваецца, Уладзя парэкамендаваў і мяне дэлегатам на міжнародную канферэнцыю па дзіцячай культуры і літаратуры краін Балтыйскага рэгіёну, бо дэбютаваў я ў выдавецтве «Юнацтва» кнігаю апавяданняў і п'ес «Гульня ў тастамант», прапрацаваў шэсць гадоў у часопісе для дзяцей і падлеткаў «Бярозка» дый як выдавец і складальнік спрычыніўся да тузіна дзіцячых арыгінальных і перакладных тамоў, да чытанак і хрэстаматый.

Не мінулася і чвэрць гадзіны, як сышоў мой цёзка, — патэлефанавала Лена Пастарнак, дырэктарка і добрая фея Балтыйскага цэнтра пісьменнікаў і перакладчыкаў, што ў горадзе Вісбі на шведскай выспе Готланд, і афіцыйна запрасіла на канферэнцыю!

Мажліва перакажу пра тое спадару Сідарэвічу як алаверды на ягоны мэсыдж:

«7 жніўня

Дзякуй за Ваш ліст. Вярнуўшыся 1 верасня з адпачынку, я пастараюся даць на яго адказ.»

Можа, напішу яму і пра іншую містычную праяву.

Здаецца, нямала сіл і часу паклаў, каб папулярызаваць асобу дзяржаўнага і ваеннага дзеяча Вялікага княства Літоўскага, мецэната, фактычнага заснавальніка майго роднага Жодзіна князя Багуслава Радзівіла.

На мастацкай выставе «Millennium» пабачыў бюст князя Багуслава, які стварыў Аляксандар Бацвінёнак, і напрасіўся да скульптара ў майстэрню. Там ён прызнаўся, што ствараў вобраз нашага славутага суайчынніка, памятаючы і пра бюст французскага караля Людовіка XIV, аўтар якога — найвыбітнейшы скульптар і дойлід італьянскага барока Джавані Ларэнца Бярніні. Пагадзіўся, што было гэта цалкам абгрунтавана. Па-першае, «кароль-сонца» быў у далёкім, але ўсё ж сваяцтве з нашым славутым земляком, а праз тое ласкава прымаў яго ў Версалі. Па-другое, Джавані Бярніні і Багуслаў Радзівіл былі сучаснікамі. Яны нават маглі перастрэцца, але Багуславаў дзядзька, выхавацель і апякун Януш Радзівіл наказаў пляменніку як заўзятаму падарожніку наведваць толькі пратэстанцкія краіны. А Італія, і тым болей Ватыкан, дзе пераважна жыў і працаваў Бярніні, былі і ёсць краінамі каталіцкімі. А па-трэцяе, сам князь Багуслаў быў асобаю няўрымслівай, баракальнай!

Аказалася, што і ў Аляксандра Бацвінёнка ў Жодзіне жывуць сваякі. Больш за тое, князеў бюст разглядаў ён як праект помніка заснавальніку горада і нават распрацаваў архітэктурную прывязку да плошчы з будынкам былога гарсавета, а цяпер краязнаўчага музея.

Перайшлі былі на зусім ужо прыватныя рэчы, і я сказаў, што ўсцешаны тым, што, як і князь Багуслаў, нарадзіўся 3 траўня.

Скульптар моўчкі выцягнуў з нагруднай кішэні свой пашпарт, у якім за дату нараджэння гэтаксама значылася 3 траўня!

Хіба не містыка — гэткае неверагоднае супадзенне?!

*7 жніўня, 14 верасня 2013 года*

## Мемуарны дзень

Прыемна было пабачыць праз некалькі гадоў даўняга знаёмца, які завітаў праведаць дый не дужа спяшаўся, што надараецца даволі рэдка.

З Сяргеем Чыгрынам знаёмы яшчэ ад універсітэцкага, філфакаўскага студэнцтва. Мы з ім аднагодкі дый абодва Мікалаевічы. На сваіх курсах былі старэйшымі за іншых студэнтаў: за плячыма ў яго ўжо было Магілёўскае культасветвучылішча, у мяне — Мінская мастацкая вучэльня і два працоўныя гады, а таксама па два гады салдатчыны.

Пагарталі разам альбом амаль пяцігадовай даўніны «Філалагічны факультэт. Да 70-годдзя заснавання». Згадалі выкладчыкаў, паэтычны гурток «Узлёт» незабыўнага Алега Антонавіча Лойкі, перакладчыцкі семінар Вячаслава Пятровіча Рагойшы, купалаўскія імпрэзы ў Вязынцы.

А іншае, адносна нядаўняе паэтычнае свята прыгадвалі з асаблівым задавальненнем. Апошнім вераснёўскім днём 2007 года ў Сынковіцкай царквекрэпасці ўпершыню прайшоў Дзень беларускай хрысціянскай паэзіі. Быў ён

*Ля помніка Ларысе Геніюш у Зэльве*



прымеркаваны да 600-годдзя славутага храма, у адкрыцці і асвячэнні якога браў удзел сам Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Вітаўт разам з жонкай Ганнаю!

Дзень хрысціянскай паэзіі, які багаславіў япіскап Гарадзенскі і Ваўкавыскі Арцемій, таксама пачаўся з набажэнства, якое адслужыў цяперашні настаяцель царквы айцец Арсеній Ананка. Вёў фэст Міхась Скобла, родны хутар якога каля мястэчка Дзярэчын, усяго ў некалькіх кіламетрах ад Сынковіч.

Паэты Зьніч (брат Мікалай) і Алесь Клышка прэзентавалі сваю новую супольную кнігу «Шлях да Жыровічаў».

Аўтарка аповесці «Прадслава» пра Еўфрасінню Полацкую Вольга Іпатава чытала свае вершы пра знакамітых сыноў Бацькаўшчыны.

Анатоль Вярцінскі зацеміў выдатную традыцыю — чытаць вершы ў храмах і, натуральна, агучыў свае паэтычныя радкі.

Пранікнёна і ўзнёсла гучала ў храме песня на словы Уладзіміра Дубоўкі «О, Беларусь, мая шыпшына!», якую выканала салістка сталічнай філармоніі Таццяна Матафонава.

На вокладцы маёй паэтычнай кніжкі «Высакосны год» адлюстраваны Сынковіцкі храм, а таму чытаць вершы з яе пад старажытнымі скляпеннямі было надзвычай узрушліва.

Пазнаёміў гасцей свята са сваімі вершамі і мастак-графік Рыгор Сітніца, ахвотна далучыўся да яго фотамайстра Яўген Пясецкі, не маглі не парадаваць землякоў ураджэнцы Зэльвеншчыны Юрка Голуб і Сяргей Чыгрын.

Свята ў царкве скончылася супольным выкананнем гімна на словы Наталлі Арсенневай «Магутны Божа», а доўжылася на пляцоўцы перад адрэстаўраванай званіцаю, дзе спяваў бард Андрэй Мельнікаў, а на дудзе граў Зміцер Сідаровіч.

На развітанне Міхась Скобла прэзентаваў айцу Арсенію зборнік эпісталярнай спадчыны Ларысы Геніюш «Каб ведалі». Слынная паэтка была сапраўднай хрысціянкай і напісала шмат духоўных вершаў. Паэтычная восеньская імпрэза прадоўжылася ў Зэльве, дзе паэты і музыкі ўсклалі кветкі да помніка Ларысы Геніюш пры царкве і на яе месца спачыну на тамтэйшых могілках.

Сяргей Чыгрын нечакана для гасцей Зэльвеншчыны абвесціў яшчэ адзін юбілей — стагоддзе хаты, у якой прайшлі ягоныя дзіцячыя гады, і якая стаіць амаль што па дарозе на Менск. Таму з задавальненнем наведалі і вёску Хадзявічы, прывіталіся з Сяргеевымі сваякамі і аднавяскоўцамі.

А вераснёўскім днём праз шэсць гадоў у маім цяперашнім доме абмяняліся мы з Сяргеем і сваімі сугучнымі навінкамі. Я падпісаў яму «Залатую яблыньку» — чытанку, складзеную з беларускіх казак, легенд і паданняў, а ён пакінуў памятныя дэдыкацыі на «Легендах і паданнях Слонімшчыны» і на «Слонімскім буквары», зборніку гісторыка-краязнаўчых нарысаў і своеасаблівым даведніку па горадзе і раёне.

*12 верасня 2013 года*

# ММММ

«ММММ, або Мая магічная мапа Менска» — так паіменаваў я свой унёсак у вельмі сімпатычны праект кампаніі «Будзьма». У яе запрашэнні да супольнай гаворкі зазначана, што кожны горад мае сваю душу, а душа ягоная — гэта мясціны з асаблівай энергетыкай, гісторыяй, а то і містыкай.

Аўтар ідэі праекта мастак Міхал Анемпадыстаў кажа, што «магічныя мясціны звычайна не маюць ніякіх ахоўных статусаў і няўхільна знікаюць з мапы горада і з нашага жыцця. У выніку мы бяднеем — кожны паасобку і ўсе разам. Бяднее наша культура і гісторыя. Горад і мы самі пакрысе страчваем свой твар, сваю адметнасць, памяць».

Захацелася адгукнуцца на запрашэнне пакласці свае пазлы, адказаць, чаму мне дарагія пэўныя мясціны і чаму лічу іх адметнымі, магічнымі поруч з ужо названымі Нямігаю, Залатой Горкай, Траецкім прадмесцем, Домам масонаў, Кальварыйскімі і лютэранскімі могілкамі, сядзібай у Лошыцкім парку дый іншымі.

## Парк Горкага

Як Губернатарскі сад быў ён закладзены з ласкі першага менскага губернатара Захарыя Карнеева, культуртрэгера, які пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай усталёўваў на нашай зямлі імперскія парадкі.

Цяперашні дзіцячы парк імя Максіма Горкага раскінуўся на перакрыжаванні галоўнай транспартнай артэрыі праспекта Незалежнасці і воднага дыяметра сталіцы, і ёсць адным з маіх жыццёвых арэалаў. Пры ім, на колішняй вуліцы з гуманнай назвай Шпітальная, а сёння Фрунзэ, месціўся кругласуткавы дзіцячы садок Беларускай чыгункі, у якім выхоўваўся ў малалецтве. Якой містыкай можна патлумачыць, што ў тым самым будынку цяпер працую?! Поруч стаіць Дом літаратара, у якім таксама працаваў, наведваў бібліятэку, стаў сябрам найстарэйшай творчай суполкі.

Паралельна гэтай вуліцы пралегла паркавая алея, якая падымаецца ад набярэжнай Свіслачы, стыхіі воднай, да Кола агляду вышынёй з 20-павярховы хмарачос, а значыць, стыхіі паветра. Мабыць, нездарма на ёй стаіць Планетарый, а пры ім і бюст Канстанціна Цыялкоўскага. Хацелася б бачыць там помнік і нашаму Язэпу Драздовічу, аўтару трактата «Нябесныя бегі» і цыкла касмічных палотнаў.

У будні дзень і пахмурнае надвор'е асабліва хораша адпачываць і медытаваць на лаве насупраць адміністрацыйнага цаглянага аднапавярховіка. На ім вісіць сціплая шыльда, якая сведчыць, што да вайны там стаяў дом, у якім жыў маг беларускага мастацкага слова Якуб Колас.

На той самай алеі выхавацелька садка адкрыла і мне страшэнную таямніцу — сапраўднае прозвішча дзядулі Леніна, аказваецца, Ульянаў! Незразумела, з якога бадуна па ўсёй постленінскай імперыі паркам культуры і адпачынку

надалі імя нібыта пралетарскага пісьменніка. Але чамусьці верыцца, што парк насіцьме новае, належнае імя, імя аўтара паэмы «Новая зямля».

### Шалман

Мала хто ведае, што практычна безыменны цяпер трыкутнік мегаполіса паміж Лібава-Роменскай і Брэсцкай чыгункамі дый старым аэрапортам зваўся даўней Шалманам.

Азначаць гэтае слова магло «шум, вэрхал», «зладзейскі прытон», а таксама «карчма, шынок». Апошнія найчасцей трымалі габрэі, у якіх даволі папулярным было імя Саламон з варыяцыямі Залман, Шалман, Шлёма.

А вось мая мама, якая жыве на вуліцы Чкалава трыццаць пяць гадоў, ужывала яго найперш у сэнсе «раён з маленькімі дамкамі», і, можа, гэта самая праўдзівая этымалогія.

Паўз тыя дамкі няраз бегаў я ў «самаволку» з войска. Пасля салдатчыны шукаў працу па ўсім Шалмане, а містычным чынам знайшоў вакансію мастака ў Палацы культуры і спорту чыгуначнікаў, на які выходзяць вокны мамінай кватэры.

Ёсць там завулак з неверагодна пазітыўным назовам Краснамысленскі, які імяную завулкам Прыгожых думак. А на месцы колішняй вуліцы Дабрамысленскай месціцца кавярня «Добрыя Мыслі», якой апекаваліся яе добрыя анёлы, жывапісец Віктар Маркавец і мастацтвазнаўца Таццяна Гаранская. І ягоныя пазітыўныя намеры і задумы ўвасабляліся ў тым асяродку беларушчыны ў шматлікія выставы, вечарыны ды імпрэзы.

Магія і зачараванне ёсць ва ўсім, што нясе прыкметы даўняга часу, і містычны дух дагэтуль лунае між новых камяніц, пад шатамі старых яблынь, якія памятаюць тамтэйшыя сялібы. Парэшткі колішняга Шалмана — у зялёных вуліцах з сімпатычнымі беларускімі найменнямі Караткевіча, Магілёўская, Слонімская, Быхаўская, Сенніцкая, у завулках Полацкі, Рагачоўскі, Прыгожы, Вішнёвы.

Трэба думаць, што назву Шалман не ўзаконілі чыноўнікі, бо падалася ім немілагучнай. Мабыць, гэтаксама і назва станцыі падземкі Ракаўская праасацыявалася ў кагосьці з недарэкаў з анкалогіяй.

Паводле ціхамірнасці і сугучча згадваецца мне і Шальманаўка — лагчынка на пісьменніцкіх лецішчах пры Лысае гары, што пад слаўным Заслаўем. Прабілася была там крынічка, якую расчысціў і дагледзеў Іван Шальманаў. Аднак знайшліся недавяркі, якія сталі мыць у тае крынічцы не толькі посуд і начынне, але і брудныя боты. Зазлаваў пісьменнік на няўдзячных суседзяў дый засыпаў джарала. Пазней усталявалі на Шальманаўцы калонку. Ад брамкі пры ёй і цяпер віецца ледзь прыкметная сцяжынка на вяршыню гары, да старадаўняга капішча з валунамі ахвярніка.

### Вайсковыя могілкі

Трыццаць два гады таму кастрычніцкім сонечным днём прафесар Сцяпан Александровіч заміж планавай лекцыі па гісторыі беларускай літаратуры ад-

вёў цэлы курс, больш за сотню філфакаўцаў-першакурснікаў на адзін з самых старых некропаляў горада, на Вайсковыя могілкі, знаныя з саракавых гадоў пазамінулага стагоддзя і асвечаныя святаром з паэтычным прозвішчам, айцом Паўлам Багдановічам. Большасць студэнтаў упершыню на свае вочы пабачыла надмагіллі першага прэзідэнта Акадэміі навук, наркама асветы Усевалада Ігнатоўскага, акадэміка Мікалая Бліядухі, заснавальнікаў беларускага савецкага тэатра Уладзіміра Крыловіча і Еўсцігнея Міровіча, кампазітара Нестара Сакалоўскага, старшыні ЦВК БССР, нацыянал-камуніста Аляксандра Чарвякова, эсэра-тэрарыста Івана Пуліхава...

Але найдаўжэйшы прафесараў расповед быў у літаратурным кутку — пры магілах Алеся Гурло, Валянціна Таўлая, Паўлюка Труса. Паказаў велешаноўны Сцяпан Хусейнавіч, што пісьменнікі, нават такія класікі, як Якуб Колас, — зусім не парнасаўцы, што маюць у цэнтры гаманкой сталіцы месцы вечнага спачыну, што непадалёк ад магілы Янкі Купалы спіць вечным сном яго маці Бянігна Іванаўна, якая перажыла славутага сына толькі на два дні, нібыта адчула ягоны трагічны сыход у далёкай Маскве.

А праз год лёг у цяпер безыменную магілу сын Наталлі Арсеневай і Франца Кушаля Міраслаў, які загінуў ад выбуху ў гарадскім тэатры, дзе меўся быць абвешчаны Саюз Беларускай Моладзі.

Аказалася, што поруч ляжаць Кузьма Чорны, які вынес неверагодныя пакуты ў чэкісцкіх засценках, і Міхась Клімковіч, які ачольваў Саюз пісьменнікаў, ці не дзевяноста адсоткаў чальцоў якога сталіся ахвярамі сталінскіх рэпрэсій. Расказаў Сцяпан Хусейнавіч і пра чорную ноч беларускай гісторыі з 29 на 30 кастрычніка 1937 года, калі ў сутарэннях «амерыканкі» нкусаўцы расстралялі больш за сто прадстаўнікоў нацыянальнай інтэлектуальнай эліты — падобнага не было ў ніводнай еўрапейскай краіне.

Пачулі студэнты і пра легендарны, але, на вялікі жаль, не ажыццёўлены пасля развянчання культа асобы намер беларускіх уладаў узвесці на тых могілках нацыянальны Пантэон кшталту тых, што ёсць у Парыжы ці ў Тбілісі, агучыў ідэю перавезці з Ялты парэшткі Максіма Багдановіча, як перавезлі Купалавы з маскоўскіх Ваганькаўскіх магілак.

Цытаваў ён і верш куратара маёй акадэмічнай групы Рыгора Семашкевіча, які трагічна загінуў праз некалькі месяцаў.

*Вайсковыя могілкі Мінска*
*Не будуць варот зачыняць.*
*Спыніся — далёкі і блізкі —*
*Тут маршалы нацыі спяць.*
*...*
*Трывожаць не рангі і званні,*
*Інакшы адзначыўся плён —*
*Дзяржаўная важнасць гучання*
*Адзіных і розных імён.*

А калі праз некалькі дзён праявіў я стужку і надрукаваў чорна-белыя здымкі, дык зніякавеў. Сярод маіх аднакурснікаў стаяў... Іван Дамінікавіч Луцэвіч! Патрапіў у кадр, выдаваў жывым і адухоўленым бронзавы профіль з надмагілля Песняра!

Пазней няраз яшчэ наведваўся на тыя могілкі.

У храме Аляксандра Неўскага, нягледзячы на ўсю неадназначнасць сваіх стасункаў з інстытутам праваслаўнай царквы, стаў за хроснага бацьку ўнучатаму пляменніку Паўлу Хахлову.

Дзівіўся надмагільным надпісам на беларуска-польскай і беларуска-расейскай трасянках, на іўрыце і нават на ангельскай мове.

Страшэнна абураўся, што падчас рэпарацыі ў нулявых гадах грэйдар пазграбаў надмагільныя пліты вайскоўцаў з цэнтральнай алеі да біяпрыбіральні каля паркана.

Не цешыўся мімавольным сустрэчам з бяздомнікамі, выпівохамі дый жабракамі.

Дазнаўся пра версію, што нібыта менавіта там у брацкай магіле былі пахаваныя паўстанцы 1863 года, расстраляныя царскімі карнікамі.

Мусіў пагаджацца з гісторыкам Віталём Скалабанам, што могілкі тыя нібыта не функцыянуюць, амаль не існуюць у свядомасці мінчукоў, — большасць магіл недагледжаныя, шмат і безназоўных пахаванняў.

А найболей уразіўся аповеду калегі, пісьменніка Уладзіміра Содаля, ці не мацнейшаму за эпізоды з кінафільма Тэнгіза Абуладзе «Пакаянне». Гэтак ж як моцна ненавідзеў хтосьці літаратара Эдуарда Самуйлёнка, што не дапусціў, каб той спакойна ляжаў у роднай зямлі — у ноч пасля пахавання выкапаў нябожчыка, ці ўсё ж нейкае ўва сне — і павесіў на дрэве па-над магілаю!

## Музей валуноў

Жыхары мікрараёна Уручча, што першым сягнуў за кальцавую аўтадарогу, завуць яго яшчэ і Стоўнхенджам — на заходні, брытанскі манер, і Садам камянёў — на ўсходні, японскі.

Назву Уручча адны спецыялісты па тапаніміі звязваюць з урочышчам — рэзкай зменаю ландшафту, а другія — з рэчышчам колішняй рэчкі або ручая. Загадкавы музей паміж Уруччам і Акадэмгарадком займае цяпер шэсць гектараў. Да стварэння гэтага скансена — музея пад адкрытым небам —у васьмідзяся

тых гадах мінулага стагоддзя спрычыніўся акадэмік Радзім Гарэцкі, а належыць ён Інстытуту геафізікі і геахіміі Акадэміі навук. Яго незвычайныя экспанаты — 2134 ледавіковыя валуны, звезеныя з розных рэгіёнаў Беларусі і раскладзеныя па адпаведных месцах у выглядзе мапы краіны. Групамі валуноў абазначаны гарады і буйныя населеныя пункты краіны, а сцяжыны адпавядаюць асноўным транспартным артэрыям. А ў калекцыі «Камень і чалавек» прадстаўлены такія ўнікальныя экспанаты, як стоды, жорны, крыжы.



*Музей валуноў*

Але і з гэтага музея, які працуе кругласуткава, загадкавым чынам зніклі некалькі важкіх артэфактаў. Можна было б уявіць, што сведкі сівой мінуўшчыны самохаць вяртаюцца ў родныя мясціны, але аказалася, што іх проста... скралі з дапамогаю аўтакранаў майстры, якія вырабляюць надмагільныя помнікі!

Музей гэты ўнікальны, такога няма ні ў адной еўрапейскай сталіцы!

Паўтары дзясяткі гадоў меў задавальненне пазіраць на яго з вокнаў свайго кабінета. І сёння дзіўлюся, што турфірмы не праклалі паўз яго свае маршруты, а разам з тым радуюся, што можна па-ранейшаму, у цішыні паблукаць па яго сцяжынах, бо гэта і паркавая зона горада.

*29 кастрычніка 2013 года*

## Галерэя

Мабыць, паводле колькасці мастакоў на душу насельніцтва Жодзіна ўваходзіць як мінімум у першую пяцёрку беларускіх гарадоў. Таму не дзіва, што сем гадоў таму ўдзел у літаратурна-мастацкім праекце з лапідарнай, але ёмістай назваю «Жодзінцы» ахвотна ўзялі найперш дваццаць мастакоў і пісьменнікаў, чый жыццёвы або творчы лёс знітаваны з Жодзінам і ягонымі наваколлямі.

Літаратурныя імпрэзы і мастацкія выставы ў шасці беларускіх гарадах былі прысвечаны 365-годдзю Жодзіна, якое, дзякуючы найперш дапытлівасці сталічных і мясцовых гісторыкаў з краязнаўцамі, было ўзаконена і адзначана ў 2008 годзе.

Ужо на першай выставе, якая была прапанаваная ўвазе гледачоў у Жодзінскай гарадской бібліятэцы і сталася сапраўдным святам для гараджанаў, экспанавалі свае творы мастакі рознага жыццёвага веку і разнастайных стыляў, у самых разнаітых тэхніках і матэрыялах — ад сюжэтнай гуашы «На аўтазаводзе», пакладзенай на паперу Ігарам Марачкіным у пяцігадовым узросце, да парадна-рамантычнага алейнага партрэта заснавальніка горада над Плісою князя Багуслава Радзівіла, які стварыў мэтр пэндзля і алоўка Алесь MaRa.

Такія майстры, як Мікола і Кастусь Андруковічы, Уладзімір Гладкевіч, Віктар Зайцаў, Аляксандар Ксяндзоў, Валеры Славук, Аляксандар Фралянкоў, Сяргей Цігараў, Мікола Шышлоў — пры ўсяе разнастайнасці іх творчых почыркаў — ужо не адзін дзясятак гадоў годна прадстаўляюць беларускае выяўленчае мастацтва як у блізкім, так і ў далёкім замежжы.

Цікава працуюць, маюць запамінальныя мастакоўскія абліччы Мікола Крайко, Георгі Міхейчык, Юры Праскуракоў, Іван Цяраеў.

Заканамерным падаецца і тое, што новую мастакоўскую генерацыю гартуе ў горадзе жодзінец — заснавальнік мастацкай школы і яе нязменны дырэктар Аляксандар Сабалеўскі.

Даўно і цалкам відавочна было, што гораду, які мае такія творчыя рэсурсы і агромністы патэнцыял, абсалютна неабходная галерэя, — тым болей, што многія знакамітыя беларускія мастакі (і не толькі жодзінцы!) ахвотна падаравалі б ёй або перадалі на часовае захаванне свае найлепшыя палотны, графічныя аркушы, скульптуры, творы дэкаратыўна-ужытковага мастацтва. (Чамусьці даўно маюць свае карцінныя галерэі такія, куды меншыя гарады, як Лагойск ці Мар'іна Горка!)

І вось нарэшце ў маім родным горадзе, знаным найперш як горад аўтамабілебудаўнікоў, адбылася знамянальная падзея ў ягоным культурніцкім жыцці — у будынку былой прафесійна-тэхнічнай вучэльні на другім паверсе адкрылася карцінная галерэя!

Лагічна выглядала, што дзейнасць яе распачалася выставай з традыцыйнай ужо назваю «Жодзінцы», калектыўнай выставай мастакоў-жодзінцаў.

На імпрэзе мімаволі наварочваліся слёзы радасці, як чатыры гады таму на Першых Радзівілаўскіх чытаннях, што гэтаксама праходзілі ў Жодзіне.

Прыемна было пабачыць сваякоў, а таксама даўніх сяброў і знаёмцаў.

Усцешыла тое, што за дырэктара галерэі прызначылі майго цёзку і першага школьнага настаўніка малявання, мастацтвазнаўцу Уладзіміра Макарава.

А вось засмуціла тое, што выставу прымеркавалі да сумнеўнага, як на маю думку, дзяржаўнага свята, што адкрыццё галерэі правялі гарадскія ўлады суха і афіцыёзна, паводле зацверджанага сцэнарыя, якога строга трымаўся бравурна-бадзёры маршалак.

Прагучалі рускамоўныя ўрачыстая прамова старшыні гарвыканкама дый слова дырэктара галерэі, паводле традыцыі перарэзалі чырвоную стужку, а Віктар Навіцкі падарыў сваё палатно-краявід асабіста мэру.

Але відавочна не ставала хаця б невялічкай агляднай экскурсіі для аматараў мастацтва.

Крыху шкада было ветэранаў, прывезеных у якасці вясельных генералаў і з паўгадзінным спазненнем.

На жаль, з розных прычынаў не змаглі папрысутнічаць некаторыя мастакі, а прысутныя не пачуваліся імянінніkамі, выглядалі крыху разгубленымі.

Давялося шкадаваць, што так і не паявіўся аніхто з сакратароў Саюза мастакоў, бо не кожнага дня адкрываюцца ў краіне карцінныя галерэі.

Шкада было, што не задакументаваў адметную падзею фотамайстар-жодзінец Сяржук Гудзілін.

Асвяціў памяшканне чамусьці толькі праваслаўны святар, хоць жывуць у горадзе вернікі дзясятка канфесій. Мімаволі згадваўся, віртуальна, як модна цяпер казаць, прысутнічаў на экспазіцыі і абраз «Маці Божая ахвяраў Чарнобыля», напісаны Аляксеем Марачкіным і асвечаны святарамі розных канфесій на сталічнай плошчы Свабоды, бо месціцца ён сёння ў цэнтры іканастаса жодзінскай Свята-Архангела-Міхайлаўскай царквы...

Пакідаў будынак і задаваў сабе пытанні пра будучыню галерэі.

Ці займее яна трох-чатырох штатных супрацоўнікаў, як маюць іх гарадскія галерэі ў Лідзе альбо ў суседнім Барысаве?

Ці хопіць моцы і імпэту праводзіць рэгулярна рэтраспектыўныя, тэматычныя, юбілейныя, персанальныя выставы?

Ці будуць праводзіцца на яе базе штогадовыя мастацкія пленэры?

Ці ўтворыцца ў ёй сталы збор твораў, а таксама бібліятэчна-метадычны фонд?

Ці адкрыюцца пры галерэі, як дакляравалася на імпрэзе, крама-салон і арткавярня?

...На сцяне ў фае на першым паверсе і сёння можна пабачыць манахромны роспіс па тынку: два маладыя майстры пашанотна трымаюць... дзве белыя плямы ў выглядзе геральдычных шчытоў. Няцяжка здагадацца, што перша-

пачаткова гэта былі нашы святыя, гістарычныя сімвалы — герб Пагоня і бел-чырвона-белы сцяг, зафарбаваныя рукою маляра-вандала.

Хочацца верыць, што хутка вернуцца гэтыя выявы на свае месцы. Хочацца верыць, што дзякуючы і карціннай галерэі будуць зруйнаваныя пэўныя стэрэатыпы, што горад замацуе за сабою статус старадаўняга і культурніцкага цэнтра.

Асцярожны аптымізм падсілкоўвае і факт, што таго самага дня экскурсантам і наведнікам адчыніў свае дзверы і Жодзінскі краязнаўчы музей.

*5 ліпеня 2014 года*

## Магічная мапа Жодзіна

### Сутокі

Найбольшы стэрэатып пра Жодзіна, што гэта — малады горад аўтамабілебудаўнікоў. Між тым «Смалявіцкі інвентар» за 1643 год сведчыць, што паселішчу, знанаму раней пад назвамі Жодзіна Слабада, Жодынь, Багуслаў Поліс і іншымі, больш за 370 гадоў. Узнік ён па волі князя Багуслава Радзівіла нейкім магічным чынам, але і згодна тагачаснай горадабудаўнічай традыцыі на сутоках Жодзінкі і Плісы. Даў князь не толькі двум млынарам, але і іншым рамеснікам і гандлярам нечуваныя «слабоды» («свабоды») ад падаткаў аж на чвэрць стагоддзя, выдзеліў пад будаўніцтва 400 пляцаў!

Толькі ў сталым узросце дазнаўся я, што дзяцінства маё прайшло, лічы, у самым гістарычным цэнтры. Паўз Жодзінку ляжаў шлях на гульні да недалёкай лесапасадкі і ў школу, яе марыў запрудзіць з сябрамі, каб сплаўляцца на плытах не раўнуючы як тыя Том Соер і Гэкльберы Фін. Пры ёй ля невялічкага вадаспадзіка пажарнага вадаёма жыў пенсіянер-чыгуначнік Давыдзенка, які расказваў дзівосныя гісторыі і частаваў проста райскай смокваю...

Адносна нядаўна ўдалося ўсталяваць пры рачулцы памятны знак пра пачэсны ўзрост горада, а ў назве вуліцы, што пралягае паралельна, — увасобіць імя заснавальніка Жодзіна. Паралельна, бо сённяшнія ўлады выпрасталі ледзь не ўсю Жодзінку, ператварылі яе ў глыбокую і роўную канаву.

І ўсё ж такі я веру, што рэчка, якая дала гораду імя, адродзіцца, вернецца да свайго спрадвечнага жыцця.

### Царковішча

Пасля таго, як задушылі паўстанне Кастуся Каліноўскага, на месцы Петрапаўлаўскага ўніяцкага храма расійскія карнікі заклалі на каменным падмурку драўляную праваслаўную царкву, асвечаную ў гонар Архангела Міхаіла.

У 20-я гады мінулага стагоддзя бальшавікі царкву тую разрабавалі і ператварылі ў зернесховішча, а нанова адкрылі яе немцы ў 1942 годзе.

Састарэлы айцец Яўген Зубовіч яшчэ паспеў ахрысціць мяне ў ёй патаемна, і ў тым самым 1958 годзе яго перавялі ў іншае месца. Новы святар праслу-

жыў нядоўга: неўзабаве камунякі царкву зачынілі зноў, разабралі, а бярвенні ад яе перавезлі ў Плісу і збудавалі там клуб. Казалі старажылы, што як разбіралі храм, дык знявечыўся, стаў калекам адзін з вандалаў, што ў званіцы знайшлі рэвальвер часоў Першай сусветнай вайны, а ў аканіцы — схованку з пачкам нямецкіх акупацыйных марак.

А вось гісторык і краязнаўца Алесь Каралёў, брат знакамітага вучонага Міхася Ткачова, папраўдзе адшукаў на царковішчы некалькі напаўзакінутых магіл, а ў 1980-м — і скарб старадаўніх манет, сярод якіх была і дацкая марка 1618 года!

Царковішча пад старасвецкімі ліпамі здавён ёсць месцам намоленым, а праз тое застаецца не толькі адным з месцаў супакаення, але і месцам прыцягальнай, спакойлівай сілы. Сцяжына паўз яе даўно не вядзе да храма з крыжом, затое доўга прыводзіла да чыгуначнага вакзала і да храмаў дзіцячых цудаў — да дзіцячай бібліятэкі, што месцілася ў колішнім доме святара, і да вельмі папулярнага, а немалы час і адзінага кінатэатра «Юнацтва».

Неверагодна, але бярвенні ад колішняга храма вярнуліся ў Жодзіна. Іх паводле легенды нібыта нельга спаліць, а належыць закапаць, пахаваць нібыта наўцоў.

Мімаволі згадваецца на царковішчы, асабліва ў трагічныя дні нашай гісторыі, і абраз «Маці Божая ахвяраў Чарнобыля», напісаны Алесем МаRам і асвечаны святарамі розных канфесій на сталічнай плошчы Свабоды, бо месціцца ён сёння ў цэнтры іканастаса жодзінскай Свята-Архангела-Міхайлаўскай царквы, што адрадзілася пры старых могілках.

### Вадасховішча

Вадасховішча на Плісе ўтварылася, калі напачатку 50-х гадоў збудавалі колішнюю Смалявіцку ДРЭС, і заўсёды аказвала на жодзінцаў магічны, прыцягальны, магнетычны ўплыў.

Усё лета можна было купацца, катацца на лодках, здабываць аер, вадзяны арэх ці лілеі, праседжваць на беразе з вудамі або з эцюднікам...

Нават узімку ў лепшыя гады вадасховішча не замярзала, бо проста ў рэчку праз берагавую насосную з цыркуляцыйнымі вадаводамі, якія ў прастамоўі зваліся «брызгалкай» і «бурлілкай», інжынеры-«чарадзеі» надумаліся скідаць адпрацаваную пару і гарачую ваду!

Цяпло даўно ўжо ашчаджаюць, і электрастанцыя цяпер завецца Жодзінскай цеплаэлектрацэнтраллю. «Брызгалка» з яе абсалютна ўнікальнай сістэмаю труб ужо колькі гадоў як парэзаная на металалом. Разабраныя драўляны басейн, дзе трэніраваліся плыўцы і ватэрпалісты, а таксама агароджа «жаботніка», а гарадскі пляж выдае малалюдным нават у спякотныя дні.

Дый і ўсё вадасховішча не выглядае цяпер ажыўленым і гаманкім, як было гэта даўней.

Прыняты драконаўскія законы, паводле якіх нават гумовую надзіманую лодку трэба рэгістраваць, а дзеля гэтага везці яе ажно ў Барысаў! Таму ні папулярных колісь прагулачных лодак, ні нават пласкадонак з рыбалоўцамі на рацэ не згледзіш.

Ажыўляецца роўнядзь толькі тады, калі спраўджваюцца дзіцячыя гульні ў індзейцаў, калі выбіраюцца трэніравацца спартоўцы адной з наймацнейшых у краіне вяслярскіх школ — байдарачнікі і канаісты, якіх суправаджае часам і трэнерская маторка.

Затое не губляе сваёй вабнай, крыху жудаснай красы і вадаспад пры плаціне, які разбіваецца ў пырскі пад мостам, па-ранейшаму, хоць і закутая ў бетон, бруіць непадалёк крыніца вадою неверагоднай смакаты.

*29 ліпеня 2014 года*

**Фота Уладзіміра Сіўчыкава**



# Наста Кудасава

паэтка. Аўтар кніг паэзіі: «Лісце маіх рук», «Рыбы». Скончыла філалагічны факультэт і магістратуру БДУ. Нарадзілася ў 1984 годзе ў Рагачове. Жыве ў вёсцы Варонча на Гарадзеншчыне.

# Як просіцца з сэрца...

***У «лісці яе рук» жывуць дзівосныя птушка-рыбы. Яе паэтычныя шляхі — біблейскія рэкі. Вуснам яе цесна вясной... А размаўляць яна прывыкла «пчаліным голасам» на «кветкавай мове». Цела яе — цеціва напятая, а душа — у парэзах здрады... Яна любіць і піць, і жыць на брудэршафт з лёсам... А марыць: «Дняпром шматрадковым разліцца» на старонках новай кнігі. Наша гутарка з маладой таленавітай паэткай Настай Кудасавай.***

**Верасень:** — *Скажыце, калі ласка, Наста, кім вы сябе на дадзены момант адчуваеце — паэткай, жанчынай, маці?..*

**Наста Кудасава**: — Усё адразу, падзяленне на іпастасі мне даецца з цяжкасцю. Я нават раздражняюся, калі ўва мне бачаць адасоблена толькі жанчыну ці толькі маці, напрыклад.

**В.** — *Вашы любімыя паэтычныя тэмы — гэта...*

**Н. К.** — Не люблю, калі ў паэзію трапляюць публіцыстыка ці маралізатарства. Астатняе прымаю ўсё. Галоўнае — шчырасць. Сама ж я тэму для верша свядома не абіраю ніколі, гэта проста маё інтуітыўнае штодзённае быццё.

**В.** — *Аднойчы вы сказалі, што «паэзія ствараецца насуперак жыццю...» Што гэта значыць?*

**Н. К.** — Адразу папярэджу, што я вельмі жыццялюбівы чалавек, таму тут ніякага дэпрэсіўнага сэнсу я не мела наўвеце. Проста чалавека кожны дзень клічуць нейкія больш «важныя» заняткі, чым выношванне і напісанне вершаў. Пытанне ў тым, што лічыць прыярытэтным для сябе. Пісаць насуперак жыццю — гэта значыць пісаць насуперак усім тым рэчам і людзям, якія сцвярджаюць, што твая паэзія нікому не патрэбная, ці не прыносіць грошай, што трэба заняцца чымсьці больш значным, карысным, прагматычным.

**В.** — *Якое, на вашу думку, галоўнае прызначэнне жанчыны?*

**Н. К.** — Такое ж, як і галоўнае прызначэнне мужчыны, — шчыра і годна пражыць сваё жыццё. Калі звяртацца да стэрэатыпных жаночых роляў, то безумоўна быць маці — для мяне найвялікшая каштоўнасць і цуд, але я не хацела б абагульняць, кожная жанчына мае права на свае ўласныя прыярытэты.

**В.** — *Што прыемней: быць цяжарнай новым вершам ці новым жыццём?*

**Н. К.** — Вельмі падобнае адчуванне. І гэта аднолькава хвалюе, здзіўляе і надае сэнсу жыць. Але ўсё ж такі вершы выношваць не настолькі адказна, можна заўжды выйсці з гульні, з жывымі людзьмі так немагчыма...

**В.** — *Дзе для вас пачынаецца паэзія?*

**Н. К.** — Яна нідзе і не заканчваецца. Гэта тое паветра, якім я дыхаю. Паэзія — гэта ж не род і не жанр нейкі літаратурны. Як па мне, гэта асаблівасць светаўспрымання. Яна, калі ёсць у чалавеку, то ёсць заўсёды, гэтаму немаг-

чыма навучыцца, паэтам немагчыма перастаць быць, і тут справа не ў інтэнсіўнасці вершаскладання.

**В.** — *Ці можна назваць каханне — паэзіяй? І наадварот?*

**Н. К.** — Каханне — вельмі паэтычная з'ява і вельмі натхняльная, але такая чалавечая... Паэзія ўсё ж — штосьці нашмат большае, хаця і нагэтулькі ж невытлумачальнае.

**В.** — *Што для вас «незваротная нота» ў каханні?*

**Н. К.** — Той цудоўны і крыху страшны момант, калі адчуваеш, што з гэтай мінуты ўжо ніколі не будзеш ранейшым, што ў тваім жыцці адбылося штосьці лёсавызначальнае і дарогі назад няма... У кожнай гісторыі кахання ёсць свая незваротная нота, тут немагчыма даць адно тлумачэнне, якое падыходзіла б усім.

**В.** — *Вы маці двух цудоўных дзетак — Ягоркі і Марыі. Пасля іх народзін, ці сталі з'яўляцца дзіцячыя вершы?*

**Н. К.** — Пакуль што не, але мне хочацца, каб яны з'явіліся. Па-мойму, дзеці бліжэй за ўсіх стаяць да паэзіі як ёсць, да самага чыстага яе праяўлення.

**В.** — *Па адукацыі — вы рускі філолаг. Чым для вас з'яўляецца беларуская мова? Мовай паэзіі, сям'і, жыцця?*

**Н. К.** — Мовай паэзіі, мовай патаемнага, мовай маіх інтымных стасункаў з сусветам і Богам. У штодзённым жа жыцці я аднолькава карыстаюся і рускай, і беларускай мовай у залежнасці ад сітуацыі, і ўжо прызвычаілася не адчуваць у гэтым супярэчнасці, бо рускую мову таксама люблю і шаную.

**В.** — *Ваш муж — прафесійны мастак. Не цесна двум творцам пад адным дахам?*

**Н. К.** — Муж не прафесійны мастак, а мастак, хутчэй, паводле светаадчування, але працуе і жыве ў сферы мастацтва. Мы як розныя слаі атмасферы — не перасякаемся. Кожны жыве на сваёй хвалі, неяк мы прыйшлі паступова да такога кампраміснага неўмяшальніцтва, бо іначай было б невыносна цесна, сапраўды.

**В.** — *Ці збылася вашая мара аб «доме з потам і бытам»?*

**Н. К.** — Так, збылася напоўніцу, і гэта мне дало вельмі шмат. Кожны дзень я вучуся самадысцыпліне, адказнасці і ўмельству існаваць адначасова ў розных праявах.

**В.** — *Ваша творчая стыхія — гарадскі шторм ці вясковы штыль?*

**Н. К.** — У творчасці я пераважна трымаюся стыхіі негарадской, раслiннай, жывёльнай... Хаця ў жыцці я амбівалентная натура і мне вельмі важная разнастайнасць, мажлівасць чаргаваць вясковую няспешнасць і гарадскую вірлівасць, бо іначай я страшэнна сумую, калі доўга заседжваюся на адным месцы.

**В.** — *У кухарстве вы гэткая ж непрадказальная, як і ў паэзіі? Назавіце свае кулінарныя шэдэўры...*

**Н. К.** — Не, у кухарстве я даволі аднастайная, для мяне — гэта працэс чыста побытавай неабходнасці. Была б мая воля, я б харчавалася якой садаві-

най-гароднінай і ні пра што не клапацілася, але дзеля сям'і даводзіцца часам прыдумляць штосьці новае. Пра шэдэўры казаць баюся, проста ёсць тое, што я люблю гатаваць больш за ўсё — напрыклад, пячы бліны.

**В. —** *Ваша паэзія прывязаная да пораў года? Калі вам лепш пішацца?*

**Н. К. —** Нядаўна ўбачыла першы жоўты лісток і ўнутры як быццам хваля нейкая захлынула... Я вельмі люблю восень за шчырасць памірання. Вясна таксама мне даспадобы за дынаміку, за цуд нараджэння, за надзею на новае, без якой чалавек не можа жыць. Але менавіта восень расстаўляе правільна ўсе акцэнты, нагадвае таму, хто загуляўся летам, што ўсё мінае. Бо па-сутнасці чалавечае жыццё — гэта і ёсць штодзённае паміранне, я не як песіміст гэта кажу, наадварот — гэтае адчуванне штодзённага сыходу і ёсць тая хваля, што падступае да горла шалёным захапленнем і шчасцем быць — тут і цяпер. Таму восень для мяне заўжды самая натхняльная пара года.

**В. —** *Літаратурныя крытыкі схільны бачыць вашу паэзію паміж «мэнстрымам» і класікай... Мне ж здаецца, што хвароба «стылезмяшання» — гэта абсалютна не ваш паэтычны дыягназ. Скажыце колькі слоў пра свае творчыя прыярытэты...*

*З Таццянай Светашовай*





**Н. К.** — Ніколі не задумвалася над гэтым. Усё неяк бессвядома адбываецца, стыхійна. Мне ўсё роўна, як мяне назавуць крытыкі, і я ніколі не баялася быць да кагосьці падобнай у творчасці, галоўнае, рабіць сваю справу шчыра, так, як просіцца з сэрца.

**В.** — *Не сакрэт, што многія маладыя паэты сёння ў сваіх творах ужываюць так званую ненарматыўную лексіку. Як вы лічыце, што гэта — даніна часу, модзе, імкненне да літэпатажу ці адсутнасць паэтычнага густу?*

**Н. К.** — Я не маю нічога супраць. Але, па шчырасці, вельмі рэдка можна сустрэць верш, дзе ненарматыўная лексіка гучала б арганічна. Часцей за ўсё гэта чапляе слых і падаецца эпатажам, жаданнем вылучыцца. Магчыма я памыляюся. Але сама я пакуль што заўжды магла знайсці іншыя словы для самавыражэння, якія мне падаюцца больш глыбокімі, тонкімі і цікавымі, чым ненарматыўныя. Час усё паставіць на свае месцы. Дарэчы, у прозе сітуацыя зусім іншая, там я цалкам прымаю любую лексіку, але ж проза — выспа зусім іншага кшталту, якая паэзіі не радня.

**В.** — *«Цябененамацвальная далячынь» , «ягадная моўч», «бездарогая пушча» і г. д — гэта вашыя аўтарскія навасловы. Ужыванне ў вершах лексічных наватвораў для вас — самамэта, стыхійны працэс ці натуральная з'ява?*

**Н. К.** — Самамэта — гэта несур'ёзна, я такім не займаюся. Важна, каб гэта быў натуральны працэс. Так што я стараюся выкарыстоўваць наватворы ў крайнім выпадку, калі гэта сапраўды адзіна магчымы варыянт для перадачы сэнсу. Да таго ж я не бачу ў маіх словах нічога вельмі новага, усё гэта даволі

празрыста, як мне падаецца, і патэнцыйна ў нашай мове можа быць, бо не супярэчыць ейным агульным законам.

**В.** — *Каго з сучасных беларускіх паэтаў вы лічыце сваёй «раднёй па духу»?*

**Н. К.** — Проста любых мне і цікавых паэтаў многа. Ажно складана пералічыць, але яны ўсе вельмі розныя і кожны са сваёй манерай, а роднага мне, менавіта роднага па духу... Здаецца, я ўсё яшчэ яго чакаю.

**В.** — *Якую музыку вы любіце слухаць? Ці спрабавалі вы сябе ў жанры песні?*

**Н. К.** — Я шалёна люблю музыку, самых розных жанраў. І спяваць вельмі люблю, але ўсур'ёз гэтым заняцца так і не атрымалася, а цяпер ужо і часу няма, хаця мара такая ёсць. У дзяцінстве я заўсёды выступала з песнямі, дзе толькі можна, праўда сама так і не напісала ніводнай.

**В.** — *Хто з айчынных выканаўцаў вам даспадобы?*

**Н. К.** — «Троіца», Зміцер Вайцюшкевіч, Андрэй Мельнікаў, «Серебряная Свадьба» — гэта першае, што прыходзіць у галаву. А ўвогуле спіс можа працягвацца доўга...

**В.** — *Хрыстос. Алах. Буда... Ваш паэтычны Бог — шматаблічны... Хто або што з'яўляецца сімвалам вашай веры?*

**Н. К.** — Я думаю, Госпад — вельмі таленавіты і тонкі мастак, раз задумаў і стварыў нашыя культуры такімі разнастайнымі і шматаблічнымі. Усе гэтыя шляхі да Ісціны, якою Ён ёсць, усе гэтыя імёны Бога, што ёсць на свеце, — гэта, мабыць, дзеля таго, каб нам было не сумна жыць, каб стварыць нейкую інтрыгу на Зямлі. Таму я не бачу ніякай супярэчнасці ў тым, каб выкарыстоўваць то тое, то іншае найменне ці сімвал. Хаця сама я хутчэй магу назваць сябе закаханым монатэістам. Я з павагай і цікавасцю вывучаю розныя традыцыі і пісанні, але мяне ўсё ж выгадавала Біблія, усё астатняе — дапаўненні і ўдакладненні.



# Ала Петрушкевіч

паэтка, крытык, літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар паэтычнага зборніка «Пярсцёнак». Апублікавала звыш 200 навуковых прац, сярод якіх кнігі: «Іду па слядах: Літаратуразнаўчыя артыкулы, эсэ» (1997 г.), «Пра творы і творцаў: літаратурна-крытычныя артыкулы» (2002 г.), «Некаторыя старонкі беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя» (2010 г.) і інш. Нарадзілася ў 1960 годзе ў вёсцы Шчонава на Гродзеншчыне. Жыве ў Гародні.

# Уздымаючыся на вышыні

У дзяцінстве любіла кнігу Алены Ільной «Чацвёртая вышыня» пра савецкую гераіню Гулю Каралёву. Праўда, у той кнізе мне не надта было блізкім яе па-савецку ідэйна вытрыманае разуменне вяршыняў, а найперш прываблівалі мілыя прыгоды няўрымслівай дзяўчынкі, далёкі, цікавы свет, прыгожыя фотаздымкі. У мяне, вясковай беларускі, былі іншыя вышыні, натуральныя, зразумелыя...

## Шчонаўская вышыня

Мая родная вёска Шчонава хораша прытулілася між двух ланцугоў праўдзівых гораў, схілу Наваградскага ўзвышша. А наша хата, мая равесніца, стаяла якраз насупраць дарогі, што спускалася з гары. Гэта і была мая першая вышыня. Глядзела на яе знізу ўверх і падавалася сабе такой маленькай, бо наперадзе толькі гара і дарога. Цяжкая як для маіх маленькіх ног. Але не памятаю, каб хоць калі павярнула я назад. Сілы падымацца ўсё вышэй даваў мне мой ужо набыты жыццёвы досвед: ведала, што даволі стромы пад'ём хутка закончыцца. Можна будзе перадыхнуць на роўнай дарозе на вяршыні гары, азірнуцца. Карціна, што адкрывалася, здавалася мне такой вялікай, як увесь свет. Бо там было ўсё Шчонава, рэчка за вёскай, лугі абапал яе, лес з левага боку, калгасны двор: стайня, кароўнікі, кузня, сушылка, дзе трапалі лён. І маленькія-маленькія людзі ўнізе. Усё гэта акаймоўвалася другой гарой, насупраць той, на якой я стаяла. У тыя хвілі я ўжо не была маленькай і стомленай, а вялікай, дужай і лёгкай, бо стаяла вышэй не толькі за ўсіх людзей, за ўсе дрэвы і за старую ліпу каля Грышкавых, але за ўсе хаты і нават за школу. Бо ногі ўжо адпачылі, пакуль глядзела на ўсё гэта. Бо далей ісці было лёгка: дарога спускалася з гары, калі ўжо можна было бегчы, пакінуўшы яе, па сцяжыне, праз поле да бабулінага хутара. А яшчэ, стоячы над маленькай вёскай, я глядзела на неба, якое было ўсё роўна вельмі далёка. Але ўсё ж бліжэй, чым там, унізе. Здаецца, ужо ведала, што такое далягляд, яго лінія, бо ў школу хадзіла колькі сябе памятаю. А там пра гэта расказвала настаўніца, мая мама Барэйка Валянціна Пятроўна.

І мама, і бацька, ды і большасць тых шчонаўцаў, што жылі ў вёсцы ў маім дзяцінстве, ужо ўзняліся на тую вяршыню. Каб застацца там назаўсёды. Бо, як гэта звычайна бывае ў нашых вёсках, могілкі размясціліся на самым высокім месцы, на той маёй гары. З аднаго боку, недарэчна і смутна, бо — мёртвае над жывым. З другога, зразумела і лагічна: вечнае над штодзённым.

## Антанёўская вышыня

А вось Антанёва, бабуліна вёска, радзіма маёй мамы, схавалася ў Налібоцкай пушчы. Яна размясцілася на вялікай паляне між лесу. І ніякіх гораў, і нават узгоркаў... Але і тут я здолела задаволіць сваю прагу вышыні.

Весніцы, што выводзілі на вясковую вуліцу, трымаліся на вельмі шырокім (сантыметраў сорак) і высокім (метра паўтара) квадратным шуле. А калі ўлічыць, што дарога, убітая праз стагоддзі людскімі нагамі, жывёлай, вазамі, тады яшчэ частымі грузавымі машынамі, знаходзілася з паўметра ніжэй ад узроўню нашага двара, то тое шула ўздымалася вельмі высока. Залазіла на яго і гадзінамі праседжвала, назіраючы зверху за тым, што рабілася на вуліцы. Ішлі людзі, цягнуліся з лесу напасвеныя кароўкі, імчаў табун коней, якія ніколі не стамляліся, хоць працаваць ім, бедным, даводзілася шмат. Мне было шкада, калі коні ішлі спутаныя. Ім было вельмі цяжка. Даводзілася скакаць, адначасна падымаючы пярэднія ногі. Іх путалі, каб лягчэй было пасвіць. Коні былі калгасныя.

Маленькая дзяўчынка, жывы помнік майго антанёўскага мінулага, сядзела на сваім шуле, нібы на гняздзе, падабраўшы пад сябе ногі, каб не звісалі, каб ніхто не ўбачыў. І ніхто ніколі не ўгледзеў яе, бо людзі ішлі, не падымаючы галавы, звычайна гледзячы сабе пад ногі. Ішлі даяркі на ферму даіць (уручную) кароў, ішлі мужчыны на калгасны двор, ішлі ў краму і з крамы. Праўда, у краму хадзілі не так і часта. Не ведаю, якімі былі заробкі ў антанёўцаў, а вось пенсія ў бабулі і дзеда была па 12 рублёў. Зрэшты, якімі заробкі ні былі, іх ніхто траціць не збіраўся, як і пенсію. Ашчаджалі, збіралі, клалі на кніжку...

Бачу з сваёй вышыні, як выходзіць з двара цётка Галя, мама Брыганавай Каці, маёй аднагодкі. Яна таксама даярка. Ідзе на абедннюю дойку. Ідзе проста на мяне. І цяпер бачу, як прыгожа яна ідзе... Горача. Кульмінацыя лета. Жанчына вырашыла зняць з сябе ўсё магчымае, бо жара невыносная. На ёй чорная, крыху ніжэй за калена, спадніца, што хораша аблягае статную фігуру, безумоўна, бюстгалтар (у нас казалі «станік»), памеру мо якога пятага, і вельмі прыгожая, ружовая, уся ў карунках, камбінацыя. Багатая каса, укладзеная вакол галавы. І такая яна мне прыгожая, як з нейкай карціны, якую я ніколі не бачыла. Сказала пасля бабулі, што мама Кацiна вельмі прыгожая. Бабуля на тое адказала: «Прыгожая, бо маладая», што мяне вельмі здзівіла: як гэта цётка Галя — маладая? Было ёй тады гадоў трыццаць...

## Райцаўская вышыня

Ужо само мястэчка Райца для мяне было і засталося недасяжнай вяршыняй. За нейкія тры кіламетры ад майго Шчонава, яно падавалася мне далёкім і вельмі вялікім і значным, бо там былі дзве крамы, клуб, кантора, сельсавет, пошта, сярэдняя школа, куды ішлі дзеці з усіх прылеглых вёсак па сканчэнні сваіх пачатковых. Таямнічым, бо над усёй прасторай мястэчка змрочна навісалі разваліны велічнай колісь царквы, а бальніца месцілася ў старасвецкім парку ў будынку колішняга маёнтка, у якім мяне найбольш уражвалі калоны, драўляныя сходні, па якіх трэба было падымацца на другі паверх, каб трапіць у стаматалагічны кабінет, і брукаванка насупроць галоўнага ўваходу. Ды і сама назва мястэчка (зразумела, што лейтматывам у ёй гучала — рай), таксама вабіла сваёй нетутэйшасцю, незямной светласцю.



*«Райца». Малюнак Н. Орды.*

Шмат захавала дзіцячая памяць аб тых паходах-паездках са Шчонава ў Райцу. Бо ўсе яны былі звязаныя з цікавымі падзеямі: наведванне навагодніх ранішнікаў, дзе нам, чужым дзецям, таксама давалі падарункі, ускладанне да помніка Мікалаю Гастэлу вянкоў да Дня Перамогі, якія мы, школьнікі разам з настаўнікамі, плялі з дзеразы і ўпрыгожвалі жывымі кветкамі, уступленне ў акцябраты, у піянеры, канцэрты і спектаклі ў парку і ў клубе, куды запрашаліся і менскія тэатры. Але ўся гэтая слодыч не абышлася без лыжкі дзёгцю. Аднойчы мама дазволіла мне з сяброўкамі пайсці ў райчанскую краму. Купілі цукерак, па бутэльцы газіроўкі. Ідзем праз парк, несучы ўсё гэта ў руках. І раптам з кустоў выскокваюць нейкія хлопцы, хапаюць з маіх рук тую газіроўку і гэтак жа імгненна знікаюць. Маёй роспачы і крыўдзе не было межаў...

Райцаўскую вышыню асвоіла ў вельмі прыгожым веку. У юнацтве, у дзявятым класе, калі жыла на кватэры ў бабулі Лушы якраз каля той таямнічай царквы. Мой сябра, аднакласнік Коля Ждан паказаў напалову знішчаны ход-пад'ём, вінтавую лесвіцу на званіцу разбуранага храма. Там, на ўзвышшы метраў дваццаці, была невялікая пляцоўка, дзе аднаму чалавеку можна было даволі ўтульна размясціцца. З таго часу гэта месца стала маім улюбёным. Маёй таямніцай. Гадзінамі сядзела на той званіцы, гледзячы на райчанскія вуліцы, дарогі за вёскай, узгоркі, лес удалечыні. Там чытала кнігі, вяла дзённік. Але галоўнае — марыла. У думках была ўжо далёка, бо школьныя гады, месяцы, дні сплывалі, а наперадзе было ўсё жыццё, такое цікавае, шчаслівае, бясконцае...

Двойчы зводзіў мяне лёс з гэтым прыгожым мястэчкам. Другі раз вярнулася туды разам з мужам і дачушкай. Пяць гадоў настаўніцкай працы ў халоднай савецкай школе. Дзе не ўсё было дрэнна, але няшмат і добрага. Мне было цесна ў тых межах, лётала ў снах, але ніколі не паднялася на сваю пакінутую ў юнацтве вышыню. Сотні разоў прайшла паўз яе, памятала, што яна блізка, але штосьці невытлумачальнае не давала падысці, узысці, вярнуцца...

А нядаўна атрымала ад яшчэ аднаго сябра той юнацкай пары сённяшняга масквіча Вані Ждана копію акварэлі Напалеона Орды з выявай Райцаўскай царквы. Не пакідае мяне гэтая вышыня...



# Сяргей Панізнік

паэт, перакладчык, публіцыст, краязнаўца. Аўтар кніг паэзіі: «Кастры Купалля» (1967 г.), «Чало і век» (1979 г.), «Мацярык» (1984 г.), «Стырно» (1989 г.), «А пісар земскі...» (1994 г.), «Сустрэча роднасных сусветаў» (1997 г.) і  інш. Выдаў кнігі публіцыстыкі: «Пасля вогненных вёсак...» (1980 г.), «Браніслава» (1985 г.), «Асвейская трагедыя» (1992 г) і кнігі для дзяцей: «Адкуль вясёлка п'е ваду» (1981 г.), «Жыцень» (1986 г.), «Мы — грамацеі» (1989 г.), «Золкая зёлка» (1999 г.). Нарадзіўся ў 1942 годзе ў вёсцы Бабышкі на Міёршчыне. Жыве ў Мінску.

# Пад абярэгам Берагіні

***(Іскрынкі з Гасцявой кнігі музея ў Цінкаўцах)***

20 сакавіка 1979 года ў вёсцы Цінкаўцы, што пад Бігосавам у Верхнядзвінскім раёне, ад Канстанціна, сына бабкі Параскі, была набыта хатка пад саламянай страхой. Дзякуючы добрым людзям, а найперш майму даўняму сябру Фёдару Кудзянаву, запусцелая хатка стала пераўвасабляцца ў музейную сядзібу. Так гэты прыбераг Дзвіны стаў для мяне прыстанкам для спаўнення творчай працы — даследавання Асвейскай трагедыі. І ў выніку пошукаў з'явіліся выданні дакументальнай прозы: «Пасля вогненных вёсак...» (1980), «Браніслава» (1985), «Освейская трагедия» (1992). А музей у гонар былой гаспадыні, народжанай на Дзісеншчыне, стаў называцца так: «Хата бабкі Параскі». З пазнейшай дабаўкай, што ён знаходзіцца на «Шляху з Грэкаў у Варагі».

## «Помнікі працы» і не толькі...

Для этнаграфічнай калекцыі збіраліся «помнікі працы», для літаратурнай — кнігоўня з дарчымі надпісамі пісьменнікаў... Разлічвалася, што сядзіба будзе служыць краязнаўчым асяродкам для пазнання гістарычнага мацерыка Прыдзвіння. У Гасцявой кнізе сталі з'яўляцца ўражанні-зычэнні наведнікаў. Некаторыя запісы я і пастараюся ўзнавіць.

«Дарагая бабка Параска! Сёння ў мяне сустрэча ў тваёй хаце. Я хачу, каб табе зямля была пухам. Твая внучка Галіна Цяста. 15.УІ.1982 г.» (На памылкі не зважайце).

Наўпроць Цінкаўцаў, за Дзвіной — мястэчка Лявонпаль, дзе ў тыя часы абнаўлялі былую графскую рэзідэнцыю Лапацінскіх студэнты Мінскага інстытута культуры. «Роспіс на шчырасць» пакінуў 18.06.1982 г. выкладчык установы Рычард Саматыя. 21 ліпеня не паленаваўся ўзяць у рукі стыло Віктар Барадзіч — жыхар правага берага Дзвіны. «Бліскаўка» з наступных гадоў такая:

*Няхай кастрычнік на двары,*
*Але жыве у сэрцы казка.*
*За гэта дзякуй вам, гаспадары!*
*Сто год няхай люляе вас «Параска»!*

Вольга Іпатава пакінула такі запіс 12.X.1984 г.

А паэту Дзмітру Чэрэднічэнку з Кіева пашчасціла прыбыць на Дзвіну 16 жніўня 1985 года. У маім перакладзе з украінскай яго радкі гучаць так:

*Дзякую брату*
*за хлеб і за хату*
*і за тую Дзвіну,*
*ў якой я пабачыў*
*Беларускіх нябёс сінізну.*

*Я й Слову падзяку нясу:*
*адчуў яго сілу, красу...*
*Дзякую і прыхіляю*
*да Вашага дому я зноў*
*душу сваю і любоў.*

Калі Дзмітро заахвоціўся агледзець порт-сядзібу з боку Грэкаў, то рыжскі мастак Вячка Целеш — з боку Варагаў. Ён толькі што закончыў беларускую кругасветку: наведаў Дзісну, Лепель, Полацак, Віцебск, Оршу, Мінск... 12 ліпеня 1986 г. свой узнёслы запіс ён закончыў такімі радкамі: «Няхай «Хатка» стане сапраўдным агеньчыкам для Прыдзвіння і нясе людзям любоў да роднага краю, роднай Беларусі, да гісторыі, культуры, мовы».

З 15 да 30 траўня 1988 г. па Дзвіне-Даўгаве ад вытока да вусця праходзіла экалагічная экспедыцыя. Удзельнікі яе — пісьменнікі, вучоныя з Латвіі, Беларусі, Расіі. Уявіце: «тры народы» памясціла ў наначкі хата бабкі Параскі. Сярод начлежнікаў былі Эгілс Зырныс, Юрыс Кунас, Артурс Сніпс, Айя Лацэ, Васіль Якавенка, Іосіф Васілеўскі, Вячаслаў Вараб'ёў, Віктар Плужнікаў... За вавілонскімі падрабязнасцямі адсылаю да публікацыі Айі Лацэ «З грэкаў у варагі», змешчанай мною ў кнізе «Крывіцкія руны» (2013).

## Віцieватыя віцii

Развітацца з 80-мі гадамі дапаможа Гасцявая кніга, дзе пакінуў запіс львоўскі паэт Уладзімір Лучук. Маіх даўніх сяброў Уладзіміра і яго жонку Аксану Сенатовіч я спачатку азнаёміў з Лявонпалем (Лапацінскія і на Валыні жылі), а потым мая сям'я частавала іх у Цінкаўцах. Вось «Вітальная віція» Уладзіміра Лучука. Верш я пераклаў, адзначаючы 80-годдзе з дня нараджэння аўтара (27.8.1934—24.9.1992).

*Шчаслівая вяла нас доля*
*З лявонпальскага прыволля.*
*У хаце бабулькі Параскі*
*Пазналі мы промнікі ласкі.*
*Штовечара шчыра суседзі*
*Гасціліся ў нас на бяседзе.*
*І гаспадару Сэргію*
*Сардэчна спяваем віцію:*
*— Хай з хаты бабулькі Параскі*
*Узносяцца чары, як з казкі, —*
*Каб Люда, твая дружына,*
*Цвіла як у лузе каліна,*
*А донечка Веранічка*
*Прыгожай расла, як сунічка!*

А што пакінулі нам 90-я гады мінулага Тысячагоддзя? Смела скажу, што Антон Бубала — мой суаўтар па тэме Асвейскай трагедыі. Але ў вершах, пры-

свечаных цінкаўскаму музею, ён неператузыдзены гумарыст. Вось урывак з яго «кайфа» :

*Гляджу на маціцу я закапцелую,*
*Патыліцу скрабу я успацелую,*
*Бо полымя ў каміне аж гудзе...*
*А за сталом бяседайка ідзе!*

«У Цінкаўцах гуляюць менчукі!» — асцярожнічае «тутэйшы» Антон. І не дарма. Паверце. «Гэтую памятку я пішу 18 лютага 1993 года ў 18.00. Хацелася б, каб у гэтай хаце пісаліся класічныя творы як паэзіі, так, прабачце, і класічная музыка кампазітара Чыркуна А. М.». Тое што і ў класах выконваліся нашы з Алегам Чыркуном песні «Ад Полацка да Турава», «Пад зоркаю», «Карагод», — чыстая праўда.

Пад уначаванай маціцай уразіў Антона і яшчэ адзін госць — паэт, журналіст Алесь Касцень. З ім я служыў у 120-й славутай дывізіі ва Уруччы. Быў на яго вяселлі ў Паставах 28.08.1976 г. У Гасцявой кнізе Алесь пакінуў такія радкі:

*Па Мядзелцы маёй, далей па Бірвіце*
*Чаўны з-пад нарачанскіх соснаў вырвуцца*
*На хвалі хуткаплыннае Дзісны,*
*І далей да Заходняе Дзвіны.*
*Тут я да берагу прыстану правага,*
*Гаспадара вітаючы рухавага*
*У хаце, дзе Параска векавала*
*І, лёзная, святло нам даравала...*

Лёзным быў і аўтар «Зруба», «Каменьчыкаў у кірзавым боце» — Алесь Касцень (23.04.1955 — 17.09.2009).

1993 год аказаўся багатым на прызнанні. Вось радкі Уладзіміра Яфімавіча Якаўлева, намесніка старшыні Верхнядзвінскага выканкама ад 3 ліпеня (перапісваю без перакладу!): «Вялікі дзякуй, што Вы ёсць. Поспехаў Вам, паважаны Сяргей Сцяпанавіч!». Крыху пазней У.Я. Якаўлеў падпісаў падрыхтаваны для вышэйшага начальства тэкст «Характарыстыкі» з такімі словамі: «С.С. Панізнік доўгія гады аддана служыць Віцебшчыне, Прыдзвінню, Верхнядзвіншчыне. У вёсцы Цінкаўцы Бігосаўскага сельсавета знаходзіцца яго «Хата бабкі Параскі», або літаратурная сядзіба «На шляху з Грэкаў у Варагі», якая з'яўляецца сапраўдным музеем помнікаў сялянскай працы мінулых часоў...

С. С. Панізнік — нястомны падзвіжнік, энтузіяст, чалавек вялікіх творчых магчымасцяў. Ён аддана і бескарысна служыць культуры нашага раёна».

Гэта дырэктар Цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Верхнядзвінскага раёна Валянціна Іосіфаўна Крук, якая паспрыяла дзейнасці музея, магла ведаць усе падрабязнасці маіх творчых высілкаў. А вось што «з налёту, з павароту» змог зафіксаваць Лявон Баршчэўскі? Гасцявая кніга сведчыць пра не абы-які талент пісара, і не толькі земскага:

*Які тут слаўны каларыт:*
*І пах, і водар наскі!*
*Панізнік — творца й барацьбіт —*
*У хаце у Параскі!*
*Усё — спрадвечнае, як свет,*
*Усё — як песня матчына.*
*Усё грунтоўна і як след*
*Слядком вякоў пазначана!*

9 жніўня 1993 г. да клічнікаў Лявона і Навум Гальпяровіч далучыў свае паэтычныя клічнікі:

*Не! Нашай мовы дух не знікне*
*І ўжо не счэзне спакваля,*
*Калі ў нас ёсць Сяргей Панізнік*
*І ёсць прыдзвінская зямля!*

Затое ўдумлівымі празаічнымі радкамі «засвяціўся» ў Гасцявой кнізе вучоны муж Пятро Васючэнка.

У чэрвені 1996 г. мы ў Полацку ўспаміналі Янку Купалу. Потым на станцыі Баравуха, дзе служыў Ян Дамінікавіч у 1916 г., адкрывалі мемарыяльную дошку. Ушанаваўшы ваяра, адправіліся ўніз па цячэнні Дзвіны. Я запрасіў калегаў — супрацоўнікаў Літаратурнага музея Янкі Купалы Антаніну Хатэнка, Фаіну Ваданосаву наведаць Цінкаўцы. Далучыліся Мікалай Ільніцкі, Галіна Ладзісава, Алесь Аркуш. «Некаторыя экспанаты музея без перабольшання бясцэнныя»,—так аформіла агульнае меркаванне Валянціна Кудлацкая ў віцебскай газеце «Народнае слова» (№62. 6.06.1996 г.)


КОНЬ
НЕЗАЦУГЛЯНЫ




Забягу наперад. Тая ж газета (№78. 29.06.2004) змясціла мой допіс пра цінкаўскі музей і здымак , на якім ля Хаты бабкі Параскі стаяць Антон Бубала, Генадзь Бураўкін, Валянціна Кудлацкая, Навум Гальпяровіч, Валянцін Блакіт і я. Ад той сустрэчы застаўся надпіс на кнізе «Конь незацугляны»: «Слаўнаму і любімаму Сяргею Панізніку — у хаце бабкі Параскі. З нізкім паклонам Генадзь Бураўкін. 10.УІ.1998 г.»

На «Шлях з Грэкаў у Варагі» траплялі таксама кнігі з подпісамі ад А. Пісьмянкова, С. Законнікава, А. Аркуша, Н. Гальпяровіча, П. Ламана, А. Мальдзіса, Л. Хмяльніцкай, І. Жарнасек, Ф. Сіўко, П. Васючэнкі... Уладзімір Скарынкін на зборнікау «Лосвіда» пакінуў такія радкі:

*Тым, хто вандруе «з грэкаў у варагі»,*
*Няўрымслівасці зычу і адвагі.*

22 чэрвеня 1997 г. паўтары старонкі Гасцявой кнігі запоўнілі ўражанні настаўніцы з Верхнядзвінска Дубіловіч Раісы Георгіеўны. А 24 чэрвеня ў Цінкаўцах гасцявалі сябры «Клуба цікавых сустрэч» пры ЦБС Верхнядзвінскага раёна. Сваю ўдзячнасць «... за тыя прыемныя гадзіны, што Вы сёння падарылі нам», выказалі мне Валянціна Кудлацкая, Валянціна Крук, Валерый Салаўёў... Зноў перачытваю іх зычэнні: «І хай доўга-доўга стаіць хатка бабкі Параскі».

7 жніўня 1997 г. трапяткое лірычнае эсэ пакінула ў кнізе Таццяна Кузьміч, рэдактар аддзела абласной газеты «Віцебскі рабочы». Падзякавала «...за навуку і цудоўную вандроўку ў мінулае, за памяць аб чужым жыцці (а, можа, нашым?!)». Праз тры дні я сустракаў ледзі і джэнтэльменаў з Дрысы — Чаславу Петрашкевіч, Эдуарда Зубрыцкага, Уладзіслава Харахардзіна. У архіве «Хаба-Па» можна адшукаць і вершы Чаславы, а датай 10.08.97 г. пазначаны такія яе радкі: «... пакуль і мы можам дакрануцца да гэтай даўніны вачамі, рукамі, сэрцам — мы жывём, мы адчуваем сваю годнасць, мы — беларусы!»

Час чытае новыя старонкі жыцця. А я — старонкі Гасцявой кнігі: «Мы, вучні і настаўнікі Балінскай пачатковай школы 26 верасня 1998 года пабылі ў Хатцы бабкі Параскі. Вельмі ўражаны...» І ніжэй 18 подпісаў тых, хто пабачыў тут «шмат цікавага». У той жа дзень пакінула свой запіс і госця з далёкай Масквы — дачка

народжанага ў Сібіры Сяргея Сартакова. Маці рускага пісьменніка нарадзілася каля Сар'і. І пасля сталыпінскага перасялення захавала айчынную памяць. Ці не таму Сартакоў пры сустрэчы з Максімам Танкам хваліўся, што ён «крышачку беларус». Вось чаму паслаў сваю дачку пазнаёміцца з радаводнымі вытокамі. А ў Цінкаўцах Таццяна Сяргееўна пакінула запіс пра тое, як яе ўразіў чароўны, непаўторны, незабыўны музей — Хата бабкі Параскі. Апошнія радкі звіняць так: «Именно здесь я почувствовала душу народа белорусского. О возрождении национальной культуры сейчас говорят и говорят многие. Вы — делаете!»

План работы літаратурна-этнаграфічнага музея на 1999 год быў багаты. Паспрабую «праясніць» некаторыя старонкі. 18 красавіка ў Бігосаўскім Доме культуры прайшоў літаратурны вечар, прысвечаны 20-годдзю заснавання музея. У гэты ж дзень мяне парадавалі вясёлыя наведнікі з Расіцы. Пішу з націскам на другім складзе, бо так вучыў Антон Бубала:

*Паспеў ты зрадніцца з пакутнай зямліцай,*
*Дзе Дрыса з Асвеяй, ды Сар'я з Расіцай...*

20.04. пакінула аўтографы «моладзь з Бігосава». А 21.04. — палачане: старшыня Полацкага гістарычнага клуба «Вытокі» Міхась Баўтовіч, манах манастыра Св. Барыса і Глеба брат Юрась Камлыга. Абнародую такія зычэнні Уладзіміра Губскага: «Хай Госпад наш Ісус Хрыстос і Найсвяцейшая Маці наша Багародзіца заўсёды апякуюцца Вашым музеем!».

Выказаў я падзяку і палачанам, і былому вязню Саласпілскага канцлагера Вячаславу Марозу з в. Марозы, які прысылаў мне з Латвіі, дзе застаўся жыць, свае горкія ўспаміны.

«Не грэкі, не варагі — але ж і мы на чаўне прыехалі. Хай Бог ахіне цудоўны куток, які адкрывае дарогу ў шырокі свет». А подпісы пад пажаданнямі такія: «Крысціна, Барбара і Валодзя: усе — Пучынскія-Пірагі з берага лявонпаль-

*Дароўныя надпісы.*


Сергієві Панізнику,
моєму білоруському
братові з любов'ю
од першого погляду
і з великою надією
на завтрашній день
твоєї і моєї
Білорусії —
Д. Павличко
Минськ 8 VII 68.

скага. 24.VII.99». А папраўдзе яны — з берага свіслацкага. Прыйшлося мне выступіць на навукова-краязнаўчай канферэнцыі, прысвечанай радаводу Лапацінскіх (Сар'я — Лявонпаль, 28—29.05.). А летам 1999 г. у Верхнядзвінску праходзіла 1-е рэгіянальнае свята мастацтваў Прыдзвіння «Дзвіна — Двина — Daugava». На канферэнцыі выступіў разам з Н. Сулецкай, С. Дзядзінкінай, А. Сухаравым, А. Бубалам, В. Ермалёнкам, А. Сухарукавым... А ў сваім музеі «насыціў» экспанатамі выставу, прысвечаную Янісу Райнісу: паспрыяла гэтаму праца вучоным сакратарам Літаратурнага музея Янкі Купалы.

У 1999 г. Калегія ўпраўлення культуры Віцебскага аблвыканкама прысвоіла званне «народны» музею-сядзібе «Хата бабкі Параскі Цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Верхнядзвінскага раёна» — за дасягненні па набыцці і захаванні гісторыка-культурнай спадчыны. Дакумент падпісалі М. П. Пашынскі, А. Л. Бераснеў. А ўсе хадайніцкія клопаты ўзяла на сябе дырэктар ЦБС В. І. Крук. Я за гэта Валянціне Іосіфаўне ўдзячны па сённяшні дзень.

## Першыя сустрэчы года двухтысячнага

У пачатку красавіка 2000 года я быў запрошаны ў Шайцераўскую школу на літаратурную вечарыну, прысвечаную творчасці земляка Тараса Хадкевіча. Адтуль у Цінкаўцы ніхто не трапіў, затое 3 красавіка Гасцявая кніга папоўнілася каштоўным запісам: «Тое, што мы пабачылі ў гэтай цудоўнай хаце, у гэтым Музеі, варта нашых самых дарагіх беларускіх святыняў!!! Тут жыве душа Беларусі, асвечаная любоўю і плёнам гэтай любові, вялікім плёнам! Вечна жыць гэтаму жывому Дому!

Галіна Дзягілева (Беларускі паэтычны тэатр «Зьніч»)».

Ніжэй — подпісы ўсіх задзейнічаных у гэтай творчай групе, з якой я выступаў і ў Валынцах, і ў Каханавічах. На здымку ў раённай газеце відаць, як я на сцэне ўручаю Галіне Дзягілевай букецік цінкаўскіх пралесак. У Гасцявой кнізе знайшоў радкі пра гэтыя кветкі:

*Хай цугам едуць, чарадой ідуць*
*Тутэйшыя, прымежнікі й замежнікі*
*У тую хатку, дзе ў двары цвітуць*
*Чысцютка-белыя цнатлівыя падснежнікі!*

Хто аўтар гэтых вясенніх радкоў — невядома. Бубала не прызнаўся...

У траўні 2001 г. пакінулі аўтографы ўдзельнікі 2-й экспедыцыі па Дзвіне-Даўгаве (капітан Ю. Копасаў з Даўгаўпілса). А 17 чэрвеня Цінкаўцы наведалі Людміла Хмяльніцкая з Віцебска і Вітаўт Ермалёнак з Мёраў — даследнікі роду Лапацінскіх. Ёсць у мяне здымак, дзе побач з імі стаіць сям'я Лапацінскіх з Сігулды. Вазіў я латыша Рыхарда ў Лявонпаль, каб ён узяў жменьку зямелькі з-пад сцен палаца беларускага Лапацінскага.

Многія старонкі Гасцявой кнігі трэба перакладаць: тэксты напісаны на англійскай, нямецкай, латышскай, літоўскай мовах. Затое японец Косіно Го сам

пераклаў уласнае пасланне на рускую і беларускую мовы. Аж захацелася выгукнуць: «Не спалі плот, паліглот!»

А вось такія дівосныя радкі і перакладаць не варта: «Мы, Вокально-хореографический Ансабль из г. Десногорска очень рады, что есть люди, которые так бережно хранят культурное наследие Великого Братского Белорусского славянского народа. 02.06.2002 г.» І каля трыццаці расіян падпісаліся пад гэтымі словамі.

У лютым 2003 г. у раёне адзначалі 60-годдзе Асвейскай трагедыі. Я прыехаў з укладзенай мною кнігай народнай памяці «Дзеці вайны». Неабыякавая падзея 2003 г. і такая: мне было нададзена званне Ганаровага грамадзяніна Асвеі.

А 2004 год зноў быў юбілейным для музея. Споўнілася 25 зімаў і летаў з той пары, як я, пераступіўшы парог хаты бабкі Параскі, убачыў прысценны ручнік-абярэг. У вышытых сюжэтах — памяць русалляў XI-XII стагоддзяў. Ідыяграма вады — знак з эпохі неаліту. Зырчэлі выявы Берагіні, Вясны-Лады. Гэты ручнік «перанёсся» потым на вокладку майго зборніка «Пры сьвячэньні...»

10 траўня 2004 г. сябры «Клуба цікавых сустрэч» (кіраўнік Людміла Гагалінская) весела адзначылі ў Цінкаўцах 25-годдзе музея-сядзібы. На здымку В. Салаўёва суседзяцца са мной Н. Пагаранская, Э. Аржанік, У. Харахардзін, В. Шчасны, А. Бубала, А. Мядзюта, А. Гендзік, Н. Глацёнак, Ч. Петрашкевіч, Н. Масквічова, П. Квяцінскі...Усяго — 25 радасных аблiччаў !

*Сябры «Клуба цікавых сустрэч» адзначаюць у Цінкаўцах 25-годдзе музея-сядзібы. 10.05.2004 г.* **Фота В. Салаўёва.**



Можна было б высвеціць на экране майскага неба ўвесь верш , прачытаны ў той дзень Аляксандрам Мядзютам. Але і апошнія чатыры радкі з яго твора аказаліся вельмі «гаваркімі»:

*Не кідайся к мору, не лезь на Эльбрус,—*
*І сэрца тваё не зацісне туга.*
*Тут радасць сама — і бліжэй Беларусь*
*Да хаткі тваёй на зялёных лугах.*

У гэты ж дзень сваю пашаноту народнаму музею выказалі супрацоўнікі Бігосаўскага сельсавета і дзіцячага садка. Многім бігосаўцам я вельмі ўдзячны за аздобу музея. Прызнальны Жарнасеку У. М. і аўтарам такога подпісу ў Гасцявой кнізе: «Тут працавалі для хаткі Параскі Чарняўскі, Навічонак і Алеська».

Так, дапамагалі мне зычэнні — вусныя і пісьмовыя, як ад Антона Бубалы:

*Дык хай пад страхою у бабкі Параскі*
*З цяпельца жывога ды з Божае ласкі*
*Цвіце-расцвітае жар-птушкай натхненне...*

Не маркоцілася хатка і ў жніўні 2004 г. Пажадалі «...значных поспехаў у развіцці музея і творчасці аўтара» А. Муха з Еўпаторыі, Л. Абуховіїч і М. Абуховіч з Наваполацка, сям'я Мухаў з в. Баліны.

## У сакральнай хаце

Адчувальным быў дотык ласкі не толькі з Еўпаторыі. Аляксандр Аўсяннікаў і Уладзіслаў Перац у жніўні перадалі паклон з С.-Пецярбурга і Ельца: «...успомнілі карані свае, удыхнулі часцінку беларускай духоўнасці».

А 5 верасня 2004 г. паэтка Наталка Пазняк з Кіева была зачаравана прыберагам Дзвіны:

*Жыццё — бы ў кліпе стэп:*
*Да шчасця шлях не гразкі...*
*Як смачна пахне хлеб*
*На ручніку Параскі.*
*Калі — камін пячэ,*
*А поруч — добрі друзі,—*
*Размову ткаць лягчэй:*
*Мы, як чмялі на вузе.*
*Душа ўваскрэсла ў нас:*
*Настоена на мяце.*
*Задумваецца час:*
*Мы ж у сакральнай хаце.*
*Прысядзем на парог.*
*Хай паспрыяюць продкі,*
*Каб з тысячы дарог*
*Быў шлях сюды кароткі.*




*Госця з Кіева Наталка Пазняк. 5.09.2004 г.* **Фота С. Панізніка.**

*Мы вернемся ў той сад,*
*Дзе з ласкай кветка-краска...*
*...Завуць на свой пасад*
*Панізнік і Параска.*

Усе госці былі ўдзячны Міхасю Скоблу за аўтапрабег па Прыдзвінні, бо змаглі наведаць і яшчэ адзін мой музей — у Лявонпалі. А вось у Цінкаўцах паэт Міхась Скобла быў вымушаны закончыць свой верш «жахлівымі» словамі. А пачынаў зусім аптымістычна:

*У хаце бабкі Параскі*
*Нам сніліся цуды і казкі...*
*Здавалася: Божы знак —*
*Поруч Панізнік, Пазняк...*

*Здавалася: згода й каханьне,*
*Мы елі шашлык і яглы...*

*І раптам на развітанне*
*Мяне закулі ў кандалы!*

Гэта ж мы толькі «прымерылі» на руках паэта жалезныя путы, якімі калісьці гаспадары ратавалі сваіх коней ад цыганскага крадзяжу. Таму Міхась Скобла ў постскрыптуме выказаўся прозай: «Жадаю ўсім трапляць тут у кандалы любові й сяброўства».

Праўда, тыя путы не ратавалі музей ад узломаў і крадзяжоў. І яшчэ адна маркота: Цінкаўцы трапілі ў памежную зону. Доўга самоцілася на стале Гасцявая кніга. З апошніх запісаў просяцца словы пра тое, што 30 верасня 2008 года Л. Лямневіч, В. Фесіна, Р. Бабашка ад імя ўдзельнікаў семінара арганізатараў адукацыі Віцебскай вобласці пажадалі: «...росквіту музею, цікавых гасцей, натхнення, здароўя, новых плённых сустрэч!».

Новыя сустрэчы былі. Былі і перамовы з паважанымі асобамі раёна. Але не было ўхвалена маё памкненне перадаць у дарунак раёну музейную сядзібу, каб было каму апекавацца цікавымі наведнікамі , плённымі сустрэчамі на тысячагадовым Шляху з Грэкаў у Варагі.

З ручніком-абярэгам бабкі Параскі святкую 35-годдзе музея і прамаўляю на кужаль: «Берагіня — Вялікая Багіня Маці-Зямля-Карміцелька! Вясна-Лада! Удзячны вам і Уладару нябёсаў за асвячэнне абдоймаў з Айчынай, да якой прытуляліся вашыя і мае госці. Не змаркоцімся ў незабыўнасці».



# Сяргей Башлыкевіч

**музыка, паэт, бард. Лідар гурта «Leibonik».**
**Лаўрэат фестывалю «Бардаўская восень — 2014».**
**Нарадзіўся ў 1987 годзе ў Ашмянах на Гарадзеншчыне.**
**Жыве ў Мінску.**

# Пра музыку, прасякнутую тутэйшасцю...

***Сяргей Башлыкевіч — таленавіты беларускі спявак, лідар гурта «Leibonik». Сяргей нарадзіўся ў горадзе Ашмяны на Гарадзеншчыне. Яшчэ з юнацтва ён пачаў граць на гітары. Перабраўшыся ў Менск, усё больш і больш часу прысвячаў музыцы, удзельнічаў у музычных конкурсах і фестывалях. У 2014 годзе стварыў гурт «Leibonik». Мы пагутарылі з Сяргеем і даведаліся пра тое, чым ён зараз жыве, што яго да гэтага прывяло, і якія планы ён мае на будучыню.***

**Альдона Мартыненка:** —- *Сяргей, раскажы, калі ласка, што такое «Leibonik»?*

**Сяргей Башлыкевіч:** — Наша, я б так сказаў, музычная групоўка — гэта я, Сяргей Башлыкевіч, гітарыст Міша Міхайлоўскі, клавішнік Цімафей Бейсман, каханіст Марат Сагітаў і вакалістка Аня Рубчэня. Даволі цяжка вызначыць наш стыль. У нас ёсць напрамак з акустычнымі баладамі, а ёсць і іншы — з рознымі весялухамі. Сам гурт «Leibonik» мы вырашылі развіваць у першую чаргу ў якасці вясёлага, драйвовага праекта. Гэта асноўны напрамак. Такі акустычны лайт-рок... Адным словам, наш праект — гэта прыемная сучасная музыка з беларускім акцэнтам.

**А.М.** — *Адкуль прыйшла ідэя ўзяць такі назоў?*

**С.Б.** — З самага пачатку не планавалася, каб гэта было назвай гурта. Назоў з'явіўся проста ў якасці нік-нэйму ў камп'ютарным клубе, калі я яшчэ вучыўся ў школе. На той момант я быў вельмі ўражаны амерыканскім пісьменнікам Уолтэрам Міллерам. У сваіх творах ён апісваў пост-апакаліпсічны свет. У яго была кніга «Святой Лейбовиц и Дикая лошадь». Мяне чымсьці зачапіла слова «Лейбовіц». Сярод сяброў яно не прыжылося, усім хацелася нешта памяншальнае. Так і пайшло — Лейбонік. Падчас вучобы ва ўніверсітэце я стаў падпісваць свае запісы «Leibonik», каб было зразумела, хто спяваў. А калі ўжо з'явіўся гурт, то мы проста захавалі гэтую назву.

**А.М.** — *А чаму менавіта акустыка?*

**С.Б.** — Тут хутчэй тэхнічная прычына: прасцей арганізоўваць рэпетыцыі, выбіраць пляцоўкі для выступаў. У нас няма паўнавартаснай рытм-секцыі, няма бас-гітары, у нас кахон замест бубнаў. Мы хочам у першую чаргу аформіць акустычнае гучанне, сфарміраваць пэўную песенную праграму, а потым ужо перайсці на наступны этап. Ведаеш, гэта як прыступка. Пачнем з гэтага і будзем рухацца наперад.

**А.М.** — *Шмат хто ведае цябе менавіта як барда. Што ты думаеш на гэты конт?*

**С.Б.** — Бардаўскія спевы — гэта хутчэй мой сольны праект. Але мне не вельмі падабаецца гэтае слова. Бардаўская музыка ў нашай краіне перайшла ў нейкі рафініраваны стан. Яна зусім не адлюстроўвае сучасную беларускую музыку. А ёсць бардаўскія традыцыі больш сталыя, заходнія. Вось, напрыклад, Боб Дзілан — тыпічны бард. На такіх музыкаў я і імкнуся арыентавацца. З беларускіх бардаў я б вылучыў Яўгена Барышнікава. Гэта чалавек, які выдатна валодае гітарай, у яго арыгінальная падача матэрыялу, шыкоўныя тэксты. Ён такі своеасаблівы бард, які сёння патрэбны Беларусі.

**А.М.** — *На твой погляд, музыка, якую вы ствараеце, зараз запатрабаваная?*

**С.Б.** — Мне падаецца, што так, запатрабаваная. Мне самому асабліва не хапае, з аднаго боку, беларускамоўнай весялухі, а з другога — гістарычнасці, якая якраз у бардаўскім напрамку развіваецца. Не хапае музыкі, прасякнутай тутэйшасцю...

**А.М.** — *Якую тэндэнцыю ў развіцці беларускай музыкі за апошні час ты можаш вылучыць?*

**С.Б.** — Я не ведаю. Я не лічу, што я абсалютна абазнаны ва ўсіх напрамках беларускай музыкі чалавек. Я слухаю тое, што гучыць у маім асяроддзі, у інтэрнэце, сярод знаёмых. А часам проста ў «Графіці» прыходжу ўвечары і адкрываю для сябе новыя гурты. Я не бяруся аналізаваць гэтыя працэсы.

**А.М.** — *Ёсць такі напрамак у музыцы, дзе ты хацеў бы паспрабаваць свае сілы?*

**С.Б.** — Хм... Напэўна зрабіць нешта кшталту гумарыстычнага рэпу. Не альбомчык, а проста некалькі запісаў. Таксама электроншчынай было б цікава пазаймацца. Шмат дзе хочацца сябе паспрабаваць.

**А.М.** — *Як ты ставішся да камерцыйных гуртоў?*

**С.Б.** — Абсалютна нармальна. «Metallica» — адзін з самых камерцыйных рок-гуртоў сучаснасці. І я не магу іх асуджаць за тое, што яны за свой канцэрт хочуць атрымаць грошы. Яны робяць якасны прадукт, і я больш чым упэўнены, што ім гэта падабаецца. А тое, што за працу яшчэ і грошы плацяць, то гэта ўвогуле цудоўна. Я ні ў якім разе не бачу падстаў, каб асуджаць гэта.

**А.М.** — *Чым ты займаешся акрамя музыкі?*

**С.Б.** — Акрамя музыкі для мяне асноўнае — праца і адукацыя. Я інжынер-праграміст. Займаюся праграмаваннем у невялікай канторы. Што тычыцца хобі, то я гуляю ў «Што? Дзе? Калі?». Да нядаўняга часу яшчэ ва ўніверсітэце выкладаў на чвэрць стаўкі.

**А.М.** — *У які момант ты вырашыў займацца музыкай?*

**С.Б.** — Не было у меня такога моманту. Музыка — гэта проста частка майго жыцця. З самага пачатку хачу сказаць, што я ніколі не марыў пра гітару. Аб гэтым марыла мая сястра. Калі я вучыўся ў 11-м класе, ёй падаравалі гітару на Дзень народзінаў. Недзе з месяц яна проста стаяла і збірала пыл. Я паду-

маў: «Ну, нехта ж павінен навучыцца граць» (смяецца). Сябар дапамагаў мне вучыцца, паказваў акорды. На той час не было аніякага ўяўлення, што гэта я музыкай займаюся. Я вучыўся не дзеля таго, каб пісаць песні, а менавіта, каб навучыцца граць. Я пісаў вершы, спрабаваў ласці іх на акорды. А потым ужо пачаў пісаць песні.

**А.М. —** *Якія ў цябе бліжэйшыя мэты, планы адносна музыкі?*

**С.Б. —** Пакуль што нам трэба сыграцца як гурту. Мы хочам зрабіць запісы, якія можна будзе людзям паказаць, даць паслухаць. Таксама адчуваем неабходнасць сфарміраваць цэльную праграму з песень аднаго настрою, без перападаў, каб усё было больш-менш роўна.




**А.М. —** *Як адбываецца працэс стварэння кампазіцыі?*

**С.Б. —** Па-рознаму. Бывае, што тэкст можа вырасці спачатку як верш. Прыдумаўся радок, а потым пайшло і пайшло... А пасля ўжо пад гэты верш спрабуеш прыдумаць музыку. Часам той жа верш вырастае не з радка, а з ідэі. А бывае, граеш, граеш тое, што гучыць у галаве , і атрымліваецца песня.

**А.М. —** *А якія цяжкасці могуць узнікаць?*

**С.Б. —** Бывае, нешта хочацца зрабіць, здаецца, клёвая ідэя ў галаве, але не атрымліваецца ўвасобіць яе. У мяне на камп'ютары ёсць вельмі вялікі архіў такіх вось напрацовак. Магчыма, калі выйду на пенсію, я перагледжу іх, нешта падпраўлю і запішу альбом... (усміхаецца)

**А.М**. — *Як змянілася твая музыка за час існавання цябе як музыканта?*

**С.Б. —** У першую чаргу змяніліся тэмы. Апошнім часам стараюся больш асэнсавана падыходзіць да падбору тэмаў, пачаў у бок літаратуры больш глядзець. Гэта сапраўды цікава. Напрыклад, прачытаў які-небудзь аповед, і хочацца ўзяць за аснову сюжэт. Я стаў падыходзіць да таго, што песні пішу з поўным асэнсаваннем, а не проста, сеў, палабаў на гітары, напісаў песню. Гэта звязана таксама і з тым, што нас даволі часта сталі запрашаць спяваць на канцэрты. І ведаеш, проста хочацца паказваць людзям нешта новае, развівацца, шукаць сябе.

**А.М. —** *Што ты думаеш пра сучасную музыку?*

**С.Б. —** Яна жыве і развіваецца. Матэрыял становіцца разнастайней. Ёсць што паслухаць.

**А.М. —** *Распаўсюджана меркаванне, што апошнім часам з'яўляецца настолькі шмат усяго, што новай музыкі, па-сутнасці, не ўзнікае. Усе проста капіруюць адзін аднаго. Ты згодны з такой думкай?*

**С.Б. —** Гэта рацыянальнае сцверджанне. Усё так і ёсць. Але я думаю, што, напрыклад, у 19-м стагоддзі які-небудзь Вагнэр таксама сядзеў і думаў, што ўсё ўжо было прыдуманае да яго. Асноўная фішка — гэта як скампанаваць



матэрыял, знайсці цікавую тэму, падаць па-новаму. Як у літаратуры: усе кнігі можна звесці да шэрагу сюжэтаў, але іх ўсё роўна пішуць і цікава ж чытаць. І з музыкай тое ж самае. Пішуць новую музыку і цікава ж слухаць. Значыць яна жыве.

**А.М.** — *Ты можаш сказаць, што нясеш канкрэтную ідэю альбо пасыл сваёй музыкай?*

**С.Б.** — Розныя песні нясуць розныя ідэі. Я б сказаў, што галоўны пасыл — слухай сваё і добра праводзь час. Я стараюся, каб музыка не напружвала. Мне падаецца гэта важным.

**А.М.** — *Якія асноўныя парады ты даў бы пачынаючым музыкам?*

**С.Б.** — Я б сам паслухаў парады пачынаючым музыкам (смяецца). Мне падаецца, што трэба больш інтэрактыву з публікай. Камунікацыя — самае важнае. Ну і зноўку, трэба займацца сабой, больш практыкавацца, больш слухаць, больш эксперыментаваць... Бо самаразвіццё і сувязь з публікай — гэта асноўнае.

**Альдона Мартыненка**



# Анатоль Трафімчык

літаратуразнаўца, гісторык, крытык, паэт. Кандыдат гістарычных навук. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар паэтычных кніг: «Пасведчанне аб нараджэнні», «Ноты цноты», «Лірыка лірыка» і шматлікіх публікацый у замежным і айчынным друку. Нарадзіўся ў 1976 годзе ў вёсцы Вялікія Круговічы. Жыве ў Мінску.

# Урокі нябёснага малявання

***Гапееў В.М. Я размалюю для цябе неба: аповесць, п'еса, апавяданні: Рэальнасць, містыка, фантастыка / Валеры Гапееў. — Мінск: Маст. літ., 2013. — 222 с.***

За апошняе дзесяцігоддзе Валеры Гапееў ярка і ўпэўнена заявіў пра сябе. Прычым зрабіў гэта на ніве, шчыраваць на якой адважваюцца адзінкі, — у літаратуры, адрасаванай перадусім падлеткавай і юнацкай аўдыторыі. Творчы «подзвіг» пісьменніка заключаецца яшчэ і ў тым, што ён жыхар шараговага раённага цэнтра — Івацэвічы. А прабіцца ў рэспубліканскі друк, да таго ж нашага вядучага выдавецтва, лягчэй, безумоўна, жывучы ў сталіцы.

Хіба найбольш гучным творам В. Гапеева стала аповесць «Урокі бяспечнага сэксу». Нягледзячы на тое, што яна была ў асноўным добра прынята, знайшліся і скептыкі. Так, берасцеец Сяргей Грышкевіч асабліва вострую крытыку скіраваў на дыялогі маладых персанажаў. Героі атрымліваюцца нібыта празмерна выхаваныя[1]. Думаецца, аднак, што крытык даволі суб'ектыўна і аднабока падыходзіць да «падлеткавай» літаратуры, жадаючы, каб яна «насялялася» вобразамі пераважна з кепскімі якасцямі. Ці не атрымаецца тады літаратуры імаралізму? Да таго ж праўда жыцця — вельмі шырокая (прынамсі шырэйшая за прапанаваную С. Грышкевічам), і ў ёй знаходзіць немалое месца і такая моладзь, якая цвёрда стаіць на глебе маралі. Тым больш што В. Гапееў не імкнецца да ідэалізацыі сваіх маладых герояў — яны паўстаюць са сваімі недахопамі і слабасцямі.

Менавіта такім з'яўляецца пратаганіст першага твора з новай кнігі пісьменніка. Кароткая аповесць «Ксюхіна поле» — гэта хутчэй апавяданне. З дзвюх сюжэтных ліній, якія дапамаглі б узбіцца твору на больш буйны фармат, адна — пытанне пра бацькоўства галоўнага героя Сяргея — становіцца толькі «падпоркай» для раскрыцця разгортвання яго стасункаў з дзяўчынай, імя якой вынесена ў загаловак.

Самога Сяргея Аўтар пастараўся зрабіць, калі можна так сказаць, усярэдненым: хлапец далёкі да тых, з каго варта браць прыклад, разам з тым і да шэрагу «прапашчых» яго не прылічыць. Жыццё прымушае юнака, які яшчэ не скончыў школу (застаецца адзін клас), думаць. Перадусім сямейнае жыццё: бацька не лічыць Сяргея сваім сынам з усімі выцякаючымі адсюль наступствамі ў адносінах. Вымушаны раней за сваіх пагодкаў прымаць сур'ёзныя

---

1 Гл. падрабязней: Грышкевіч С. Урок, якога не было, альбо Правільных дзяцей не існуе // ЛіМ, 2009, 27 лют. С. 6 (гл. там жа яшчэ адну падобную ацэнку Ж. Капусты). Развівае сваё стаўленне крытык і надалей: Грышкевіч С. Проза ўчарашняга дня, альбо Каму патрэбна цнатлівае чытво пра сучасных школьнікаў? // Жырандоля: літ. Альманах Брэсцкага абл. аддзял. Саюза бел. пісьменнікаў, №4, 2012. Брэст: ААТ “Брэсцкая друкарня”, 2012. С 238-244.

рашэнні Сяргей уцякае жыць да бабулі ў прыгарадную вёску. Там ён сутыкаецца са светам яшчэ горшым, чым той, у якім жыў юнак: «І раптам перад ім адкрыўся невядомы яму раней бок чалавечага жыцця, вычварны, нечаканы ў сваёй агіднасці, проста неверагодны, каб быць сапраўдным» (с. 15). Адбылося так пры сустрэчы з Ксюхай — выхаваценькай інтэрната «для дэбілаў і псіхаў». Для яе ў той жа час свой кантэкст прывычны, пра існаванне іншага яна не здагадваецца. У прыватнасці абавязковым для выканання ў ім з'яўляецца правіла расплачвацца: «можна ў рабы запісацца, з пасылкі разлічыцца» (с. 13). Ксюха не грэбуе расплаты «натураю»: «Ты ж мяне ціскаць будзеш тады, як усю <рыбу> пасмажыш?» (с. 12), — будзённа пытае дзяўчына ў Сяргея пасля пачастунку. Па-за інтэрнатам яна таксама не мае магчымасці зазірнуць у іншы жыццёвы ці хаця б жыцейскі фармат, бо канікулы праводзіць у цёткі, якая арганізавала прытон для наркаманаў.

«От жа скажы, якая моцная рэч — параўнанне. Дзень таму, ды што дзень — гадзіну таму, калі скрэб рыбу і ўспамінаў, як піў тут бацька са сваімі сябрукамі, Сяргея гняла думка: чаму бацькі яго аднакласнікаў гатуюць шашлыкі з сынамі для ўсёй сям'і? У чым ён вінаваты, што бацька не прызнае яго за свайго сына? Лёгка з такім жыць? І вось прыйшла Ксюха. Тут выявілася, што чорны колер мае градацыі: больш чорны, менш чорны...» (с. 15), — гэта ўжо словы Аўтара, але развагі героя.

Такім чынам, перад 16-гадовым Сяргеем узнікаюць дзве сур'ёзнейшыя жыццёвыя задачы: высветліць бацькоўства і наладзіць дружбу з Ксюхаю, разам з тым не ўцягнуўшыся ў спажыванне канопляў. Аўтар, дэманструючы працэс вырашэння праблем галоўным героем, не дае канчатковага завяршэння гэтых сюжэтных ліній. Аднак здзейснены Сяргеем учынак — знішчэнне таемнай плантацыі канопляў — указвае, які выбар у канчатковым выніку робіць герой пасля глыбокіх роздумаў і перажыванняў. Канешне, такі крок не ацаніла б Ксюха. Хоць у многім якраз дзеля яе хлопец пайшоў на рызыку. Ці ўдалося вырваць дзяўчыну з асацыяльнага кантэксту, чытач не даведаецца. Але можна не сумнявацца, што галоўны герой як найлепей (прынамсі для свайго ўзросту) засвойвае ўрокі жыцця:

«Сяргей не ведаў, што ў жыцці галоўнае. Але гэтае пытанне яго не турбавала. Няхай галоўнае застаецца невядомым. Куды важней ведаць, што з'яўляецца другасным. Тады шлях відней...» (с. 65).

Тым не менш у аспекце сюжэтнасці твор бачыцца недапрацаваным. Так, чытач не даведаецца, хто ж насамрэч бацька галоўнага героя. А гэта лінія пачыналася несумненна цікава... Але найбольш турбуе будучыня Ксюхі, — яна ж таксама ў аповесці не апошні персанаж. Калі далейшае жыццё Сяргея — прынамсі ў светапоглядным падмурку — збольшага зразумелае. Дык наконт Ксюхі няясна зусім. Не сказаць, каб аўтар не даў адказу па гэтым пытанні. Аднак далей намёку на аптымістычнае развіццё справа не пайшла. А хацелася б канкрэтыкі: які жыццёвы шлях чакае Ксюху? Былі б героі старэйшымі, замоўчаны

эпілог лёгка прадугадваўся б і змяшчаўся б у трывіяльную формулу — «усё будзе добра і яны пажэняцца». Ды да «неабходнага» ўзросту ім далёка, як мінімум два гады, за якія дзяўчыну балота прытону безнадзейна і канчаткова засмактала б. Якіх-небудзь яшчэ варыянтаў ні Аўтар, ні наша фантазія не вымалёўвае. І ў гэтым — істотны недахоп мастака.

Іншыя апавяданні В. Гапеева ў разглядаемай кнізе, па-першае, нечакана «дарослыя» (хоць, несумненна, цікавасць выключуць і ў моладзі), а па-другое, не рэалістычнага плану:

— амаль фантастыка,
— віртуальная рэальнасць,
— містычная рэальнасць,
— магчымая рэальнасць,
— амаль рэальнасць,
— амаль казка.

Такія жанравыя азначэнні дае кожнаму аповеду сам Аўтар. Хоць у класічным літаратуразнаўстве знайшліся б і агульнапрынятыя дэфініцыі. Зрэшты, не гэта важнае. Галоўнае, што творы не праходзяць міма ні галавы, ні сэрца: выклікаючы эмпатыю (а гэта ці не галоўнае для мастацтва), яны ўрэзваюцца ў памяць.

Так, «Вартаўнік, альбо Колцы Одры» апавядае пра тое, што можа зрабіць чалавек у імя кахання: спярша дасягнуць неверагоднага навуковага адкрыцця (фактычна машыны часу), а затым пакінуць усё — і перабрацца да каханай (яе вобразам стала вядомая актрыса Одры Хэпбёрн, 1929 — 1993; героі жылі на два з паловаю стагоддзі пазней за яе). Разам з тым Аўтар апявае і натуральнасць прыгажосці і прыгажосць натуральнасці: рэч у тым, што сучасніцы герояў «яшчэ да 15 гадоў мадэлявалі свае пысачкі, бюсты, тулавы, ногі, рукі, валасы, пазногці, вушы, словам — усё. Ідзеш вуліцаю — і раптам ловіш сябе на думцы, што ідзеш па велізарнай краме сярод шпацыруючых вялікіх лялек» (с. 124). Ці не да працытавай карціны няўхільна і мэтанакіравана блізіцца ўжо наша з вамі пакаленне? Вось вынік такой «эвалюцыі» і малюецца В. Гапеевым — не столькі як прадказанне, колькі як папярэджанне. (Чым не навуковая фантастыка?). Прычым адначасна прапануецца і альтэрнатыва — Одры, з-за якой не шкода і сябе і якой не варты, такім чынам, цэлы акаляючы герояў свет штучнай жаночай прыгажосці:

«І з ракі выходзіла жанчына. Одры Хэпбёрн.

Па яе вільготнай скуры, якая нагадвала паверхню няспелага персіка, абмінаючы акуратныя, ледзь апушчаныя ўніз жывыя грудзі, збягалі кропелькі вады. Мяккі круглявы жывот. Нязвыкла было бачыць вялікі цёмны трыкутнік густых кучаравых валасоў унізе жывата — у тыя часы не было ў правілах у жанчын пазбаўляцца цалкам там валасоў. Не сучасныя — недасканалыя паводле формы, але дзівосныя сцёгны. Маленькія, амаль дзіцячыя ступні ног.

У мяне перахапіла дыханне» (с.129).

З кола прапануемых у кнізе апавяданняў таксама хацелася б выдзеліць «віртуальную рэальнасць» «Game begins!» і «амаль рэальнасць» «Аўтобус». Мастацкасці гэтых твораў не перашкодзіла пэўная мараль, якая з іх вынікае. У першым з названых галоўны герой Генка вырашае адпомсіць сябру і кампаньёну за адлучэнне ад агульнай справы — стварэння інфармацыйнага партала ў Інтэрнэце. Прычыны персанаж не хавае — адсутнасць яго жадання сур'ёзна працаваць. Магчымасць помсты прадастаўляецца выдатная: праз віртуальны заказ Генка атрымлівае мапу свайго горада з маштабам 1 да 10 у фармаце 3D, прычым у рэжыме on-line! Але і гэта не ўсё. Карыстальнік можа не толькі разглядаць на мапе самыя патаемныя закуткі, але і звычайным маніпуляваннем клавіятуры і мышкі прыносіць шкоду ў залежнасці ад свайго жадання. Таму Генка з радасцю ўчыніў пагром у офісе нядаўняга кампаньёна. На раніцу выявілася, што падзеі віртуальнай прасторы ў яго камп'ютары сталі рэальнасцю! Гэты факт усцешыў героя пачуццём зларадства, тым больш, што кампаньён, з якім Генка спецыяльна сустрэўся на другі дзень, не змяніў свайго стаўлення. У наступны вечар (а гульня ўключалася толькі ў сімвалічныя 24.00) пагром працягваўся. Генку не хвалявала, што ён пры гэтым набірае нейкія балы і яму «свеціць» павышэнне ўзроўню. Урэшце дайшло да чалавечых ахвяр. Аднак пасля гэтага, як аказалася, герой сам апынуўся ў віртуальнай і адначасова рэальнай гульні — на выжыванне. Разам з яшчэ дванаццаццю, відаць, падобнымі мсціўцамі. Гэтакі сюжэт, несумненна, наганяе жудасці. Чым, па-першае, адваджвае ад падобных камп'ютарных цацак са здзяйсненнем забойстаў, па-другое, прымушае ставіцца да людзей паводле біблейскай сентэнцыі не рабіць іншым таго, чаго не жадаеш для сябе.

Вышэй згаданы «Аўтобус» уяўляе цікавасць не толькі з гледзішча закручанасці сюжэта, але і стварэння адносна шырокага кола мастацкіх характараў людзей, якія апынуліся ў грамадскім аўтобусе, падбітым падчас рэйса маланкаю. Падарожжа, тым не менш, працягнулася. Але неўзабаве выявілася, што аўтобус едзе па зачараваным коле, якое да таго ж пераадольваецца з кожным разам за меншы прамежак часу. Спыненне, як прыйшлі да высновы, па ўсёй верагоднасці, азначае смерць. Аднак і працяг руху вядзе да ператварэння аўтобуса і прысутных там у кропку, а значыць — мае фактычна той жа вынік. З такім зыходам ніхто, акрамя хіба дакторкі, не згодны. У кожнага свае прычыны. Разам з тым — а гэта, бадай, рыхтык экзістэнцыялісцкая сітуацыя! — кожны з пасажыраў выявіў сваю сапраўдную сутнасць. Так, жонка пачала вінаваціць мужа ў тым, што ён сапсаваў ёй жыццё. На гэта ён адказаў, што ні жонка, ні цешча яго не лічылі «за чалавека, не кажучы ўжо пра мужчыну», і прызнаўся ў існаванні яшчэ адной сям'і (с. 177-178). Спакой дакторкі абумоўлены таксама пэўнымі прычынамі: «Я ўдзячная Богу, што два дні таму мама памерла ў мяне на руках, і яе пахавала. Дачка замужам, сын заканчвае ўніверсітэт. Муж — чалавек самастойны. Шкада, што

яны будуць гараваць па мне. А так... Я зрабіла свае справы так, нібыта была гатовая памерці ў любы дзень» (с. 178). Адносна спакойная і пара закаханых, бо «цяпер можам пачаць цалавацца — і будзем цалавацца вечна...» (с. 179). Але былі і такія, якім пазарэз патрэбна было выжыць. Яны рашаюцца на адчайны крок — выйсці з аўтобуса на хаду (хоць хуткасць ужо была набрана неверагодная). Ініцыятарам такога кроку з абсалютна невядомымі наступствамі стала жанчына, якая сабрала грошы на аперацыю сваёй хворай малалетняй дачкі, але яны не будуць дастаўлены па прызначэнні пры трагічным зыходзе, бо, акрамя яе, ніхто не ведае ключоў для электроннага пераводу. Логіка ініцыятывы простая — горш не будзе. Як і можна было чакаць, той крок стаўся выратавальным. Такім чынам, вярнуліся да жыцця яшчэ два пасажыры: падлетак, які меў паралізаваныя ногі, але ў аўтобусе пачаў хадзіць, і пісьменнік, які напісаў твор свайго жыцця і мог загінуць разам з ім. Высновы з гэтага апавядання простыя, як у казцы пра мышку, якая, трапіўшы ў малако, не пагадзілася з сітуацыяй (у адрозненне ад яшчэ адной сваёй супляменніцы) і, узбіўшы рэчыва на масла, такі выкараскалася. Можна меркаваць, што гэтым апавяданнем Аўтар вылучае і свае каштоўнасныя прыярытэты, сярод якіх побач з аксіялагічнымі вяршынямі паводле Ф. Дастаеўскага знаходзіцца месца і прыгожаму пісьменству.

Найлепшым жа творам кнігі, безумоўна, з'яўляецца апошняе апавяданне, якое і дало назву выданню, — «Я размалюю для цябе неба». Фармат класічнай антыўтопіі, як аказваецца, не вычарпаны і па-ранейшаму прыносіць плён «інжынерам чалавечых душ» (І. Сталін). В. Гапееў у чарговы раз даказвае, што любы таталітарызм, узурпаванасць улады — гэта з'явы часовыя, гістарычна непрацяглыя. Чалавечая памяць захоўваецца. А пачуцці — самае галоўнае з якіх каханне — невыкараняльныя. Як нярэдка бывае ў творах падобных жанраў, шлях да перамен пракладаецца маладым пакаленнем. Так і ў апавяданні В. Гапеева рэвалюцыянерам становіцца разумны і перспектыўны выпускнік школы Яўген. І магчыма, у яго іншадумства не развілося б да рэвалюцыйнай мяжы, каб яму аддалі ў жонкі (а будучыню людзей вызначала сістэма) каханую дзяўчыну. Сіптаматычна, што Аўтар не пазбегнуў відавочных паралелей з актуаліямі. Нават праблеме мовы і гістарычнай памяці знайшоў месца — прычым на айчынны капыл: «Некалі даўно-даўно ў нас была іншая мова. На той мове размаўлялі яшчэ задоўга да Цемры. Праўда, яе імкліва пачалі забываць, бо лічылі непатрэбнай — ставала другой мовы, якая здавалася ўсім зручнай і сучаснай. На старой мове адно запісвалі розныя гісторыі... Вясёлыя гісторыі... Разумныя гісторыі... Добрыя... Калі наступіла Цемра, сярод нас былі яшчэ тыя, хто ведаў гэтую мову. Але тут, пад Купалам, яна стала наагул непатрэбнай. І нават шкоднай. <...> Мы павінныя былі забыцца на гісторыі. І забыліся. І на мову забыліся — навошта яна?» — аднойчы прызнаўся настаўнік Яўгена, колішні навуковец, адлучаны ад даследаванняў, як можна здагадвацца, за непаслухмянасць пошукаў (с. 200).

Адзіная п'еса «Сертыфікат» у кнізе размешчана пасля першага твора, адрасаванага, як вышэй казалася, падлеткава-юнацкай аўдыторыі. У жанравым азначэнні п'еса і названа школьнай. На авансцэне В. Гапеева — старшакласнікі.

Законы драматургіі — у параўнанні з той жа эпічнай прозай — больш складаныя пры вывядзенні мастацкіх характараў. Звычайна яны раскрываюцца ў дзеянні. Аднак В. Гапееў цалкам апраўдана не грэбуе і ўказаннем неабходных псіхалагічных рыс ад самага пачатку твора — з пералічэння дзейных асоб, вытрымліваючы адпаведныя паводзіны персанажаў па ходзе дзейства. Думаецца, яму гэта ўдаецца.

Аўтар выводзіць не паасобныя характары, а цэлую галерэю. Прынамсі даволі цэласна выпісаны кожны з членаў школьнай каманды, якая прайшла ў фінал раённага турніру па брэй-рынгу. Усе яны вельмі розныя людзі. Але стрыжань сумлення, калі хочаце, кантаўскі маральны імператыў — у сітуацыі, калі трэба або аддаць перавагу прынцыпу, або спакусіцца на матэрыяльную ўзнагароду — абгрунтоўвае аднолькавы адказ усіх удзельнікаў каманды на пастаўленае жыццём пытанне. Але той адказ у кожнага меў сваё рашэнне — якраз адпаведна характару кожнага. Паводле законаў драматургіі, «самое понятие литературного характера предполагает определенное единство поступка и его внутренней мотивировки»[2]. І ў п'есе В. Гапеева гэты тэзіс героі ўвасабляюць надзвычай выверана. Да адзінадушнага адказу ім было прыйсці нялёгка. Тым больш, што, як трапна выказаўся яшчэ ў 1821 г. адзін з піянераў рускага літаратуразнаўства М. Асталопаў, «характер есть врожденное расположение действовать таким, а не другим образом... характер не иное что есть, как страсть, управляющая беспрестанно и умом, и сердцем»[3].

Дылема, якая паўстала перад старшакласнікамі, наступная. Адзін бізнесмен прапануе ім прайграць (бо хоча зрабіць падарунак дачцэ, якая выступае ў камандзе сапернікаў). Узамен — кожны атрымлівае грошы, да таго ж немалую дапамогу мае атрымаць школа. Апошняе абяцанне гарантавана сертыфікатам, што ўступіў бы ў сілу на наступны дзень пасля пройгрышу. Такім чынам, бок бізнэсмена заняла і дырэктар школы. Бізнэсмен так расставіў цянёты, што, здавалася б, жаданы вынік ім будзе дасягнуты.

Але раптоўна сертыфікат знікае. Пад падазрэнне трапляюць, канешне, гульцы каманды, тым больш, што яны ў штыкі ўспрынялі прапанову «аб продажы д'яблу шасці душ адзінаццацікласнікаў і дзвюх дарослых, жаночых» (словы веселуна Лёшыка, с. 91). Дырэктар катэгарычна патрабуе вярнуць дакумент. І тут наступае самае цікавае. Спачатку капітан Ірына прызнаецца ў крадзяжы.

2 Бочаров С.Г. Психологическое раскрытие характера в русской классической литературе и творчество Горького // Социалистический реализм и классическое наследие (проблема характера) / Под общ. ред. Н.К. Гея и Я.Е. Эльсберга. М.: Государственное издательство художественной литературы, 1960. С. 90.

3 Паводле: Шаталов С. Е. Время – метод – характер. Образ человека в художественном мире русских классиков. Пособие для учителя. М.: «Просвещение», 1976. С. 3.

Затым лірык Ромка кажа тое самае. І гэтак далей. У кожнага свая матывацыя, якая і «ўскрывае» індывідуальнасць натуры герояў. В. Гапееў ілюстратыўна прадэманстраваў адпаведнасць палажэнню вядомага тэарэтыка літаратуры А. Анікста, што «конфликт по самой своей природе требует определенности характера, поступки и речи должны выражать достаточно ясно направленность воли и страсти героя»[4].

Развязка наступае нечакана. Аказваецца, сертыфікат сцягнула ўнучка дырэктара і зрабіла самалёцік. Пасля гарачых спрэчак дакумент знаходзіцца. Гэта ўражвае ўсіх. А найбольш — якраз дырэктара, якая яшчэ колькі хвілін таму «выбівала» ў сваіх вучняў сертыфікат:

Вольга Фёдараўна (*павольна, абвёўшы позіркам усіх*). Цяпер я ведаю, што вас не купіць ні воранаў, ні сарокін, ні гусеў... (*Спакойна, без эмоцый дзярэ сертыфікат адзін, другі і трэці раз.*) (с. 121).

Такім чынам, п'еса атрымалася не толькі ідэйна, выхаваўча правільнай, але і па-мастацку выверанай. Магчыма, якраз такая рэалізацыя задумы ідзе і на пэўную шкоду твору. Таму што пры ўсёй удаласці яго застаецца асадак рамесніцкага падыходу без душэўнай пакліканасці творцы.

У цэлым большасць твораў новай кнігі В. Гапеева пакідаюць уражанне калі не дэжавю, дык адназначна матэрыялу знаёмага. М. Весялуха ў сваім кароткім водгуку на гэту ж кнігу нават ставіць пытанне, скіроўваючы яго перадусім самому пісьменніку, наступным чынам: «Дык, можа, недарэмна за Валерыем Гапеевым замацаваўся імідж аўтара выдатных твораў для падлеткаў і зусім нявартa спяшацца разбураць гэты вобраз?»[5] Але, пагадзіцеся, у наш век прыгожае пісьменства рэдка абыходзіцца без параўнанняў і паралелей, сугучнасці і нават паўтораў з падобнымі ці па форме, ці па змесце ранейшымі вынікамі мастацтва слова. Таму важна іншае — што літаратура (на беларускай мове і ў Беларусі) плённа развіваецца. Пішуцца новыя кнігі. Шэрагі літаратараў папаўняюцца новымі аўтарамі. Распрацоўваюцца згодна з новым сацыяльным кантэкстам тэмы. Тым больш радуе, што добрымі аўтарамі, як, прыкладам, В. Гапееў, багата Беларусь — кожны яе куточак.

---

4 Аникст А.А. История учений о драме: теория драмы от Гегеля до Маркса. М.: Наука, 1983. С. 74.

5 Весялуха М. Зазірнуць за гарызонт // Звязда, 2014, 13 сакавіка. С. 5.



# Эдуард Дубянецкі

паэт, гісторык, культуролаг, эсэіст. Аўтар кніг паэзіі: «Душы маёй нясканчаны палёт» (2011 г.) і «Покліч самотнага неба» (2013 г.), навукова-папулярных кніг, энцыклапедычных даведнікаў і навучальных дапаможнікаў па гісторыі Беларусі, беларусазнаўству, культуралогіі. Кандыдат гістарычных навук (1995 г.). Нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Чудзін на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

# Дзе свядомасць дыктуе радкі...

***Хадарэнка І. Свядомаграфія: вершы. — Мінск: Кнігазбор, 2012. — 84 с. (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 24).***

*У ліку неабходных умоў, якія складаюць*
*сапраўднага паэта, павінна абавязкова быць*
*сучаснасць. Паэт больш, чым хто-небудзь,*
*павінен быць сынам свайго часу.*
**Вісарыён Бялінскі**

У гісторыі кожнай нацыянальнай літаратуры можна знайсці мноства прыкладаў паэтычнай творчасці, якая «абапіралася» пераважна або на эмоцыі і пачуцці, або на сферу неўсвядомленага (падсвядомасці), або на інтэлект і свядомасць. І менавіта да ліку такой, так бы мовіць, «свядомаснай» паэзіі можна з поўным правам аднесці вышэйназваны зборнік вершаў айчыннай пісьменніцы, перакладчыцы і даследчыцы ў галіне культуралогіі Ірыны Хадарэнка. Гэта яе чацвёртая па ліку мастацкая кніга: раней былі кнігі паэзіі і прозы, якія выйшлі ўжо досыць даўно і засведчылі з'яўленне на айчынным літаратурным небасхіле новай, але досыць яркай і самабытнай творчай адзінкі-зорачкі.

Яе новая кніга «Свядомаграфія» складаецца з дзвюх частак: уласна аўтарскіх твораў і вершаваных перакладаў з розных моў [1]. У сваіх вершах паэтка спрабуе, з аднаго боку, найлепшымі словамі выявіць свае хвалюючыя думкі і перажыванні, а з другога, усімі магчымымі спосабамі «дагрукацца» да душы і сэрца сваіх землякоў. А гэта для кожнага творцы надзвычай важна, бо, як калісьці слушна адзначаў выдатны беларускі пісьменнік Міхась Стральцоў, «клопат усялякага слова — знайсці найкарацейшы шлях да суразмоўніка, слухача, чытача» [2, с.415].

Відавочна, што І. Хадарэнка прадстаўляе інтэлектуальную плынь у сучаснай айчыннай паэзіі. Сведчаннем гэтага з'яўляецца імкненне паэткі да спасціжэння духу нашага часу, да філасофскага асэнсавання складаных праблем сацыяльнага жыцця і этнапсіхалогіі суграмадзян, а таксама яе шырокая эрудыцыя, што пацвярджаецца згадваннем у вершах імёнаў знакамітых гістарычных асоб і міфалагічных персанажаў (напр., Буда, Платон, Ікар, Праметэй, Рагвалод, сусветны дэміург, паганскі бог і інш.). Многія вершы паэткі вызначаюцца своеасаблівым аналітычным падыходам і «нагружанасцю» навуковымі тэрмінамі з розных галін гуманітарнай думкі. Пра гэта досыць яскрава можа сведчыць, напрыклад, незвычайны для сённяшняга прыгожага пісьменства верш з культуралагічна-псіхалагічнай назвай «Кароткі крос-культурны аналіз эмацыянальнай парадыгмы»:

*Каханне як міфалагема*
*Звычайна лашчыць розум еўрапейца.*

*Яно сваім святлом праменным*
*У цемрадзі быцця дае сагрэцца.*

*Каханне як цявіна лёсу*
*Павінна жыць у сэрцы азіята.*
*І на шляху душы ў нябёсы*
*Вібрыруе яно струной напятай* [1, с.34].

Паэтычную творчасць Ірыны Хадарэнка можна таксама аднесці да т.зв. «паэзіі думкі», паколькі паэтка практычна ва ўсіх сваіх вершах спрабуе выказаць набалелае, данесці да чытача свае развагі і запаветныя думкі наконт разнастайных праблем сучаснага жыцця. І робіць яна гэта нярэдка вельмі ўдала, прычым яе адмысловымі памочнікамі ў гэтай пачэснай справе выступаюць створаныя ёй арыгінальныя метафары і нестандартныя эпітэты. Большасць вершаў знешне вызначаюцца досыць спакойным, роўным тонам і стылем паэтычнага выказвання, маюць пераважна сумна-элегічны характар, відавочную мінорную інтанацыю.

Аўтарка досыць добра адчувае спецыфічны пульс сённяшняга часу, усведамляе лёс і магчымую будучыню свайго народа. А гэтыя здольнасці, як красамоўна сведчыць эпіграф да нашай рэцэнзіі [3], вельмі важныя для кожнага сур'ёзнага творцы, асабліва для сапраўднага паэта, словы якога павінна быць максімальна ёмістымі, бо ў іх у кандэнсаваным выглядзе адлюстроўваюцца не толькі аўтарскія эмоцыі і думкі, але і перажыванні, фобіі і надзеі розных сацыяльных пластоў грамадства. І наадварот, няўменне «ўлавіць» хаду часу найчасцей даволі прыкметна збядняе змястоўна-сэнсавы складнік творчасці паэта, абмяжоўвае, звужае яго агульны кругагляд і робіць больш бляклай творчую палітру аўтара.

Беларуская паэтка абвострана адчувае сацыяльную несправядлівасць, адсутнасць сапраўднай свабоды ў айчынным соцыуме, а таксама дакладна і смела «дыягнастуе» самыя вострыя сацыяльныя хваробы і язвы, псіхалагічныя праблемы многіх людзей — напрыклад, канфармізм, празмерную рахманасць, бязвольнасць, алкагалізм, сямейную бязладзіцу і да т.п. Ірына Хадарэнка прагна шукае няўлоўную ісціну, праўду жыцця, імкнецца да асабістай волі, аднак звычайна сустракае на гэтым шляху сур'ёзную перашкоду, паколькі *«спавітыя нератам шарай гадзіны // Абсягі свабоды ў гаротнай краіне»* [1, с.39]. Прычым добра, што аўтарка не толькі займаецца канстатацыяй усялякіх грамадскіх праблем і вострай крытыкай паводзінаў высокіх чыноўнікаў, шэраговых тубыльцаў, але часам і прапануе канкрэтныя крокі па выхаду з крызіснага стану, па паляпшэнні мікра- і макраклімату ў жыццёвай прасторы асобы і ўсяго соцыума. Так, яна дае наступны «рэцэпт» своеасаблівага выпраўлення чалавечых і грамадскіх хібаў, заганаў: *«Не шкадаваць і не баяцца — // І пераможаш...»* [1, с.28].

Паэзія І. Хадарэнка відавочна разважлівая, удумлівая, ці, так бы мовіць, свядомасная (на што празрыста «намякае» сама назва кнігі!), бо аўтарка спра-

бує пастаянна рэфлексаваць над нашым сённяшнім жыццём-быццём. Пры гэтым найчасцей паэтка адчувае маральна-духоўны дыскамфорт, сваю ментальную адчужанасць ад большасці суграмадзян, неадольную прагу да ўнутранай свабоды, што пацвярджаюць, напрыклад, досыць тыповыя для стылю і зместу яе твораў наступныя вершаваныя пасажы:

*Цяпер мне млосна, розум у журбе.*
*І вабяць зноў далёкія мясціны.*
*Што ж сталася? Чаму ў сваёй Айчыне*
*Чужой я мушу адчуваць сябе?.. [*1, с.9]*;*

альбо:

*Куды схаваўся той магутны дух,*
*Які перамагаў у жорсткіх сечах?*
*Навокал — толькі рэха аплявух,*
*Хлусня і зайздрасць, смутак і галеча...* [1, с.21].

Адным з найбольш удалых вершаў, які ва ўсёй красе дэманструе добрае валоданне паэткай паэтычным майстэрствам, а таксама выяўляе яе шчырую ўсхваляванасць і відавочную схільнасць да роздуму над няпростым лёсам сваёй краіны, мне ўяўляецца наступны:

*Краіна туманаў! Твае краявіды*
*Кранаюць мне сэрца шчымлівай тугой.*
*Ты трапіла ў нерат няўмольнай планіды,*
*Што ў бездань нябыту вядзе за сабой.*

*Твой крыж — памяркоўнасць. Ты надта рахмана*
*Суседзям раздорвала скарбы свае.*
*І ззяе ў душы незагойная рана:*
*Чаму ж сілы волі табе не стае?..* [1, с.8].

Акрамя таго, станоўчымі рысамі рэцэнзуемай кнігі можна лічыць упэўненае валоданне аўтаркай паэтычнай тэхнікай, наяўнасць розных відаў верша (традыцыйны верш, верлібр, трыялет), схільнасць да пошуку нечаканах рыфмаў і арыгінальных метафар. У якасці прыкладаў можна прывесці такія рыфмы, як «лузер — all inclusive», «біямасы — сам-насам», «род — Рагвалод», «парламентарыі — калумбарыі — ламінарыяй», «верлібры — калібраў», «нашчэнт—абсэнт», а таксама наступныя метафары і параўнанні: *«Ідэя застывае, як бетон, // І можа, як вясновы снег, растаяць»; «Феі часу штохвілінна // Чаруюць над верацяном; «Замураваныя ва ўласнай несвабодзе, // Зачараваныя сляпой надзеі плямай»; «Час застылы, як воск»; «Прага да волі трымціць, // Быццам кропля вады ў павуцінні»; «Ды рэзала душу, нібы нажом, // Сляпое прадчуванне блізкай здрады»; «А памяць застыла таемнай казюркай у цёмным бурштыне»* і інш. Вельмі цікава выглядае таксама і спроба аўтара прымяніць на практыцы такі адмысловы сродак мастацкай выразнасці, як алітэрацыя. Вось як выглядае фрагмент верша «Цянёты цыклону» з выразнай алітэрацыяй на літару «ц»:

*Духоўнасці сцябло*
*Цкуе сцюдзёны вецер;*
*Цярэбіцца цалок*
*Нясцерпна ад суквецця ў* [1, с.45].

Некаторыя аўтарскія творы вызначаюцца арыгінальнымі рытмамі, відавочнай меладычнасцю, нават песеннасцю (дарэчы, на некаторыя яе творы беларускімі кампазітарамі напісаны песні), што ў пэўнай ступені можа быць абумоўлена наяўнасцю ў аўтаркі музычнай адукацыі па класу фартэпіяна. І сапраўды, верш пад назвай «Музыка» гучыць нібы ўзнёслая і выкшталцоная песня:

*Можа быць марай,*
*можа быць мрояй,*
*стаць абярэгам*
*ці нават зброяй,*
*моцнай атрутай,*
*сілай гаючай,*
*шляхам у пекла*
*ці ў неўмiручасць...* [1, с.33].

Зразумела, што рэцэнзуемая кніга, як практычна і ўсе зборнікі вершаў любога паэта, не пазбаўленая асобных недахопаў і слабых месцаў. Прычым апошнія, як ні парадаксальна, могуць у пэўнай ступені нібы «выцякаць» з лепшых бакоў творчасці паэта. Напрыклад, выразная сацыяльна-філасофская, інтэлектуальна-роздумная скіраванасць паэзіі Ірыны Хадарэнка часам спрычыняецца да празмернай рацыянальнасці і своеасаблівай «сухасці» асобных вершаў, што выяўляецца ў іх недастатковай эмацыянальнасці, моцна зніжанай пачуццёвасці, амаль поўнай адсутнасці лірычнай усхваляванасці. Падобную сітуацыю калісьці хораша апісаў выдатны айчынны паэт і крытык Рыгор Семашкевіч: «Перад паэтамі звычайна паўстае праблема дыялектычнага спалучэння пачуцця і думкі. Часта атрымліваецца так: ці пераважае эмоцыя, гіпертрафія якой вядзе да празмернай пачуццёвасці, ці верх бярэ думка (гэта бывае радзей), і тады пачынаецца сухі рацыяналізм» [4, с.143].

Лічу, што дакладным і ясным пры выказванні сваіх думак і пачуццяў пажадана быць любому чалавеку, а людзям творчых прафесій гэтая якасць патрэбна ў найбольшай ступені. У сувязі з гэтым згадваецца крылатая фраза «Дакладнасць — ветлівасць каралёў», аўтарства якой прыпісваецца французскаму каралю Людовіку XIV. Дык вось, трошкі перайначыўшы вышэйпрыведзенае выказванне, будзе слушным казаць, што «яснасць і дакладнасць — ветлівасць паэтаў». І сапраўды, паэты як, відаць, ніхто з творчых асоб павінны заўжды дбаць пра правільнасць і чысціню свайго паэтычнага маўлення. І тут трэба канстатаваць, што ў рэцэнзуемай кнізе зрэдку сустракаюцца асобныя словазлучэнні, фразы, якія вызначаюцца пэўнай лексічнай і сэнсавай недакладнасцю, няправільнасцю. Возьмем, скажам, заключнае чатырохрадкоўе з верша «Мая нацыя ў стане стагнацыі»:

*Тая большасць завецца тутэйшымі,*
*Памяркоўнасць ім служыць пасагам;*
*Зручна пасвіцца ім па-ранейшаму*
*Пад агульнае млявасці сцягам* [1, с.17].

Гэты фрагмент верша адразу выклікае некалькі пытанняў і заўваг. Напрыклад, як можна *пасвіцца* (тым больш *людзям*) пад *сцягам* (тым больш нейкім дзіўным *«сцягам млявасці»*), скажам шчыра, мне незразумела, бо пасвіцца, як вядома, могуць толькі жывёлы, а пад сцягамі звычайна прынята хадзіць у паходы, шпацыраваць на парадах, ісці ў бой, etc. А *памяркоўнасць* наўрад ці можа служыць *пасагам*, паколькі апошні азначае маёмасць і грошы, што давалі бацькі нявесты сям'і жаніха, а каму ж могуць аддаць, падараваць (ды й як гэта ўвогуле магчыма?!) сваю памяркоўнасць мясцовыя жыхары...

А цяпер некалькі слоў пра змешчаныя ў кнізе пераклады. Апошнія займаюць досыць значную частку кнігі (больш за трэць) і прадстаўляюць нам творчасць адзінаццаці паэтаў, з якіх чатыры расійскіх (А. Пушкін, Ф. Цютчаў, Г. Ахматава, М. Гумілёў), шэсць польскіх (Я. Твардоўскі, Ч. Мілаш, Р. Ваячак, М. Бялашэўскі, А. Стронк, Б. Май) і адзін літоўскі (Э. Межалайціс). Большасць перакладзеных твораў вызначаюцца філасофскай і псіхалагічнай заглыбленасцю, тэматычнай разнастайнасцю, інтэлектуалізмам, наяўнасцю розных відаў і жанраў верша. Паколькі практычна ўсе паэты з'яўляюцца, відаць, блізкімі перакладчыцы па духу, то пераклады зроблены на высокім прафесійным узроўні з відавочнай любоўю да творчасці вядомых замежных паэтаў.

У цэлым, новы паэтычны зборнік Ірыны Хадарэнка атрымаўся змястоўным, насычаным уласнымі думкамі і літаратурна-мастацкімі алюзіямі, нечаканамі метафарамі і рыфмамі. Хаця, зразумела, у гэтай кнізе змешчаны вершы, далёка не раўназначныя па сваёй паэтычнай выразнасці, па сваіх мастацка-эстэтычных вартасцях. Мяркую, будзе не лішнім тут падкрэсліць, што ўсе мае суб'ектыўна-крытычныя заўвагі былі зроблены зыходзячы з таго палажэння сучаснага айчыннага літаратуразнаўства, паводле якога літаратурная крытыка з'яўляецца адным з «фактараў актывізацыі творчага працэсу», а ўласна літаратурны крытык «дыктуе чытацкай публіцы сваё разуменне эстэтычнага густу і мастацкіх каштоўнасцей» [5, с.232—233]. І на заканачэнне хацелася б пажадаць таленавітай паэтцы як мага часцей знаходзіць на сваім творчым шляху сапраўдныя паэтычныя жамчужынкі і адкрываць новыя, неацэнныя мастацкія скарбы.

**Літаратура:**

1. Хадарэнка, І. Свядомаграфія: вершы / Ірына Хадарэнка. — Мінск.: Кнігазбор, 2012. — 84 с.
2. Стральцоў М. Ад маладзіка да поўні: апавяданні, аповесці, эсэ. — Мн.: Маст. літ., 2005. — 430 с.
3. Белинский В.Г. О стихотворениях г.Баратынского [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://az.lib.ru/b/belinskij_w_g/text_0330.shtml.
4. Семашкевіч Р. Выпрабаванне любоўю: Эсэ, артыкулы. — Мн.: Маст. літ., 1982. — 206 с.
5. Тычына М.А. Філасофія літаратуры: беларускі варыянт. — Мінск: Беларуская навука, 2014. — 324 с.



# Вітаўт Мартыненка

публіцыст, паэт, перакладчык, музычны крытык. Працаваў у моладзевай прэсе 80—90-х гадоў, на «Радыё Свабода». Аўтар кніг «Праз рок-прызму» (сумесна з А. Мяльгуем), «Свой сярод чужых», «222 альбомы беларускага року і ня толькі» (сумесна з А. Мяльгуем), «Rock on-line». Падрыхтаваў і выдаў поўны беларускі тэкст рамана Генрыха Сянкевіча «Quo Vadis». Нарадзіўся ў 1959 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Дыскаграфія

## Калі Панчанка не панк, дык ці панк Танк?

***«Blagi Mat!!!» — «The Blagest of Mat», Мн., 2013, «БМAgroup»/»Vigma».***

Нездарма кажуць, што новае — гэта добра забытае старое, бо разглядаючы ў сталічнай музычнай краме на Кальварыйскай свежанькі фрывольны прадукт панк-гурта «Blagi Mat!!!» (16+), як было мне ўжо ў назве альбома «The Blagest of Mat» не спанатрыць рэха 70-х гадоў — чароўных, настальгічных і плённых для рок-н-рола. Вы любілі калі-небудзь глэм-рок гурта «Slade»? Дык іхні ж найлепшы альбом мае назву «Sladest» (1973). Дый класікі хард-року «Deep Purple» ў 1980-м прыгадалі тую залатую эру verybest-складанкай «Deepest Purple» (найглыбейшы пурпур). Хто спіша супадзенні на банальныя выпадковасці, дык раю звярнуць увагу, што ці не гэты пурпуровы фіялет натхніў Ігара Загумёнава на супрацоўніцтва з мінскімі электроншчыкамі «Violet Voices» (фіялетавыя галасы, яны перамікшавалі каронны загумёнаўскі хіт «Пімен Панк», створаны яшчэ ў пераходны ад неа-рамантыка да панку перыяд ягонага праекта «zIGZAG»). А рок-класіку Ігар не адпрэчвае, таму як было не паддацца ейнаму натхненню і ў пошуках назвы для свайго першага (калі не лічыць двух «zIGZAG»-CD) паўнафарматніка? Так і з'явіўся «The Blagest of Mat», паглыбіўшы (deepest) саму благую (ці нават blagest, блажэйшую) ідэю вытвора.

Ідэя, прызнацца, зусім не ў тым, каб надта лаяцца, але яшчэ ў згаданым праекце «zIGZAG» Ігар задумваўся над рознасцю такіх (ціпа) блізкіх моваў, як руская й беларуская. Гэта вам не каракская й раскаракская. Дарэчы, рэмікс загалоўнай песні другога альбома «Тры расейскія літары» (2008, «Каўчэг») трапіў у новы альбом відэабонусам разам з эфектным кліпам Арцёма Лобача для альбомнай песні «DJ Гопнік».

Сама назва гурта нагадвае нам пра акурат няблізкасць дзвюх славянскіх моваў: калі нехта раве благім матам, беларус не чакае «благих намерений», бо кліча гэта лаянкай, а калі яшчэ і Blagest Mat (найблагі), дык увогуле здрыганешся й захістаешся. Супакойвае хіба прадчуванне мастацкай умоўнасці разняволеных артыстаў, бо яны нават падзякі пішуць шчыра благамацерныя, смеючыся з жарганізацыі нашымі ўсходнімі сваякамі нашай святой мовы. Таму й прыемна мне сярод знакамітых творчых людзей (Саша Ракавец з «IQ48», Саша Кулінковіч з «Neuro Dubel», Віталь Супрановіч з «БМAgroup» і нават лаціна-superstar 2011-га, партугала-бразільскі спявак Мішэль Тэло з Медыянейры) адшукаць пад благамацернай павагай і сябе любімага ажно на другім месцы (я ж вам не якісьці апошні Мішэль Тэло, сінгл якога «Ai Se Eu Te Pego» займаў першыя месцы ў чартах Іспаніі, Партугаліі, Чылі, Нідэрландаў,

Італіі, Францыі й Аргенціны). Але беларускую версію «Ai Se Eu Te Pego», якая называецца «Носам», нашыя хлопцы вам падораць (трэк 8).

Ну і раз папёрла незнарок найперш гаворка пра бонусы альбома, дык назавем яшчэ адзін кавэр: «Tut.by». Здагадаліся, каго coverяют? Няправільна. Не толькі «Neuro Dubel», які выдаў у 2002-м песню з такой назвай. Варта ўзгадаць, што гэта была не проста песня, а адказ лаўрэатам аж дзвюх «Рок-Каранацыяў'2000'2001» — супольнаму праекта «Я нарадзіўся тут»: тыя заявілі такое, на што Кулінковіч вырашыў адказаць: «Я пamру тут». Дыялог розных песень упершыню зафіксаваны ў нашай з А.Мяльгуем кнізе «222 альбомы беларускага року» (стар. 290), а вось вам і панкаўскі зварот да гэтай тэмы ад




Ігара Загумёнава, які ў адзін трэк увабраў дзве знакамітыя, культавыя песні. Толькі што ж ён напісаў у выходных звестках свайго альбома: кавэр на «Neuro Dubel» і «N.R.M.». Апошнія хоць і ўваходзілі ў згаданы супольны праект, але ўжо голас Змітра Вайцюшкевіча нагадвае, што нельга было забываць і «Kriwi». Дый Аляксандр Памідораў быў супольнікам у тым каронным праекце Алеся Сушы. Зрэшты, амаль усе яны згаданыя ў благамацерных падзяках.

О, не забыць бы галоўных герояў благамацернага сабантуя! Акрамя спяваючага гітараклавішніка й кампазітара, сапраўднага рас3,14здзяя тэкстаў Ігара Загумёнава (так ён называе сябе ў аднайменнай аўтабіяграфічнай стартавай песні альбома) гурт «Blagi Mat!!!» складаюць фольк-пузоншчыца Яна Бабіцкая (дуда, дудка, жалейка) і легендарны бубнар Аляксей Ефрэменка (ну не любіць у першым складзе перад націскам Е пераводзіць гэты фах у Я, затое засвяціўся ў знакамітых ужо гуртах «PartyZone», «МутнаеВока»). Калі некаму замалы гэты склад, дык на канцэртах Ігар з Аляксеем увогуле ўдвух шуфлююць такую энергетыку, што мала не падасца.

Праўда, у студыйнай сесіі альбома бралі ўдзел і запрошаныя госці, але надта фрагментарна: Марына Андрэеўна дапамагла сваімі гітаркай і клавішамі справіцца з лаціна-беларускім «Носам» ды яшчэ ў рэміксе хіта «Пімен Панк» пасінтэзавала з сваім «Violet Voices», а культавыя «партызоны» Дзяніс Вячэрскі й сам Яўген Цылікаў расквецілі падпеўкамі й фінальнай нойзавай гітарай згаданы «Tut.by» (дарэчы, і пасля гэткай сур'ёзнай працы на сайце www.tut.by у інтэрв'ю перад прэзентацыйным выступам летась у «Дрымлэндзе» з'яўляецца заўвага нейкага троля: «Iyter66 — Пісяl Пісяl Пісяl, гарэлка! Ясіся сала! Пісяl, гарэлка! Ясіся сала!.. Гэта тэкст адной песні з афіцыйнага сайта гурта.

Хто-небудзь патлумачыць, НАВОШТА пра іх увогуле напісалі на ТУТ.БАІ)))))) Хіба гэта сур'ёзны гурт і навіна пра яго заслугоўвае месца ў раздзеле «ПАДЗЕІ Ў СВЕЦЕ»? ))))). Уфф. Ледзь не званітавала»).

І знойдуць жа некаторыя да чаго дачапіцца, хоць да задніцы. А «Пісяǃ.. Ясісяǃ..» — не гэтак надзвычайная бессэнсоўнасць, як падаецца. Бо ў краіне канстытуцыйна гарантаванага раўнапраўя моваў акурат тытульную мову заўсёды папракнуць у непрыдатнасці да спеваў і нават гумару (слухайце радыё, калі яшчэ не выкінулі), а Ігар Загумёнаў, як аўтар тэкстаў і вакаліст, цераз панкаўскі сцёб віртуозна паказаў і жывыя беларускія амаформы, амафоны, двухсэнсоўе, іронію, шчыры гумар: «Пісяǃ-Ясісяǃ», аказваецца, не заўсёды можа абазначаць тое, што вы падумалі.

Такая ж вербальная эквілібрыстыка назіраецца і ў песнях «Рок!!!», «Хіпі», а «Запой» у вечнай атмасферы будаўніцтва чарговай вавілонскай вежы зусім не прапаноўвае агульных спеваў з руйнавальнікамі ўтульнага беларускага дому, а малюе іншыя «братнія ўплывы»:

*Край ты родны мой, што яшчэ з табой?*
*Край ты родны мой, доўжыцца запой.*
*Ці яшчэ больш выразна ў гумарыстычным кавэры:*
*Носам,.. носам,.. зваліўся ў лужу носам...*
*Сам і не заўважыў, як стаў такім п'янтосам.*

Мяркую, «Blagi Mat!!!» не пнецца заваяваць аўдыторыю танным заляцаннем з дрэнным густам, бо выкарыстоўваючы аргатыраваную лексіку, яны й шмат увагі надаюць артыстычнай яе падачы. Кожная песня як своеасаблівы вербальны спектакль, які яўна не «падпяеш за сталом», бо трэба ўмець заграць двухсэнсоўем, слухацкім настроем. «Мо вам не знаёмыя матныя словы?/ Якая цудоўная родная мова,/ Дзе ўсё мілагучна для слыху майго:/ І звонкае «бздзе», і густое «гаўно»...» — перафразуюць хлопцы літаратурных класікаў. Чыталі, факт, і Пімена Панчанку, і Максіма Танка, смела робячы панкаў з абодвух. У выніку з'яўляюцца неабеларускія песні, дзе вельмі мала słоваў, але процьма вербальнай эквілібрыстыкі. І якраз нацыянальнага гатунку, хоць пазначылі свой дэбют інтэрнацыянальным, НІКОМУ не зразумелым, але кідкім брэндам «The Blagest of Mat». Іх ужо папракаюць за гэта, а ці папракаў хто згаданы «Slade», калі яны па-англійску пісалі так, што не ўсе ангельцы разумелі, толькі беларусы: «Look wot you dun», «Gudbuy, T'Jane», «Gudbuy Gudbuy», «Coz I luv you», «Look at last nite»...

## Для «Ceilidh Ceol» і чужое сваё

***«Ceilidh Ceol» — «Сыны старадаўняй Літвы», Мн., 2013, «Vigma».***

Жыццёвыя аксюмароны (блізкасць далёкага, роднасць чужога) многім бянтэжаць розум еднасцю проціпеглага, хоць для развітай логікі, дзе не забыта

дуалістычнасць свету, яны нібы дадатковы аргумент трывалага сэнсу. Праяўляецца гэта і ў беларускім маскульце, калі павярхоўны сэнс нясе адзін вобраз, а ў выніку дасягаеш адваротнага адчування. Вось і чарговая навінка музычнага рынку: гурт з кельцкай назвай «Ceilidh Ceol» («Кейлі кёл»), які прапануе ў сваім альбоме «Сыны старадаўняй Літвы» ірландскія гістарычныя песні, граныя на аўтэнтычных кельцкіх інструментах, ці можа стварыць духовы лек нашаму хвораму на бяспамяцтва народу? Як заўжды, высновай усялякага аксюмарону становіцца парадокс: зможа, калі Божа дапаможа. А дапамагае Бог тым, хто не здрадзіў ойчаму дару, не будуе новую Вавілонскую вежу дзеля новага вавілонскага вэрхалу.

Лідара «Ceilidh Ceol» Алеся Чумакова ведаюць праз удзел у культавым медыявальным гурце «Стары Ольса», але свой бочны праект залучае ў бардаўскую плынь. Зноў парадокс? Але што такое бардаўская песня? Калі верыць палітаналітыкам, нібы яна прыйшла з Расіі пад уплывам Высоцкага, Акуджавы, Камбуравай, хто праігнаруе вялікія купалаўскія радкі: «Кажуць, толькі як выйдзе і ўдарыць як ён /Па струнах з неадступнаю песняй, — /Сон злятае з павек, болю цішыцца стогн, /Не шумяць ясакары, чарэсні...»

Купалаўскую традыцыю працягвае і Алесь Чумакоў з сябрамі, сягаючы да першакрыніц. Музыка сярэднявечнай традыцыі нагадвае часіны, калі гнаныя англасакскімі акупантамі кельты разбягаліся з уласнага дому па ўсёй Еўропе і Амерыцы, пакінуўшы і ў Вялікім Княстве Літоўскім не толькі прозвішчы кшталту Лермонт (пазней імперская Расія зробіць з іх Лермантавых), Шот, наўпрост пераймае пяснярскую традыцыю (кельцкае bard — гэта не англійскае bird, а менавіта спеўная птушка, якая стала і назвай спеўных паэтаў). Як сведчыць прадмова, «на глебе мілагучнасці ірландскіх мелодый шчыры талент такіх выканаўцаў зрабіў Ірландыю краінай бардаў. Песні ірландскага рамантызму дагэтуль папулярныя па ўсім свеце, услаўляючы волю і абуджаючы павагу да сваёй гісторыі».

Дзеля bardаўскіх першакрыніц гурт і назву ўзяў «Ceilidh Ceol» (з ірландскай гэльскай — кэйлі-гранне, супольны джэм-сэйшн). А граюць яны класічным кэйлі-складам песні і танцы пабаў, перагукі розных музыкаў паміжсобку. Бардам ірландскай традыцыі не ўласцівы расійскі аскетызм, бо «СС» (супольны сэйшн) тут твораць Алесь Чумакоў (гітара, мандаліна, губны гармонік, шатландская дуда, вакал), Алеся Чумакова (акардэон, перкусія), Вера Гулюкіна (скрыпка, альт, косткі, вакал), Юрась Баркун і Павел Саракалетаў (папярэчныя ірландскія флейты, вістл, косткі, перкусія, банджо, губны гармонік). На дыску адзначыліся і запрошаныя вакалісты Юры Жаўрыд, Сяргей Тапчэўскі, Тацяна Ячная, разнастайныя аўтэнтычныя грукалкі Аляксея Войцэха, Яўгена Барышнікава, Барыса Машкарова. А пачыналі ж улетку 2005-га ўдвух — Алесь і Алеся Чумаковы. Такія незвычайныя барды: «Мы граем на танцавальных фольк-вечарынах, святах, вулічных фэстах, кватэрніках. Акрамя беларускіх перакладаў вядомых ірландскіх, шатландскіх і брэтонскіх песень, танцаў і ме-

лодый рэпертуар складаюць і ўласныя творы ў абранай стылістыцы (інструменталкі А. Чумакова «Азірніся!» і «Мандарынка»)».

Пераклады адаптаваны ў нашыя рэаліі — ірландскія гістарычныя падзеі, імёны заменены беларускімі адпаведнікамі. Так, патрыятычная «The Minstrel Boy» на верш Томаса Мура пра герояў ірландскага паўстання 1798 года, а ў ЗША з трэцім куплетам была і адным з гімнаў Грамадзянскай вайны, ператварылася ў беларускую «Краіну мар». Калі баладу «Boolavogue» Патрык Джозэф Маккол напісаў да 100-годдзя паўстання 1798 года, дык беларуская «Рудніцкая пушча» выйшла да 150-годдзя беларускага паўстання 1863-га ў гонар гераізму ксяндза Юзэфа Гарбачэўскага, мастака Міхала Андрыёлі ды ўсіх, хто на Лідчыне змагаўся за волю ў атрадзе Людвіка Нарбута.




600-годдзю Грунвальдскай бітвы прысвечана загалоўная «Сыны старадаўняй Літвы» — пераклад «Down by the Glenside (The Bold Fenian Men)» Падэра Кэарні, дзе жанчына пяе славу даўнім героям, быццам знаёмая з імі, бо гэта дух самой Радзімы:

*На шляху праз прысады я старую прыкмеціў:*
*Поліць ружы, зрывае чырвонаеквецце.*
*Моўчкі ўслухаўся я, як жанчына спявае*
*Славу мужным сынам старадаўняй Літвы.*

Неафіцыйны нацыянальны гімн Ірландыі «God Save Ireland» Цімаці Салівана па-беларуску загучаў «За Радзіму! За Герояў!». Вельмі актуальна гучаць для беларусаў таксама «Два курганы», бо гэта пераклад ірландскай «Si Bheag, Si Mhor» (B.Warfield/O'Carolan), якая заклікае сцішыць варожасць у расколатым на два лагеры грамадстве.

Яшчэ трансфармацыя — «Толькі месяц узыдзе»: арыгінал «The Rising of The Moon», напісаны ў сярэдзіне XIX стагоддзя Джонам Кэйсі, распавядае пра ірландскіх пікінераў, што біліся з брытанскай арміяй у 1798-м, а героі перакладу — сяляне-касінеры, якія змагаліся за вольную Беларусь. Галоўнай дзеючай асобай абрана шляхцянка Эмілія Плятэр, якая ў свае 25 год на чале атрада касінераў Браслаўшчыны загінула ў паўстанні 1831-га (атрад вытрымаў шэраг баёў з расійскім войскам і ледзь не захапіў Дынабург (Дзвінск, Даўгаўпілс):

*«О скажыце, пані Плятэр, спешка гэтая нашто?»*
*Блішчуць вочы маладыя, ззяе чырвань яе шчок:*
*«Сціхні, браце, ты загад мой несці будзеш грамадзе —*
*Косы мусяць быць узняты, толькі месяц узыдзе».*

І хоць нават lovesong «Мілы мой» («Danny Boy», 1910) Фрэдэрыка Ўэзэрлі распавядае ад імя жанчыны трагічную гісторыю рэкруцкага лёсу (каханы вяртаецца так позна, што тая пастарэла і памерла), але не падманвайцеся суровасцю ўсіх песень, бо «Піва няма» створана паводле гумарыстычнай «A Pub With No Beer», дзе кельтааўстраліец Гордан Парсанз паклаў на музыку верш ірландскага паэта Дэна Шэана, напісаны ў 1943-м. Варта дадаць, што ў 1957-м сінгл з творам стаў залатым, дасягнуўшы топавых пазіцый у Аўстраліі й Ірландыі, а ў Амерыцы ўвёў неалагізм паб (спярша там спявалі «бар, дзе піва няма»). Беларусы і тут захавалі талерантны дуалізм.

У прадмове Алесь Чумакоў акцэнтуе ўвагу на рамантычнай плыні жанру, падкрэслівае падобны лёс кельтаў і ліцвінаў («Альбом прапануе падарожжа ў перыяд рамантызму, які спарадзіў у нас класікаў польскай літаратуры А. Міцкевіча і Ю. Крашэўскага, паспрыяў фармаванню новай беларускай літаратуры ў творах Я. Чачота, Я. Баршчэўскага, А. Рыпінскага, У. Сыракомлі, В. Каратынскага, В. Дуніна-Марцінкевіча»). Гэта выяўляе і мастацкая аздоба: «Сімвалам рамантызму ў паэзіі, музыцы, жывапісе становіцца арфа, — пішуць выдаўцы. — Гравюра славутага ліцвіна Рамуальда Жукоўскага, які ілюстраваў фантастыку Яна Баршчэўскага ў XIX ст. (выява арфіста ў атачэнні памятак рыцарскіх часінаў), стала сімвалам беларускага нацыянальнага рамантызму, таму ў рэканструкцыі сучаснага мастака Аляксея Валынца стварыла пазнавальны брэнд новага рэлізу». І нават калі слухач зусім выпаў з гнязда роднай культуры, гэты альбом папулярных ірландскіх песень пакіне ў ягонай душы глыбокі пласт айчыннай культуры. Спраўджана!

## «Exist M»: асэнсуй, чаго яшчэ не было...

***«Exist M» — «Redefining/Пераасэнсаваньне», Мн., 2013, «БМAgroup»/ «Vigma».***

У нашай на дзіва талерантнай краіне, дзе нават беларуская мова на сваёй зямлі мусіць дзяліць куток з усімі колішнімі й сучаснымі прыхаднямі, чамусьці толькі законаахоўнікі грэбуюць законам аб раўнапраўі моваў, не стварыўшы нават сеткі адукацыі на роднай мове. Тым не менш сумленныя грамадзяне тупа прытрымліваюцца літары закона. Надзвычай выразна відаць гэта ў масскультуры, дзе чамусьці нехта ўвёў табу, нібыта татальнай мовай, скажам, рокэкстрымам можа быць толькі ангельшчына. Парадокс у тым, што пры ўсім гэтым людзі, якім школа й тэлебачанне далі на роднай мове толькі лапці, граблі й балалайку, а калегі па музычным цэху — здраду й мазахізм, ствараюць свае палымяныя творы або толькі на роднай мове («Znich», «Soulsides», «Weeping Twilight», «LitvinTroll», «Soncavarot», «Like a Gossamer»), або ў спалучэнні english з беларускай («DeadMarsh», «Dialectic Soul», «Partyzone», «Re1ikt», «Imprudence»). Акурат да такіх звышпаслухмяных можна залучыць і «Exist

М» — маладых мінскіх паслядоўнікаў modern groove metal (г.зн. сучаснага метал грува, адчуцця поклічу да супольнага руху, гойдання ў танцы), якія летась прэзентавалі ў сталічным клубе «Re:Public» свой дэбютны паўнафарматнік «Redefining».

Прызнацца, канцэрт тады ператварыўся ў шумны «Metal Redefining Fest», бо падтрымаць калегаў выклікаліся ў той дзень дастаткова раскручаныя й перспектыўныя каманды «Posthumous Blasphemer» (technical brutal death), «Stanmarsh» (metalcore, hardcore), «VerSus7» (groove metal, hardcore), «Nemdis» (melodic death metal), «Bloodlust» (death metal). Не страшна, што паводле назваў тут — усялякая пасмяротная лабуда і крыважэрнасць, але стылістычна слухач атрымаў порцыю нестрыманага драйву, што шыбаваў праз магутную сцяну гуку, як і было напісана ў афішах. Карацей, наладаваліся жывымі эмоцыямі ўсе.

Што да альбома «Exist M», дык іхняе «Redefining» (пераасэнсаванне) цікавае не толькі сваім музычным наватарствам, сумессю яркіх і насычаных рытмаў з наймагутнейшым жаночым гроўлам (не паверыце, што дзяўчына так раве — чароўная й пяшчотная Наста Паламар, якая ўзяла сабе галівудска-касметалагічны псеўданім), але й магчымасцю сур'ёзнага сацыялагічнага досведу ў галіне беларусазнаўства. Наконт апошняга, ці ўдасца вам адказаць на пытанне, пра што спяваюць на роднай мове шчырыя патрыёты, якія той мовы жыўцом амаль нідзе не чулі? Звычайна гэта наіўны суплёт сугуччаў (не рыфмаў) кшталту «Беларусь/ганарусь», «край/хай», «магла/занемагла», але «Exist M» апынуўся здольным нават на віртуознае жанглiраванне актуальнымі лозунгамі, за якімі прасочваюцца водгукі палітычных дэкларацыяў пэўных канкрэтных асобаў:

*Калі ты гародніна, а твой муж мяса,*
*Ты не вастры дарэмна лясы.*
*Нічога лішняга не гавары —*
*З гародніны і мяса суп вары.*
*Зварыла боршч? Вары яшчэ,*
*Каб ўсё вакол было ў баршчэ.*

Мяркую, аўтара цытаты няма патрэбы нагадваць. Хаця б дзеля прынцыпу «забыць Герастрата». Але як парадыйна гэта гучыць у магутнай аздобе метал-грува. Песня гэтак і называецца «Боршч».

Не менш сэнсавых практыкаванняў падораць вашай душы й песні «Воля», «За грошы», «Кола». Асабіста я зрабіў нават філалагічнае адкрыццё над уяўнай памылкай выразу «Нам трэба выйсці ў свет трох вымярэнняў,/ Пакінуць след сваім пакаленням». Многім здаецца, што трэба «пакінуць след наступным пакаленням», але асэнсуйце першасны кантэкст: «свае пакаленні» — гэта тыя нашчадкі, якія прыйдуць па нашым калене (таму й ПАкаленні). Такім чынам, наша найпершая задача — паклапаціцца пра «свае пакаленні», пакінуць ім трывалы след, каб не знікла памяць пра нашае калена («Кола»).

А ў песні «Воля» ўвогуле зарыфмаваны (з бездакорнымі рыфмамі, рытмамі й логікай) цэлы навуковы трактат:

*Ці можаш ты назваць сабе прычыну*
*Матывацыі ўчынкаў:*
*Што стаіць за кожным крокам?*
*Што ўплывае, якім бокам,*
*На твой лёс і месца ў свеце?*
*Чаму ты — не проста смецце?*
*Што дае наогул права*
*Табе звацца чалавекам?*
*Што стаіць за кожнай справай? —*
*Ці задумваўся аб гэтым?*




З 10 трэкаў альбома толькі 5 аддаюць даніну нацыянальнаму экстрым-мазахізму, што патрабуе спяваць на мове, якую не разумеюць ад нас нават ангельцы, а мы... Ну пра якога «старэйшага брата», які ці заслугоўвае нашай любові, гаворыцца ў песні «Room 101»? А рыфма «strong/wrong» у песні «High Inside» ці не аналаг тутэйшым шэдэўрам кшталту «кеды/палукеды»? Ці адчуе слухач паэтычныя вобразы ў гэтых, хоць і правільных граматычна, але часам банальных інфармацыйных тырадах? Магчыма, зачараваныя плёнам музычных фантазіяў, мы паверым у высокі палёт эмацыйнага пачуцця, але праз эмацыйны адэкват наўрад ці далятуць чуткі адтуль, дзе слова гэтае адчуваецца не цераз слоўнікавы сэнс, а шырэй.

І ўсё ж альбом атрымаўся: мы чуем тут сапраўдны прафесіяналізм музыкаў, спалучэнне актуальных стыляў экстрэмальнай музыкі ад блэку да мадэрн-металу, вольнае карыстанне беларускай і англійскай мовамі выканання, што ніколі не пакідае слухачоў абыякавымі. Атрымаўся рэліз яркім і насычаным таксама цераз спалучэнне ў грув-метале сапраўды рухавай маторыкі, ствараемай вытанчанай рытм-секцыяй (бубны Форнэуса, бас Аляксея Кузняцова, гітара Аляксея Ялоўскага), з наймагутнейшым жаночым гроўлам.

Гурт «Exist M» тлумачыць сваё дэмакратычнае дзвюхмоўе дыктатам сусветнага радыёрынку, дзе яны паспелі навязаць прыкметную ратацыю сваіх вытвораў, але мой асабісты досвед паказвае, што большых поспехаў дасягае не той, хто гнутка прагінаецца пад зменлівы свет, а той, хто прымушае свет

прагнуцца пад сябе (даруйце за вольны пераказ А.Макарэвіча). Авангардызм іхняй музыкі ўжо ўпісвае іх у сусветныя тэндэнцыі, але прыгадайце славуты «Rammstein», які скарыў свет нямецкім рок-спевам, а пахіснуў сваю славу акурат англамоўем. Хто першым прымусіць свет слухаць беларусаў in original? Школьная копія чорнага квадрата Малевіча не можа радаваць надта доўга. Усе прагнуць пачуць тое, чаго яшчэ не было.

Чытайце «Верасень» у Беларускай інтэрнэт-бібліятэцы kamunikat.org
а таксама на сайце tbm-mova.by




Да ведама аўтараў: рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца
Рэдакцыя не нясе адказнасці за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты